# PLATO

Symposium (The Banquet)

Ion

In Byelorussian

Translation from Greek text

Preface

and

Commentary

by

John Piatroŭski

1970

# ПЛЯТОН

Выбраныя дыялёгі

*Сымпозыён Іён*

З грэцкага тэксту на беларускую мову пераклаў,
папярэдзіў уводзінамі і агледзіў камэнтарамі

ЯН ПЯТРОЎСКІ

1970

**Той, каторая кіравала мой духовы ўзрок**

**у напрамку Спрадвечнага, маей добрай Маці,**

**Юстыне Пятроўскай замест кветак на няведамую Яе магілу**

**прысьвячаецца.**

Перакладчык

## ЗЬМЕСТ

# ФІЛЯЗОФІЯ ЛЮБОВІ

## Уводзіны

Наступныя[1]) два дыялёгі, **Сымпозыён** і **Іён**, у перакладзе на беларускую мову падаюцца гэтым як вынік далейшага ўгляду ў дзіўны сьвет гэльленістычнае культуры.

Чым болей учытваемся мы ў глыбокі зьмест Плятонавае спадчыны і супроцьставім яго іншым культурам, тым болей астаемося пад уражаньнем велічы і першапачаткавасьці старажытнага грэцкага спосабу думаньня і выплываючае адсюль неабходнасьці зблізэньня да яго.

„Праўдзіва вялікім чалавекам зьяўляецца той чалавек, каторы чыніць кажнага іншага чалавека чуцца вялікім“.[2]) — Гэтым вялікім чалавекам, які ўплывае на нас сваею веліччу, зьяўляецца Плятон. Бо Плятон, у першую чаргу, выкрывае ўменьне разрозьніваньня таго, што ёсьць вялікім ад таго, што зьяўлаецца найбольшым у жыцьці. Веліч гэтая вяртае дужасьць чалавеку, удыхвае радасьць жыцьця і пераканань‍не ў сілу і жывучасьць ідэалаў, будзячых гэтага чалавека да шляхэтнага чыну.

Плятонізм — гэта Захад. Захад — гэта выяўленьне ўльтыматыўных паняцьцяў Сьведамасьці, Справядлівасьці, Права, Свабоды, Чалавека і ягонае ўласнае годнасьці. Мы далучаемся да грэцкіх пэрыпатэтыкаў з мэтаю займеньня тае адухаўляючае моцы, якая крыніцаю ўсьведамленьня б'е зь іхнага дыялёгу.

Дыялёг — гэта гутарка, гэта вымена думкі на ўсе пад сонцам тэмы прынцыповага характару. Дыялёг выключае кажную прадузятасьць думкі, і нічога апрыёры ня прыймае за праўду. Дыялёг хоча дасьледзіць кажнае зьявішча і кажную думку, і прыняць той выснаў апошні, які будзе ў сузгоднасьці з розумам чалавека.

„Традыцыя Захаду цесна вяжацца зь Вялікаю Канвэрсацыяю, якая выцякае з першых расьцьветаў гісторыі і падтрымлівае сваё існаваньне да сягоньняшняга дня. Якіяколечы заслугі могуць мець іншыя цывілізацыі ў іншым аспэкце, ніякая іншая цывілізацыя ў гэтым дачы-

---

[1]) Першыя тры дыялёгі: **Абарона Сакратаса, Крытон** і **Файдон** у перакладзе Яна Пятроўскага вышлі з друку асобнаю кнігаю ў выданьні Беларускае Друкарні ў Зл. Штатах у 1967 г.

[2]) А. Г. К. Чэстэртон (1874-1936), ангельскі ассэісты.

неньні не зьяўляецца падобнаю да Заходняе цывілізацыі. Ніякая іншая цывілізацыя ня можа прэтэндаваць, што прыкметы, чынячые яе апрычонай, зьяўляюцца дыялёгам гэткага роду. Ні ў якай іншай цывілізацыі няма гэткага дыялёгу, які мог-бы быць параўнаны з дыялёгам Захаду — з колькасьцю вялікіх твораў і з розумам, які гэтулькі ўнёс у гэтыя дыялёгі. Мэта, у напрамку якое Заходняя супольнасьць крочыць, зьяўляецца цывілізацыяю дыялёгу. Дух Заходняе цывілізацыі зьяўляецца духам досьледу. Дамінуючым яе элемэнтам зьяўляецца Лёгос. Нічога не павінна аставацца недыскутаваным. Кажны можа выказацца ў дадзеным прадмеце. Ніякая прапазыка не павінна аставацца без досьледу. Вымена ідэямі ўважаецца тут за шлях у напрамку рэалізацыі магчымасьцяў расы".[3])

Гэорґ Вільгэльм Фрідэрix Гэгэль (1770-1831), філязофія якога базуецца на фундамэнтальнай рэальнасьці і сіле Абсолюту[4]) і якая зьяўляецца ў сваей натуры баржджэй духоваю чымся фізычнаю, у сваім творы „Філязофія Гісторыі" (частка другая — „Сьвет Грэкаў") кажа:

„Паміж грэкамі мы зараз-жа чуемся як дома, бо мы знаходзімся на абшары духа; і хоць выток нацыі, гэтаксама як і філязафічныя асаблівасьці могуць быць высьледжанымі далей — нават да Індыі — фактычны выток, праўдзівы палінґэнэзіс[5]) духа павінен быць перадусім шуканы ў Грэцыі . . . Грэцыя адсланяе перад намі радасны аспэкт юнацкае сьвежасьці, духовае жыцьцёвасьці. Гэта тут перш сталася, што пастурпаючы наперад дух сам у сабе творыць зьмест уласнага волевага акту і ўласнае веды. . ."

Грэкі мелі нахіл да гутаркі, да дыялёгу. У рэзультаце, здаецца, гэтага нахілу, не зразумела як, і неспасьцярожна для назіральнікаў гісторыі стварыўся новы духовы сьвет, сьвет розуму і лёгікі, пра які ведамая дасьледчыца гэльленізму, Эдыт Гамільтон, кажа: „Пяць сот гадоў перад Хрыстом, у малым месьце на заходняй мяжы аселага і цывілізаванага сьвету дзіўная новая сіла пачала дзейнічаць, нешта такое прабудзілася ў розумах і духах людзей, штó гэтак узьдзеела на сьвет, што з стагодзьдзя на стагодзьдзе вольна мінаючы час са сваімі нясучымі зруйнаваньне зьменамі астаўся бясьсільным, каб сьцерці

[3]) **Great Books of Western World**, том 1, The Great Conversation — The Substance of a Liberal Education, by Robert M. Hutchins, выданьне: Encyclopaedia Britanica, Inc., 1952, бач. 1.

[4]) Абсолют — незалежная, неабмежаваная і дасканалая Існасьць; Бог.

[5]) Нованараджэньне.

пакінуты па сабе глыбокі сьлед".[6]) „...Паступова выявіліся людзі, — кажа прафэсар грэцкае мовы і дасьледчык грэцкае культуры, Г. Кітто, — не шматлікія колькасна, якія не адзначаліся вялікаю сілаю, ня вельмі добра зарганізаваныя, якія займелі неспатыканую дагэтуль новую канцэпцыю адносна людзкага жыцьця, якія першы раз зьвярнулі ўвагу на ролю людзкага розуму. З гэтае пары іхнае сьведчаньне будзе пашырацца, і я спадзяюся, будзе апраўданым у тым, штó выцякае зь яго".[7])

„Ня існуе цяпер небясьпека, што сьвет ня выкажа поўнага прызнаньня грэцкаму гэнію. Асягненьні грэкаў зьяўляюцца фактам сусьветна ўзнаным".[8])



**Сымпозыён** Плятона быў напісаны ў часе г. зв. **сярэдняга** або **сьпелага** пэрыяду пісьменьніцкае дзейнасьці філёзафа. У вымененым пэрыядзе, сярод іншага, быў створаны і **Файдон.** У гэтых дыялёгах, як і часткава ў іншых, асаблівае месца займае выняткавая навука Плятона пра ідэі, як самастойна існуючая незьніштажальная Рэчаіснасьць.

Паводля свайго зьместу і глыбіні думкі, **Сымпозыён** уважаецца некаторымі крытыкамі, як першы пасьля **Абароны Сакратаса, Крытона** і **Файдона.** Дата падзеяў у дыялёгу дакладна ведамая. Адносіцца яна да 416 г. п.н.э. Апавяданьне пра банкет пераказваецца каля 15 гадоў пазьней Апольлёдоросам, які ня быў прысутным на банкеце, але даведаўся ад Арыстодэмоса, адданага староньніка Сакратаса.

Група Агатонавых прыяцеляў сабралася ў ягоным доме на вячэру з мэтаю адзначэньня перамогі ў часе спаборніцтва паэтаў, калі адна зь ягоных трагэдыяў была першы раз выстаўлена на драматычным фэстывалі ў Тэатры Дыянізоса, які знаходзіўся ў падножжа Акраполісу ў Атэнах і зьмяшчаў 30.000 гледачоў. Запрошаная Агатонам група складалася з Сакратаса і ягонага саправаджальніка, Арыстодэмоса, іншага сябры зь ягонага кола — Файдроса, лекара — Эрыксімахоса, Паўзаніяса і Арыстофанэса, якога сцэнічны твор **Воблакі** зьявіўся сем гадоў перад гэтым, бо ў 423 г. п.н.э. У суцэльнай творчасьці

[6]) **The Greek Way to Western Civilization,** by Edith Hamilton, выданьне: Mentor Book, 1966, бач. 7.

[7]) **The Greeks,** by H. D. F. Kitto, выданьне: Penguin Books, Балтімор, Мэрыленд, 1966, бач. 7.

[8]) **The Greek Way to Western Civilization,** by Edith Hamilton, выданьне: Mentor Book, Нью Ёрк, 1966, бач. 9.

Плятона Арыстофанэс выступае тут толькі адзін раз. Мясцамі вычуваецца ў Плятона жарт пад адрысам Арыстофанэса, але жарт гэты наагул добразычлівы. У канцы дыялёгу зьяўляецца падпіты Алькібіядэс, які сваімі выказваньнямі адносна Сакратаса, уводзіць назаўсёды нямінаючыя мамэнты.

Затым, што многія з прысутных усё яшчэ асталіся пад узьдзеяньнем падобнае ўрачыстасьці папярэдняе ночы, пастаноўлена было галоўна правесьці вечар у дыскусыі філязафічнага характару. Эрыксімахос, лекар і сымпозіярх на банкеце прапануе, каб кажны з прысутных сваімі словамі і як можа сказаў пахвальнае слова на чэсьць бога Эроса, ці, інакш кажучы, на чэсьць унівэрсальнага зьявішча, якое дазнае кажнае жывое існаваньне на Зямлі — Любові.

Магчыма хто-небудзь знойдзецца ў стане правесьці размежаваньне паміж двума аснаўнымі радамі любові: эротычнае і братэрскае, аднак, мы мусім прыйсьці да высnаву, што ў Плятона гэтыя два паняцьці ня толькі цесна вяжуцца між сабою але яны, як і іншыя адмены гэтага самага паняцьця, уваходзяць у нейкі адзіны супольны камплекс — як зьявішча сусьветнага засягу. ,,Праніклівы аднак, дасьледчык можа выкрыць розьніцу. Ён можа клясыфікаваць любоў, як любоў сужэнства і няпраўную, нармальную і звыраднелую, як любоў сэксуальную і ідылічную, любоў дзіцячую і дарослых, рамантычную і хрысьціянскую. Ён можа гэтаксама ўвыпукліць розныя адмены любові ў супольную цэласьць, ня гледзячы на іхную разнароднасьць і выдзяліць іх у іншую катэгорыю любові: сяброўства паміж людзкімі існаваньнямі, ня гледзячы на іх розьніцу пола; любоў як злучво ў сям'і — матчыная і бацькавая любоў, любоў паміж братамі і сёстрамі; любоў чалавека да самога сябе, любоў да ягонае бацькаўшчыны, любоў да Бога. І ўсе гэтыя ўспомненыя любові ані крышку не зьяўляюцца меншымі ад тае, якая існуе паміж мужчынам і жанчынаю".[9]) Бо ўсе яны твораць сабою сусьветнага засягу зьявішча, імя якому — Любоў. Любоў праяўляецца намі гэтаксама да акружаючае нас натуры: да палёў і лясоў; асабліваю любасьцю чалавек дорыць свае нівы, на якіх калышацца ягонае багацьце — хлеб. Любоў праяўляецца ў напрамку неба, вытыканага і ўпрыгожанага зорамі; да жыцьцё падтрымліваючых водаў. Любоў зьяўляецца зьявішчам касьмічным, падтрымліваючым і працягваючым самое жыцьцё.

Найбольшае і беспасрэднае выяўленьне плятанічнае любові выступае ў **Сымпозыён.**

Увыпукленьне паміж тым, што можна было-б назваць ілюзорным і

---

[9]) **Great Books of Western World,** том 2, The Great Idias, A Syntopicon, том I, выданьне: Encyclopaedia Britanica, Inc., бб. 1051-1052.

фактычным, пераходным і сталым, сьмяротным і несьмяротным выступае ў Плятона як найболей рашаючым мамэнтам. Гэта асабліва характэрным для Плятона астаецца, што любоў аднаго чалавека да другога, г. зн. да таго, што зьяўляецца пераходным і сьмяротным, толькі тады можа быць належна зразуметай, калі прымецца, што ў вапошнім сваім асягненьні — гэта любоў да таго, што ёсьць вечным.

Тут у Плятона выразна выступае драбіна пазнаньня і любові, дзе прадмет асягненьня пажаданьня абяртаецца паміж сучасным і мінаючым з аднае стараны, і тым, што зьяўляецца сталым.Той, хто ідзе „правільным шляхам“ і зьяўляецца ў стане ўзыходзіць па гэтай драбіне, павінен пачаць ад першага аб'екту жаданьня, і, сьледуючы па сьцежцы пазнаньня і маральнага палепшаньня, мала-па-малу ўзыходзіць зь ніжэйшае ступені любові да вышэйшае. У першай фазе гэтага ўздыму, любоў аднаго чалавека да другога пакідаецца наўзбоччу; у належным далей уздыме, любоў да іншага чалавека нагэтульні адно важнай зьяўляецца, наколькі яна чыніць пачатак і падгатаўляе палюбоўніка да наступнага кроку на ўзьверх.

Усе выступленьні прамоўцаў на банкеце можна ў аснаўным падзяліць на дзьве часткі: У першай частцы выступаюць усе тыя госьці, каторыя гавораць перад Сакратасам. У другой, у сваей кульмінацыйнай частцы, выступае Сакратас, які пераказвае прысутным тое, што ён калісьці, будучы маладым, чуў ад мудрае Дзіяціма з Манцінэі, якая ўвяла яго ў „тайніцы“ любові. У часе гэтае гутаркі з Сакратасам Дзіяціма сьцьвярджае, і Сакратас згаджаецца, нятолькі тэндэнцыйны характар любові, але гэтаксама агульную яе канцэпцыю, якая можа быць выражана нашаю моваю, як імкненьне наагул.

Дыскутуючы любоў, як жаданьне накіраванае ў напрамку займеньня шчасьця, Дзіяціма пытаецца Сакратаса:

— Ну, а гэтае жаданьне і гэтая любоў, як табе здаецца, свомыя для ўсіх людзей, і заўсёды яны жадаюць сабе дабра? Што ты думаеш аб гэтым?

— Але́, — адказаў я, — гэта свомым зьяўляецца для ўсіх людзей.

— Калі ўсе і заўсёды любяць тое самае, Сакратас, — сказала яна, — дык чаму-ж ня кажам пра ўсіх, што яны любяць, а вось пра адных кажам, што любяць, а пра іншых, што не?

— Гэта і мне выдаецца дзіўным, — сказаў я.

— Ня дзівіся, — сказала яна. — Мы бярэм проста нейкую адну адменнасьць любові і тады, абагульняючы яе, надаем ёй назоў агульнага паняцьця; існуюць іншыя выпадкі, калі мы тарнуем іншыя назовы.

— Напрыклад? — запытаў я.

— Вось, — сказала яна. — Ты ведаеш, што паэзыя гэта шырокая

і разнавідная галіна творчасьці. Бо кажная рэч, якая пераходзіць з нябыцьця ў быцьцё, творыць сабою выпадак творчасьці, а згэтуль, пакліканьне да быцьця якіх-небудзь твораў мастацтва і рамяства, можна назваць творчасьцю, а ўсіх тых, што твораць — стваральнікамі гэтых твораў [або паэтамі].

— Зусім трапна, — сказаў я.

— Аднак-жа, — сказала яна, — ты ведаеш, што яны не называюцца паэтамі, але інакш называюцца, бо з агульнае паэтычнае творчасьці, вылучана толькі адна галіна, і ёю ёсьць галіна музыкі і мастацтва памераў верша, і да гэтае галіны адносіцца назоў агульнага паняцьця. Паэзыяю называецца толькі яна, а тых, што праяўляюць у ёй дзейнасьць — паэтамі.

— Зусім трапна, — сказаў я.

— Гэтаксама рэч маецца і з любоўю. У сваей сутнасьці кажнае жаданьне шчасьця і дабра — гэта любоў, якая зьяўляецца магутнай і прынаднай. Аднак-жа, пра тых, што зьвяртаюцца да яе іншым шляхам, ці гэта шляхам асабістых выгадаў, або, дарогаю фізычных практыкаваньняў, або, шляхам замілаваньня да філязофіі, мы кажам, што яны закаханыя, або, што яны любяць; і толькі да тых, што аддаюцца аднаму нейкаму праяву любові, адносяцца назовы агульных выражэньняў, як **любоў, любіць і закаханыя.** [206]

Усе прамоўцы, выступаючыя перад Сакратасам, гавораць пра любоў у хворме, можна сказаць, стандартнай, агульна прынятай сучасьнікамі іхнага часу, згаджаючыся і зводзячы ўсю рэч да таго, што Эрос, якога яны ўважаюць за бога, зьяўляецца і добрым і прыгожым. Тут-жа перад пачаткам свае мовы Сакратас вядзе кароткую канвэрсацыю з Аґатонам, у якой сьцьвярджае ён, і Аґатон згаджаецца, што Эрос ня мае прыгожасьці і мае патрэбу ў добрым:

— А цяперака, — казаў далей Сакратас, — давай падсумуем тое, што́ ўжо было сказана. Дык вось, перадусім, любоў зьяўляецца любоўю да нечага ці некага, а пасьля да нечага, адносна чаго чалавек мае жаданьне?

— Так, — адказаў ён. [201]

— Прыпомні зноў-жа, што́ ты казаў у сваей прамове, або, калі ты забыў, дазволь мне, і я прыпомню табе. Мне здаецца, што ты казаў нешта падобнае да гэтага, што любоў да прыгожасьці прывяла ў стан уладжаньня валадарства багоў, бо да рэчаў брыдкіх любоў ня існуе. Ці ня гэткую думку ты выразіў?

— Так, гэтакую, — адказаў Аґатон.

— І выражана гэта было зусім трапна, дружа мой, — снуў далей Сакратас. — І, калі гэта ёсьць праўдаю, тады Эрос — гэта любоў да прыгожасьці, а не да брыдкасьці?

Аґатон і з гэтым згадзіўся.

— А ці не згадзіліся мы, што любоў ёсьць любоў да нечага, штó хацелася-б мець, а чаго няма?

— Згадзіліся, — сказаў ён.

— Дык што-ж, Эрос ня мае прыгожасьці і затым мае патрэбу ў ёй?

— Алé, з гэтага выходзіць так.

— Ці хочаш ты назваць прыгожым тое, штó прыгожасьці ня мае і патрабуе яе?

— Ведама, што не.

— Калі рэч маецца гэтак, дык што, утрымліваеш ты і далей, што Эрос прыгожы?

На гэта Аґатон адказаў:

— Баюся, што я сам не разумеў таго, штó я казаў.

— Не, ты, Аґатон, гаварыў вельмі прыгожа, — адказаў Сакратас. — А цяпер яшчэ адна малая рэч: ці ня думаеш ты, што добрае зьяўляецца прыгожым?

— Я думаю гэтак.

— Затым, калі Эрос мае патрэбу ў прыгожым, а прыгожае зьяўляецца добрым, дык з гэтага робіцца выснаў, што ён мае патрэбу ў добрым?

— Сакратас, — сказаў Аґатон, — запраўды я не магу спрачацца з табою. Няхай будзе гэтак, як ты кажаш.

— Не, мой паважаны Аґатон, ты ня можаш спрачацца з праўдаю, бо з Сакратасам спрачацца ня ёсьць рэчаю труднаю.

Паводля Сакратаса выходзіць, што любоў і патрэба ідуць упары. Калі гэта ёсьць праўдаю, тады любоў мае сваю апошнюю мэту ў асягненьні або зьнішчэньні патрэбы, у якой яна бярэ свой пачатак.

У працэсе далейшае канвэрсацыі паміж Дзіяцімаю і маладым Сакратасам даведваемся, што дабратворнае жаданьне зьяўляецца прысутным у Плятонавай канцэпцыі любові, як фактар духовага злучэньня паміж Богам і сьмяротным.

З паняцьцем любові ў Плятона цесна вяжацца паняцьце сьмяротнасьці і несьмяротнасьці. Цяга да несьмяротнасьці са стараны сьмяротнае натуры, калі яна даходзіць да веку сьпеласьці, вядзе да займеньня нашчаднасьці „толькі ў прыгожым“:

„І рэч гэтая боскаю ёсьць, бо зачацьце і нараджэньне зьяўляюцца праявамі нейкага несьмяротнага пачатку ў сьмяротным існаваньні“. Затым любоў „зьяўляецца радзíць і прыводзіць на сьвет у прыгожым“. „І чаму якраз радзíць? А гэта затым, што для сьмяротных раджэньне зьяўляецца нечым вечна існуючым і несьмяротным. Але, калі любоў, як згадзіліся мы ўжо, зьяўляецца імкненьнем да апанаваньня дабром, дык адначасна з дабром ня можна не жадаць і не-

сьмяротнасьці. А згэтуль, у сілу неабходнасьці выяўляецца, што любоў гэтаксама імкнецца і да несьмяротнасьці". [207]

Яшчэ адна з праяваў любові, на што Плятон зьвяртае ўвагу, ляжыць у прычыне „любові і жаданьня", якая вядзе да годнае нашага падзіву гатоўнасьці, ведамае сярод ходзячых, поўзаючых і лётаючых, стануць у вабароне свае нашчаднасьці, „як найслабейшыя зь іх зьяўляюцца гатовымі змагацца ў вабароне з самымі сільнымі, а калі трэба, і памерці".

„Затым не дзівуйся, што кажнае жывое існаваньне, з натуры рэчы, распасьцірае ўсякую рупнасьць і пашану адносна сваіх нашчадкаў. Бо дзеля несьмяротнасьці праяўляецца на сьвеце стараньне і гэтая любоў". [208]

Дзіяціма прыводзіць тут яшчэ адзін аспэкт несьмяротнасьці — у хворме імкненьня людзей да славы:

„Адносна гэтага ты можаш быць пэўным, Сакратас. Паглядзі толькі на людзкую любоў да славы. Ты будзеш зьдзіўленым з прычыны бязглузьдзіцы гэтага зьявішча, калі ня ўспомніш тое, штó я казала табе, і не спасьцеражэш зьявішча, наколькі людзі апанаваныя прагнасьцю ўчыніць ведамым сваё імя і на вечныя часы займець несьмяротную славу, дзеля якой яны гатовы выстаўляць сябе на яшчэ большую небясьпеку . . . Несьмяротнасьць — вось тое, штó яны любяць". [208]

І цяпер, у разьмежаваньні паміж мінаючымі зьявішчамі і запраўднаю існасьцю існуючага, наступае пунк кульмінацыйны. Плятон вуснамі Дзіяцімы мудрае зьбліжае маладога Сакратаса, дарогаю градацыі, да паглыбленьня ідэі прыгожага і любові:

„Гэткімі зьяўляюцца некаторыя тайніцы любові. . . " І ў чым-жа сутнасьць гэтых тайніцаў?

І Плятон адказвае:

„Той, хто хоча ісьці правільным шляхам да гэтых тайніцаў, мусіць пачаць з маладых гадоў з набліжэньнем да прыгожых постацяў. Калі ягоная ўвага будзе зьвернута на праўдзівы шлях, любіць толькі адну гэтакую — тады ён зродзіць у ёй прыгожыя думкі, і спасьцеражэ, што прыгожасьць аднаго цела цесна вяжацца з прыгожасьцю іншага . . . што прыгожасьць у кажнай постаці зьяўляецца адною і тою самаю!" [210]

І што-ж гэтым „праўдзівым шляхам" зьяўляецца? — Каб спасьцерагчы, што „прыгожасьць аднаго цела цесна вяжацца з прыгожасьцю іншага . . . " Што кажная прыгожасьць цела на гэтым месцы ці на іншым, у тым часе ці іншым, тою самаю прыгожасьцю зьяўляецца для зацікаўленага ці зацікаўленай у дадзенай людзкай прыгожасьці. І прыгожасьць гэтая астаецца асабліваю, калі возьмецца пад увагу закаханым постаць самую: прыгожасьць твару, рук, цела, асабліва

пры спрыяючым да гэтага веку! Тое, што́ тут выступае, зводзіцца да таго, што прыгожасьць цела на кажным месцы, у кажным часе, сярод усіх расаў на Зямлі, зьяўляецца найпрыгажэйшаю для закаханае ці закаханага і, што ў вапошнім падсумаваньні прыходзіцца да выснвау, што прыгожасьць цела зьяўляецца ўсюды „тою самаю!“ У зразуменьні гэтага, той, хто ідзе „правільным шляхам“, „. . . пачынае любіць усе прыгожыя целы, а да таго аднаго астудзіцца ў сваей гвалтоўнай любові і будзе думаць пра яе, як пра рэч дробную і без значэньня“. [210] У гэтым этапе разважаньня ён прыходзіць да зразуменьня — і найважнейшага! — „. . .што прыгожасьць душы зьяўляецца вышэйшаю, чымся прыгожасьць вонкавае хвормы . . .“ Вось зачым, „. . .калі яму прытрапіцца чалавек прыгожае душы, хоць-бы нават і з ня гэтакім цьветам, ён астанецца зусім здаволены . . .“ і „. . . пачне ўважаць прыгожасьць цела за рэч малазначную“. [210]

На далейшай ступені гэтае драбіны ён прыходзіць да ідэі духовае прыгожасьці і любоў у вапошнім сваім пазнаньні — гэта любоў да таго, што ёсьць вечным.

„Праўдзівы шлях, якім трэба набліжацца самому да любові або ісьці пад кіраўніцтвам каго-небудзь іншага, ёсьць гэтакі: пачынаючы з паасобных праяваў прыгожага і, маючы на ўвазе гэтую абсалютную прыгожасьць, трэба ўвесь час, быццам па сту́пенях, падымацца ўгору — ад аднаго прыгожага цела да двох, ад двох — да ўсіх прыгожых целаў, а за тым ад прыгожых целаў да прыгожых звычаяў, і ад прыгожых звычаяў да прыгожых пазнаньняў, да тае пары, пакуль ня ўздымешся да таго, якое і выявіцца пазнаньнем адзінае прыгожасьці і не пазнацімеш нарэшце, што́ сутнасьцю прыгожасьці зьяўляецца“. [211]

І канцовае набліжэньне да мэты:

„Хто, адпаведна кіраваны, . . . у напрамку пазнаньня любові, . . . спасьцеражэ сваеасаблівую прыгожасьць у яе натуры, тую самую прыгожасьць, Сакратас, дзеля якое былі прадпрыняты ўсе папярэднія натугі: па-першае, вечнатрываючую, якая ня ведае ані нараджэньня, ані зьнішчэньня, ані росту, ані спарахненьня; [211] па-другое, ня прыгожую з аднаго пункту гледжаньня, і брыдкую зь іншага, ня прыгожую цяперака, і брыдкую іншым разам, ня прыгожую на адным месцы і брыдкую на іншым або прыгожую для адных і брыдкую для іншых. Прыгожасьць гэтая выступіць перад ім не ў відзе нейкага твару, рук або іншае якое-небудзь часткі цела, не ўвідзе мовы або навукі, і не ў чым іншым, . . . але сама ў сабе, сама з сабою, абсалютная, заўсёды аднолькавая і простая . . .“

„Той, хто ўзышоў на гэтую вышыню і пад уплывам праўдзівае любові пачаў асягваць гэтую прыгожасьць, той знаходзіцца неда-

лёка ад мэты“. [211]

„І на гэтым месцы жыцьця, дарагі Сакратас, — сказала жанчына з Манцінэі, — жыцьцё для чалавека толькі і можа зьяўляцца вартым, каб жыць яго, дзе ён сам агортвае прыгожасьць, якую, калі ты толькі ўгледзіш, ты не захочаш параўноўваць з вытыканаю золатам вопраткаю, . . . Што-ж, запраўды, сталася-б, — сказала яна, — калі-б каму-небудзь давялося ўбачыць гэтую абсалютную прыгожасьць чыстаю, і нязьмешанаю, і без звырадненьняў, не абцяжаную людзкім целам, людзкімі хварбамі і ўсялякім іншым сьмяротным бліскучым барахлом, і, калі-б ён мог гэтую боскую прыгожасьць аглядаць ў яе сваеасаблівай дасканаласьці? Ці думаеш ты, — сказала яна, — што гэта можа быць дрэннае жыцьцё для чалавека, які скіраваў свой спазор на яе, адпаведна сузіраючы яе і астаючыся зь ёю? Ці не ўяўляеш ты сабе, што, толькі агортваючы прыгожасьць тым, чым яе і належыць агортваць, ён зможа радзіць ня ўяўленую цноту, але, цноту праўдзівую, бо-ж ён і не сузірае ўяўленьня, але праўду? Ці-ж той, хто радзіў запраўдную цноту і ўзгадаваў яе, ці-ж будзе гэтакі пазбаўлены ўдзелу прыязьні Бога, і стацца несьмяротным, калі толькі сьмяротнаму чалавеку гэта даступна?“ [212]

У гэтым выступае ўсенькі Плятон, ягоная філязофія ідэалізму зь ідэяю прыгожасьці і любові, што да якое людзі на працягу доўгіх стагодзьдзяў кіравалі свой духовы ўзрок, як да незраўнанага ўзору тае любові, якая вядзе чалавека да прыгожасьці, радасьці, шчасьця, да Бога.

**Ян Пятроўскі**

## БАНКЕТ У ДОМЕ АГАТОНА

(416 г. п.н.э.)

### Дыяґрама парадку прамоваў на банкеце

Пададзеная дыяґрама ў хворме чатырохкутніка нарысована выключна для прыступнейшага ўяўленьня агульнага вобразу. Фактычна Плятон не пераказаў нам хвормы памяшчэньня, у якім банкет меў месца, ані ведаем мы парадку разьмяшчэньня паасобных ложаў. Гасьцей на падобных прыняцьцях звычайна запрошвалася, хоць і з пэўным адхіленьнем, ад трох да дзевяці, г. зн. „ня меней трох Ласкаў і ня болей дзевяці Музаў“. Прыбылым гасьцям слугі мылі ногі, пасьля чаго іншыя слугі падавалі ў апрычоных зьмяшчальніках воду да мыцьця рук. Ложа ў выглядзе большага і высьціланага тапчану з падвышэньнем для апіраньня наагул памяшчала двух удзельнікаў. На вячэры ў Агатона на кажным ложы ўзьлежваў адзін чалавек. Кажны удзельнік для ўласнае выгады пераважна аблакочваўся на

левай руцэ, пры чым правая аставалася болей свабоднай для прыняцьця страваў з крыху ніжэйшага і дзеля гэтае мэты прыстаўленага




малога століка. Віно пілі разьведзенае з вадою, бо неразьведзенае пілі толькі барбары. Нажоў і відэльцаў госці ня мелі, а пададзенае, пераважна на кускі парэзанае мяса, бралі пальцамі. Вусны і талеркі, звычайна, выціралі куском хлеба, які тут-жа кідалі пад стол сабакам.

## ДЫЯҐЭНЭС ЛЯЭРТЫЙСКІ

Як называлася жонка Сакратаса? Якую радню меў Плятон? Чым цікавіўся Талес? — На гэтыя пытаньні і падобныя знаходзім адказ у двухтамовай працы Дыя-

ґэнэса Ляэртыйскага.

Дыяґэнэс Ляэртыйскі (Διογένης Λαέρτιος) паходзіў зь места Ляэрты (гр. Λαέρτη або Λαέρτιος) у Кілікіі, абшары, паложаным у паўдзённа-ўсходняй частцы Малое Азыі, гранічачага з Сяродземным морам на поўдні, гарамі Аманус на ўсходзе і гарамі Тарсус на поўначы і часткава з выступамі гэтых апошніх на захадзе. Дыяґэнэс Ляэртыйскі — грэцкі пісьменьнік-біяграф трэйцяга стагодзьдзя нашае эры. Апрача гэтых дадзеных нічога пра яго ня ведама. Няведама нават дакладна ці паходзіў зь места Ляэрты. Пад ягоным імем дайшоў да нас у цэласьці твор значных памераў, пісаны ў грэцкай мове. Твор гэты розныя камэнтатары розна называюць. Адны называлі *Дзесяць кнігаў пра жыцьцё, навуку і выказваньні пісьменьнікаў слаўных у філязофіі*, іншыя тытулавалі твор — *Жыцьцё і выказваньні адносна слаўных філёзафаў і кароткае вылажэньне навукаў кажнае школы*. Звычайна, аднак, сягоньня твор гэты называецца *Жыцьцё Філёзафаў* (Vitae Philosophorum). *Жыцьцё філёзафаў* дзеліцца на дзесяць кнігаў у 2-х томах і займаецца жыцьцём і дзейнасьцю каля 80 старажытных філёзафаў. І, хоць большасьць дасьледчыкаў да твору адносіцца крытычна, тым ня меней *Жыцьцё Філёзафаў* зьяўляецца адзінаю працаю, якая дайшла да нас у цэласьці. І ўсе тут дадзеныя з жыцьця і дзейнасьці філёзафаў, творы якіх да нас не дайшлі ці дайшлі, або дайшлі часткава, разам з іншымі працамі (як Цыцэро, Плютарха і ін.) зьяўляецца сягоньня крыніцаю неабходнае інфармацыі.

*Я. П.*


СЛОВА ПАДЗЯКІ

Міхасю Кавылю выражаецца гэтым падзяка за ягоны ветлівы і рачовы ўгляд у пераклад вершаванага тэксту.

**Я. П.**

# СЫМПОЗЫЁН

## (Банкет)

*Асобы дыялёгу*

***Апольлёдорос, які пераказвае свайму сябру дыялёг, пачуты ім аднойчы ад Арыстодэмоса і які ён ужо ў сваім часе пераказваў Гляўкону; Сакратас; Арыстодэмос; Аґатон; Паўзаніяс; Арыстофанэс; Эрыксімахос; Файдрос; Алькібіядэс; натоўп вясёлых бадзякаў.***

***Месца банкету — дом Аґатона.***

[*172*] *Апольлёдорос:* Я думаю, што адносна таго, пра што вы пытаецеся, я не зьяўляюся непадрыхтаваным. Здарылася нядаўна, калі я ішоў у места з майго ўласнага дому ў Фаляроне, адзін мой знаёмы ўгледзеў мяне з-заду і жартам аклікнуў здалёк:

— Гэй, — крыкнуў ён, — Апольлёдорос, фаляронскі жыхар, пачакай крыху!

Я затрымаўся і пачакаў.

— Апольлёдорос, — сказаў ён, — я якраз шукаў цябе, каб што-небудзь бліжэйшае даведацца пра тую вячэру, якая мела месца ў Аґатона, у якой браў удзел Сакратас, Алькібіядэс і іншыя і што там за гутаркі вяліся адносна любові. Адзін чалавек расказваў мне ўжо пра гэта, які, зноў-жа даведаўся ад Фоінікса, сына Піліппа, і ён сказаў, што і ты ведаеш. Але сам ён нічога дакладна ня мог ска-

заць. Затым раскажы ты мне пра ўсё гэта. Бо-ж табе найболей да твару будзе пераказаць выказваньні свайго прыяцеля. Але перш скажы мне, быў ты прысутны сам на гэтым спатканьні ці не?

На гэта я адказаў яму:

— У кажным выпадку, той, хто табе расказваў, зусім не расказаў табе дакладна, калі ты думаеш, што быццам гэтае спатканьне адбылося нядаўна, і я мог быць прысутным.

— Гэтак і я думаў, — адказаў ён.

— Дый што ты, Ґляўкон? — зьдзівіўся я. — Ці-ж табе ня ведама, што Аґатон ужо многа гадоў як ня жыве тут? З тае пары, як я пачаў праводзіць час з Сакратасам, і не прапушчаў ніякае нагоды, каб зацемліваць усё, што ён гаворыць або робіць, не прамінула і трох гадоў. [*173*] Быў гэтакі час, што я блукаў усюды, дзе надарыцца, уяўляючы сабе, што займаюся нечым вартасным, а фактычна, быў я жалю годным, як кажны іншы з вас, — і ў апрычонасьці, як ты цяперака, калі ты думаеш, што ляпей займацца чым хочаш, толькі не філязофіяю.

— Ты толькі ня сьмейся, — адказаў той, — але скажы мне, калі гэтае спатканьне мела месца.

— Калі мы яшчэ дзяцьмі былі, — адказаў я на гэта, — тады, калі Аґатон за першую сваю трагэдыю атрымаў нагароду, на наступны дзень пасьля гэтага, калі ён разам са сваімі харэўтамі злажыў ахвяру падзякі за атрыманую перамогу.

— Тады, як выглядае, мусела гэта быць даўно, — сказаў ён. — Хто-ж табе расказваў пра гэта, ці не Сакратас сам?

— Не, на Зэуса, — сказаў я, — але той самы, хто казаў і Фоініксу, — менавіта, нейкі Арыстодэмос з Кідатэнаў, маленькі чалавек, заўсёды босы. Ён быў прысутным на гэтым банкеце і быў, як мне выдаецца, у тым

часе адным з найболей адданых староньнікаў Сакратаса. І пра тое, штó я чуў ад яго, пытаўся я самога Сакратаса, і апошні пацьвердзіў ягоныя словы.

— Ці не хацеў-бы ты падзяліцца са мною? — сказаў ён. — Бо-ж, ідучы ў места, па дарозе добра і гаварыць і слухаць.

Дык вось, ішлі мы і гутарылі пра гэта; затым, як я ўжо і адцеміў спачатку, я не зьяўляюся непадрыхтаваным. І, калі вы жадаеце, каб я расказаў вам усё, тады я павінен гэта ўчыніць. Дый наагул, трэба сказаць, што, кажны раз, калі я сустракаю нагоду самому весьці філязафічную гутарку або слухаць іншых, ня кажучы ўжо пра тое, што і сам я спадзяюся займець пры гэтым нейкую карысьць, цешуся я з гэтага нязьмерна. Але, калі я чую іншыя гутаркі, асабліва звычайныя гутаркі багатых людзей і людзей грошай, агортвае мяне нуднасьць, і тады наведвае мяне спаўчуваньне да вас, маіх прыяцеляў, бо вам здаецца, што быццам даконваеце вы вялікую рэч, а ў запраўднасьці, вы толькі губіце час. Магчыма, са свае стараны, вы ўважаеце, што гэта я зьяўляюся нешчасьлівым, і я думаю, што, магчыма, вы правільна думаеце; але, што нешчасьлівымі зьяўляецеся вы — дык тут ня толькі я думаю, але я добра ведаю.

*Сябра:* Ты заўсёды, Апольлёдорос, аднолькавы! Ты заўсёды дрэнна выражаешся пра самога сябе, як і пра іншых, і, здаецца мне, пра ўсіх наагул, пачынаючы ад самога сябе, апрача Сакратаса. Скуль ты атрымаў мянюшку ашалелага, я ня ведаю дакладна, але ў гутарцы сваёй ты заўсёды гэтакі — ты наракаеш на сябе і на ўвесь сьвет, апрача Сакратаса.

*Апольлёдорос:* О, даражэнькі мой, і як-жаж мне не шалець і хвалявацца, калі гэтакае думкі я пра самога сябе і пра вас усіх.

*Сябра:* Няма ніякага сэнсу, Апольлёдорос, цяперака

спрачацца адносна гэтага. Ляпей схіліся да нашае просьбы і раскажы, якія там прамовы былі.

*Апольлёдорос:* Яны і былі прыблізна гэтакія — але я паспробую пераказаць вам усё па парадку, [*174*] гэтак, як той мне расказваў.

Дык вось, ён спаткаў Сакратаса — вымытага і ў сандалах, якіх ён не насіў часта, і запытаў яго, куды гэта ён так выстраіўся. І той адказаў:

— Да Аґатона на вячэру. Учора я ўхіліўся быць прысутным на ўрачыстасьці перамогі, з прычыны людзкага натоўпу; я прырок яму аднак-жа, што сягоньня буду. Дык вось цяпер я і выстраіўся, каб зьявіцца прыгожым да прыгожага. А ты, — працягваў ён далей, — ці ня хочаш ты пайсьці на банкет без запросінаў?

На гэта, сказаў ён, я адказаў яму:

— Як ты загадаеш!

— Тады, — сказаў Сакратас, — хадзем разам і, зьменьваючы крыху выслоўе, даведзем, што „да добрых людзей на банкет, добры без запросінаў прыходзіць“. Гомэр, напрыклад, ня толькі зьіначыў гэтае выслоўе, але проста пазьдзекваўся над ім. Ён хоць і вырысаваў Аґамэмнона асабліва адважным чалавекам, а Мэнэляоса „мяхкім ваяром“, усё-ж, калі Аґамэмнон злажыў ахвяру і выдаў урачысты банкет, ён змусіў меней годнага Мэнэляоса зьявіцца на банкет без запросінаў.

Пачуўшы гэта, ён (Арыстодэмос) сказаў:

— Баюся, што ня гэтак будзе, як ты кажаш, Сакратас, але барджджэй як Гомэр, калі я, звычайны чалавек, без запросінаў прыйду на банкет да мудраца. Ці зможаш ты крыху апраўдацца, прывёўшы мяне туды? Бо-ж я ня прызнацімуся, што я прыбыў без запросінаў, але скажу, што ты мяне запрасіў.

— „Дзьве галавы“, нехта сказаў, „ляпей, як адна“, —

адказаў ён, — мы падумаем, што́ маем сказаць. А цяпер хадзем!

І вось, пасьля гэткае прыблізна гутаркі, рушылі яны ў дарогу. Сакратас, аддаючыся сваім разважаньням, па дарозе адставаў; а калі Арыстодэмос затрымліваўся, каб пачакаць на яго, Сакратас наказваў яму ісьці наперад. Калі ён прыйшоў да Аґатонавага дому, ён знайшоў, што дзьверы дому адкрытыя і тутака, паводля ягоных словаў, прытрапілася яму сьмешнае здарэньне. Бо зараз-жа да яго выскачыў з дому адзін з паслуговаючых хлапцоў і павёў яго туды, дзе ўжо супачывалі іншыя госьці, гатовыя прыступіць да вячэры. Калі Аґатон заўважыў увайшоўшага, ён зьвярнуўся да яго са словамі прывітаньня:

— Вось і добра, што прыйшоў ты, Арыстодэмос, — з гэтае нагоды і вячэру спажывеш з намі. Калі прыйшоў ты з чым-небудзь іншым, дык адлажы гэта на іншы час. Я ўчора ўжо шукаў цябе, каб запрасіць, але нідзе ня мог знайсьці цябе. Але чаму ты Сакратаса ня прывёў да нас?

— Я азірнуўся назад, — казаў далей Арыстодэмос, — але ня бачу нідзе, каб Сакратас ішоў; тады сказаў я, што сам я прыйшоў з Сакратасам, які і запрасіў мяне сюды на вячэру.

— Вельмі добра, што прыйшоў, — адказаў гаспадар дому, — але дзе-ж ён?

[*175*] — Ён толькі што ўвайшоў сюды за мною, дзіўлюся, дзе ён мог падзецца.

— Гэй, хлопча, — сказаў Аґатон слузе, — паглядзі дзе ён і прывядзі яго сюды! А ты, Арыстодэмос, займай месца побач Эрыксімахоса.

Тады хлапец абмыў яму ногі, каб ён мог узьлегчы; у міжчасе вярнуўся іншы хлапец зь весткаю: „Сакратас увайшоў у сенцы суседняга дому і стаіць там, а на мой кліч прыйсьці — адмаўляецца, ня хоча ісьці.

— Што за дзіва, — сказаў Аґатон, — ідзі, кліч яго яшчэ і не адступайся.

Арыстодэмос аднак сказаў:

— Не, ня трэба, пакіньце яго. Гэтакі ўжо ў яго звычый — адыйдзе куды-небудзь на бок і стаіць там. Я думаю, што ён зараз прыйдзе, толькі не перашкаджайце яму.

— Ну, няхай будзе гэтак, як ты кажаш, — сказаў Аґатон. — А ўсіх прысутных, калі ласка, частуйце, хлопцы! Падавайце нам усё паводля вашае думкі, бо-ж ніякіх наглядчыкаў над вамі я ніколі ня ставіў. Уважайце, што я і ўсе тут прысутныя вамі запрошаныя на вячэру, і дагаджайце нам гэтак, каб мы не маглі даволі нахваліцца вамі!

Пасьля гэтага яны пачалі вячэраць, а Сакратас усё яшчэ ня прыходзіў. Аґатон не аднойчы хацеў паслаць па яго, але Арыстодэмос паўстрымліваў яго. Нарэшце Сакратас усё-ж прыйшоў, забавіўшыся ня гэтак ужо доўга як заўсёды, якраз у самую сярэдзіну вячэры. І Аґатон, які ляжаў на ніжэйшым месцы, сказаў яму:

— Сюды, Сакратас, кладзіся побач мяне, каб я, знаходзячыся блізка цябе, мог атрымаць маю частку мудрасьці, акая азіяла цябе ў сенцах. Бо-ж напэўна ты знайшоў яе і апанаваў яе, інакш ты не крануўся-б з месца.

Сакратас сеў і сказаў:

— Гэта было-б цудоўна, Аґатон, калі-б мудрасьць мела свомасьць перацякаць, як толькі мы дакранемся адзін да другога: ад таго, хто перапоўнены ёю, да таго, хто парожны, гэтак, як перацякае вада па ваўнянай нітцы з напоўненага зьмяшчальніка ў парожны. І, калі з мудрасьцю гэтак рэч маецца, дык я вельмі высака цаню сабе суседзтва з табою: бо я думаю, што ты да ўзьбярэжжа напоўніш мяне найпрыгажэйшаю мудрасьцю. Бо-ж мая мудрасьць нейкая кволая, дрэненькая, быццам мроя ў сьне, а твая зіяючая і прыносіць першарадны па-

сьпех, і гэта, ня гледзячы на твой малады век, зазіхацела пазаўчора ў прысутнасьці болей як трыццаці тысяч гэльленаў.

— Ты жартаўнік, Сакратас, — сказаў Аґатон. — Што да таго, хто з нас двох мудрэйшы, дык мы хутка разьбярэмся, узяўшы Дыянізаса за судзьдзю, а тымчасам бярыся за вячэру.

[*176*] — Пасьля гэтага, — працягваў Арыстодэмос, — калі Сакратас узьлёг і ўсе павячэралі, яны даканалі ахвяру піцьця, прапяялі словы на чэсьць Бога, і ўсё іншае, што звычай вымагаў, і прыступілі да віна. І тут Паўзаніяс пачаў гэтакую гутарку:

— Як мы маем, сябры, — спытаў ён, — упарадкаваць нашае піцьцё найболей памяркоўна? З мае стараны я магу сказаць, што я, запраўды, пасьля ўчарашняга піцьця дрэнна чуюся, і патрабую нейкага адпачынку, і, урэшце, як мне здаецца, і бальшыня з вас: бо-ж і вы бралі ўдзел у гэтым. Разважце, як нам піць найболей памяркоўна.

І Арыстофанэс адказаў яму:

— Ты добра кажаш, Паўзаніяс, што мы павінны шукаць памяркоўнасьці пры піцьці; гэтаксама і я належу да тых, якія ўчора за шмат карысталіся.

Пачуўшы іхную гутарку, Эрыксімахос, сын Акумэноса, сказаў:

— Вы абыдва кажаце да рэчы. Яшчэ толькі аднаго хацеў-бы я пачуць з вас, пайменна, Аґатона — штó ён скажа адносна піцьця?

— Не, — адказаў Аґатон, — я гэтаксама ня чуюся вельмі добра.

— Дык мы маем шчасьце, — адказаў Эрыксімахос, — я і Арыстодэмос, і Файдрос і іншыя, калі вы, гэткія мастакі ў піцьці, сягоньня адмаўляецеся, — мы бо і так п'ем адно па кроплі. Сакратас тут наагул не ўваходзіць у лік; ён можа так і гэтак паступіць, затым яму ўсяроўна, як мы ўчынім. І, калі, як мне выдаецца, ніхто з прысут-

ных ня мае вялікае ахвоты да піцьця віна, дык я думаю, што ці насілу хто-небудзь пакрыўдзіцца, калі я скажу поўную праўду адносна вынікаў піцьця. Што ап'яненьне стаецца цяжарам для людзей, мне гэта, як лекару, зусім ясным стаецца; і я сам не хацеў-бы за далёка ісьці ў піцьці, і ня раіў-бы нікому іншаму рабіць гэтага, асабліва тады, калі ад учарашняга дня не ачуняў належна.

— Гэта зусім праўдзіва, — узяў слова Файдрос Міррынусіец, — я і да гэтага заўсёды бяру паважна твае ра́ды, і асабліва, калі рэч ідзе пра мэдычнае мастацтва; гэтаксама і іншыя сяголньня згодзяцца з табою, калі толькі паважна затрымаюцца над гэтым.

І так, выслухаўшы ўсё гэта, усе згадзіліся адносна таго, каб ня піць за шмат на сяголньняшнім банкеце, а піць проста вось, для прыемнасьці.

Затым, — сказаў Эрыксімахос, — калі мы ўжо прыйшлі да таго, што кажны будзе піць колькі захоча, бяз ніякае прынукі, я прапаную, звольніць толькі што ўвайшоўшую флейтыстку, — няхай яна сама сабе грае або, калі яна хоча, для жанчын унутры, а мы самыя займемся сяголньня гутаркаю. І якою гутаркаю, [*177*] калі вы жадаеце, я магу запрапанаваць.

На гэта ўсе згадзіліся і хацелі пачуць ягоную прапанову. І Эрыксімахос сказаў:

— Я пачну гэтак, як Мэляніппа ў Эўрыпідэса: „апавяданьне ня ёсьць маё“, якое вы зараз пачуеце, а Файдроса. Файдрос заўсёды казаў мне з тонам абурэньня: „Ці-ж ня сорам гэта, Эрыксімахос, што, укладаючы іншым багам і гымны і трыўмфальныя песьні, Эросу, аднак, гэтаму вялікаму і магутнаму богу, ніхто із гэткага множства паэтаў ня выпісаў нават аніводнага слова пахвалы? Або паглядзі, калі ласка, на годных сафістых, якія Гэраклеса і іншых ганаруюць у сваіх празаічных

творах, як першарадны Продікос, напрыклад. Аднак усё гэта яшчэ не зьяўляецца зьдзіўляючым; вось аднойчы натрапіў я на кніжку аднаго мудрага чалавека, у якой соль уздымалася аж пад нябёсы з прычыны яе карысных свомясьцяў, дый іншыя падобныя пахвалы можаш знайсьці. Вось дзеля гэтакіх рэчаў кладзецца гэтулькі стараньняў, але Эросу да сягоньняшняга дня ніхто не адважыўся ўкласьці гымну пахвалы, і затым гэтакі вялікі бог усё яшчэ астаецца занядбаным. Затым, як мне здаецца, Файдрос мае рацыю. Дзелягэтага я хацеў-бы выразіць Файдросу ўзнаньне і спрычыніць яму прыемнасьць, і асабліва таму, што нам прысутным тут выяўляецца адпаведанасьць аддаць пашану гэтаму богу. І, калі вы згаджаецеся са мною, мелі мы тады-б нагоду прыемна правесьці час у гутарцы. Няхай кажны з нас пачарзе, наўкола, зьлева направа, скажа як найляпей пахвальную мову Эросу, і першы няхай пачынае Файдрос, бо-ж ён і першае месца займае, які і зьяўляецца бацькам гэтае гутаркі.

— Супроць твае прапановы, Эрыксімахос, — сказаў Сакратас, — ніхто ня ўздыме голасу. Я гэтаксама не супраціўлюся, бо, як і ўтрымліваю я, любоў зьяўляецца адзінаю рэчаю, якую разумею; гэтаксама і Аґатон, я думаю, з Паўзаніясам, ані тым болей Арыстофанэс, які, калі што робіць, вяжацца з Дыянізасам і Афродытаю, ані хто іншы з тых, каго я тут бачу. Што праўда, мы, што супачываем на апошніх мясцох, знаходзімся ў меней выгадным палажэньні; але мы здаволімся і тым, калі мовы нашых папярэднікаў знойдуцца на адпаведным узроўні. Няхай, тады, Файдрос з добрым шчасьцем пачынае сваю пахвальную мову Эросу.

Усе прысутныя згадзіліся, і прасілі [*178*] яго зрабіць гэтак, як Сакратас прапанаваў. Усяго, ведама, што́ кажны гаварыў, Арыстодэмос не запамятаў, дый я не запамятаў усяго, што́ мне пераказаў Арыстодэмос. Я пера-

кажу вам з кажнае мовы толькі тое, штó мне выдалося найболей годным нашае ўвагі.

Першым, затым, як я ўжо казаў, гаварыў Файдрос, і навязаў ён да таго, што Эрос — зьяўляецца вялікім богам, якім аднолькава захопліваюцца людзі, як і багі і гэта са шматлікіх прычынаў, і ў апрычонасьці, з прычыны ягонага паходжаньня. Бо-ж, казаў ён, гонар гэта — быць найстарэйшым богам. І доказ гэтага існуе. Пайменна, Эрос ня мае бацькоў, пра якіх не ўспамінаюць ані паэты, ані празаікі, хоць Гэзіёдос кажа, што на пачатку быў Хаос, а тады прыйшла

*Шырокагрудая Гэя — астоя ўсяго, што існуе,*
*Эрос пасьля...*

Сваю згоду з Гэзіёдосам выражае гэтаксама і Акузіляос у тым сэнсе, што пасьля Хаосу выявіліся Зямля і Любоў. А Пармэнідэс адносна сілы свайго Паходжаньня кажа, што яна

*Першым з гаргі між багоў узбудзіла Эроса.*

Як бачым, многія згаджаюцца, што Эрос зьяўляецца найболей старажытным богам. І затым, што ён найболей старажытны, ён зьяўляецца прычынаю найбольшага дабра. Бо я ня ведаю, штó можа быць большым дабром для чалавека ў ягоныя маладыя гады, як быць годна закаханым, а для закаханага — як годна каханым. Бо тое, штó мае весьці чалавека праз усенькае ягонае жыцьцё, — калі яно мае быць добрым жыцьцём, — ня можа яму прышчапіць сваяцтва, ані годнасьць займанага становішча, ані багацьце і нічога іншага як толькі Любоў. І аб чым тут ідзе гутарка? А вось аб чым: Саромяцца таго, штó прыносіць ганьбу і імкнуцца да прыгожасьці. Бо бяз гэтага ані дзяржава,

ані паасобны чалавек не зьяўляецца здольным на ніякія вялікія і добрыя чыны. Я ўтрымліваю, пайменна, што чалавек, які любіць, калі ён знойдзеным будзе ў чыненьні нечага брыдкага або дазволіць самому быць дрэнна абыходжаным, скажам, з прычыны безадважнасьці і адсутнасьці нахілу да самаабароны, ён будзе меней цярпець з гэтае прычыны, калі засьпее яго ў гэтым бацька або сябра, або хто-небудзь іншы, чымся той, каго ён кахае. У гэткі самы спосаб мы бачым, што і каханы ў асаблівы спосаб засаромеецца перад каханым, калі будзе засьпеты ў брыдкай сытуацыі. І, калі-б можна было стварыць із закаханых і каханых дзяржаву або, скажам, войска, яны [*179*] самакіраваліся-б найлепшым спосабам, ухіляючыся ад усяго сорамнага, выклікаючы адзін другога на прыгожае спаборніцтва. А змагаючыся ў бітве адзін побач другога, гэтакія людзі, калі-б нават былі і ў малым ліку, перамаглі-б, як гэта кажацца, цэлы свет. Бо таму, хто кахае, лягчэй уцячы са строю або кінуць аружжа ў прысутнасьці іншых людзей, але ніколі ў прысутнасьці каханага, і барждзжэй гатоў ён памерці тысячу сьмерцямі, чымся перажываць гэтакі сорам. А пакінуць ужо каханага на полі самому сабе або не памагчы яму, калі ён у небясьпецы, — ці-ж знойдзецца гэтакі маладушны, у якога сам Эрос ня ўдыхнуў-бы мужнасьці, упадабняючы яго гярою? І, калі Гомэр кажа, што бог удыхае ў душу некаторых гяроеў адвагу, дык любячым дае яе ніхто іншы, як сам Эрос.

А паміраць адзін за другога гатовымі зьяўляюцца адно тыя, што любяць, і ня толькі мужчыны, але гэтаксама і жанчыны. Дастатковым прыкладам гэтага сярод гэльленаў можа быць Алькесьціс, дачка Пэліяса, якая гатовай была памерці за свайго мужа, хоць жывымі ў яго былі яшчэ бацька і маці. Далікатнасьць яе любові гэтак далёка перавышала іхную, што ў вабліччы гэтае любові яны адносна іх уласнага сына, выдаваліся

быць толькі родзічамі ў крыві, а фактычна былі яны яму чужымі людзьмі; і гэты яе чын на гэтулькі шляхэтным выдаўся багам, гэтаксама як і людзям, што, калі із шматлікіх сьмяротных, якія акрыліся хвалаю прыгожых чынаў, багі толькі лічаным даравалі прывілегію павароту душы з Гадэсу, тады як яе душу жывою яны звольнілі адтуль, захапіўшыся яе прыгожым чынам. Згэтуль бачым мы, што і багі высака паважаюць адданасьць і ахвярнасьць у любові. Орфэуша, аднак, сына Ойа́ґроса, яны выслалі з Гадэсу без асягненьня мэты і паказалі яму адно толькі здань ягонае жонкі, па каторую ён прыйшоў, але яе самое ня выдалі, бо яны знайшлі яго мяхкім, быццам музыку, граючага на цытры, калі ён не знаўшоўся дастаткова мужным, як Алькесьціс, памерці з прычыны любові, але пракраўся жывым у Гадэс. Дзелягэтага яны ўсклалі на яго ка́ру, у форме сьмерці з рук жанчынаў, а ня так, як Ахільлеса, Тэцісавага сына, яны ўшанавалі, пасылаючы яго на Абтокі Добраслаўленых, бо, калі ягоная маці сказала яму, што ён памрэ, калі заб'е Гэктора, а калі не заб'е, дык вернецца дамоў і спакойна дажыве да свае старасьці, дык Ахільлес бяз хістаньня ўважаў сябе за годнага прыйсьці на помач Патроклёсу і, адпомсьціўшы за свайго каханага, [*180*] ня толькі памерці за яго, але і самому шчэзнуць зь ім. Затым, што ён быў гэтак адданым каханаму свайму, бязьмерна захопленыя багі ўшанавалі Ахільле́са сваеасаблівым вырозьненьнем. — Айсхілёс баіць казку, калі ён кажа, што, быццам Ахільлес быў закаханым у Патроклёса, бо-ж ня толькі Ахільлес быў прыгажэйшым за Патроклёса, як і за ўсіх іншых гяроя̆ў, але, паводля словаў Гомэра, шмат маладзейшым, нагэтулькі, што ў яго нават яшчэ барада не расла. — Фактычна багі ў васаблівай пашане, маючы цноту любові, болей захопліваюцца і дзівяцца і ўзнагароджваюць асабліва тады, калі каханы праяўляе прыхіль-

насьць да закаханага. Бо-ж той, хто кахае болей боскім ёсьць, чымся каханы, бо ён адухоўлены богам. Вось зачым, паслаўшы Ахільлеса на Абтокі Добраслаўленых, багі абдарылі яго большым гонарам, чымся Алькесьцісу.

Дык вось, я ўтрымліваю, што між багамі Эрос зьяўляецца найболей старажытным і дарагацэнным як і найболей магутным надарыць людзей цнотаю і даравацьім шчасьце ў жыцьці гэтаксама як і пасьля сьмерці.

Гэтакую прыблізна мову сказаў Файдрос. Пасьля Файдроса гаварылі іншыя, але, штó яны гаварылі, Арыстодэмос дрэнна запамятаў; затым абмінуўшы іх, пачаў пераказваць мову Паўзаніяса, каторы гаварыў:

— Я ня думаю, Файдрос, што мы трапна разьмежавалі нашыя задáньні, узяўшыся проста выхваляць Эроса. Наагул, было-б гэта трапным, калі-б на сьвеце існаваў толькі адзін Эрос; але Эросаў ёсьць болей, і затым, што іх ёсьць болей, болей трапным будзе спачатку ўмовіцца, якога Эроса якраз маем выхваляць. Затым я папробую гэта паправіць і скажу якога Эроса трэба хваліць, а пасьля аддам годную гэтага бога пашану. Усе мы ведаем, пайменна, што бяз Эроса няма Афродыты; калі-б яна была толькі адна, дык і Эрос гэтаксама быў-бы толькі адзін; але дзелятаго, што існуюць дзьве Афродыты, дык і Эросаў гэтаксама павінна быць два. Існуюць, ведама, дзьве багіні. Адна зь іх старшая, бяз мацяры, дачка Ураноса, якую мы затым і называем нябеснай, і малодшая, дачка Зэуса і Дыёны, якую мы завем простаю. Згэтуль ужо пасьлядоўнасьць, што аднаго Эроса, памочніка апошняе, трэба называць простым, а другога — нябесным. Пашану аддаваць, ведама, трэба ўсім багам, але што да таго, якія свомасьці сталіся ўдзелам гэтых двох, я пастараюся выявіць. [*181*] Бо дакананьне кажнага чы-

ну зьяўляецца, ў самым сабе, ані прыгожым, ані брыдкім. Затым, тое, што́ мы чынім цяперака, ці будзе гэта піцьцё, пяяньне ці гутарка, не зьяўляецца само ў сабе прыгожым, але ў вадпаведнасьці да таго, як яно выконваецца, яно выяўляецца ў працэсе чыненьня: калі яно выконваецца правільна і добра, тады яно зьяўляецца прыгожым, але, калі ня выконваецца правільна, тады зьяўляецца брыдкім. Гэтаксама рэч маецца і зь любоўю; ня кажная любоў ёсьць прыгожаю і вартаю пашаны, але толькі тая, якая вядзе да прыгожае любові і вышэйшых мэтаў.

Любоў, якая выводзіцца ад простае Афродыты, ёсьць фактычна і запраўды простаю і здольнаю на ўсё; і гэта ёсьць тая любоў, якую чуюць людзі дрэнныя. Гэтакія людзі ў першую чаргу любяць жанчын гэтаксама, як і хлапцоў; далей, калі яны любяць, яны любяць сваіх каханых баржджэй з прычыны цела, чымся з прычыны душы; і ў рэшце, любяць яны тых, хто болей глупы, імкнучыся адно здаволіць свой юр, зусім ня думаючы пра тое, прыгожа гэта ці не. Вось чаму яны і здольныя на ўсё: на добрае і дрэннае ў аднолькавай ступені. Бо гэтая любоў выводзіцца ад багіні, якая ня толькі шмат маладшая ад іншае, але і з прычыны свайго паходжаньня зьяўляецца прыналежнай да жаночага як і да мужчынскага пачатку. Але тая, іншая любоў, зыходзіць ад нябеснае багіні, якая, па-першае, прыналежнай зьяўляецца толькі да мужчынскага пачатку, і ніколі да жаночага; па-другое, яна зьяўляецца старшаю і не праяўляе ў сабе гвалтоўнасьці. Пасьлядоўна, тыя, каторыя знаходзяцца пад узьдзеяньнем гэтае любові, зьвяртаюцца да мужчынскага полу, аддаючы ў першую чаргу перавагу таму, што́ выяўляецца сільнейшым з натуры і абдорана глыбейшым розумам. Нават сярод хлапцоўскае любові можна распазнаць тых, што кіруюцца гэтаю любоўю, чыстаю і простаю. Бо любяць яны не малалетніх, але тых, у

каго ўжо выступае розум, а розум праяўляецца звычайна з першым ростам барады. Тыя, каторых любоў праяўляецца ў гэтым часе, гатовыя, я думаю, прабываць супольна заўсёды, на працягу ўсяго жыцьця; гэтакі чалавек не ашукае юнака, выкарыстоўваючы ягонае незразуменьне, не адхінецца ад яго да іншага, высьмеяўшы яго. Трэба было-б нават выдаць права, якое забараняла-б любіць малалетніх, каб не праяўлялася гэтулькі стараньня ў напрамку няпэўнасьці; бо ня пэўным ёсьць у якім напрамку пойдзе духовае і фізычнае разьвіцьцё дзіцяці: у дрэнным кірунку ці добрым. Лепшыя людзі, ведама, самі твораць сабе гэткае права, але трэба было-б забараніць гэта і здольным на ўсё, гэтаксама, як забараняем мы ім, наколькі гэта ў нашай моцы, любіць свабоднароджаных жанчын. Бо яны, гэтыя людзі нагэтулькі апаганілі любоў, [*182*] што некаторыя нават цьве́рдзіць пачынаюць, быццам наагул сорамам зьяўляецца выпаўняць жаданні закаханага. Але і цьвердзяць яны гэта з увагі на тых людзей, бачачы іхную нахабнасьць і няпрыстойнасьць, бо-ж кажны чын, калі ён творыцца толькі няпрыстойна і агідна, ня можа выклікаць нашага папроку.

Што да звычаю адносна любові, дык у іншых ме́стах нятрудна зразумець, бо там усё разьмежавана выразна, а вось тутэйшы і лякедаймонскі болей скамплікаваны. У Элісе, напрыклад, і ў Бэотыі, і ўсюды там, дзе людзі не праяўляюць вялікае кемнасьці да разумных гутарак, права звычайна выражаецца на карысьць гэтакіх сувязяў, і ніхто там, ані стары, ані малады, нічога ня бачыць заганнага ў гэтым звычаю;і дзеіцца гэта,як мне здаецца, з тае прычыны, што тамтэйшыя жыхары не зьяўляюцца мастакамі ў словах, каб пераконваць зацікаўленых. У Іёніі, і ў лічных іншых ме́стах, дзе кіруюць барбары, улягаць паклоньніку, наадварот, уважаецца заганным. Бо барбары, я думаю, з прычыны іхнага тыранскага

строю, гэтак у філязофіі, як і ў фізычных практыкаваньнях, бачаць нешта дрэннае. Тамтэйшым валадаром проста нявыгадна, каб у іхных падданых радзіліся вышэйшыя аспірацыі, умацоўваліся сяброўствы і аб'яднаньні, чаму, сярод іншых прадумовінаў, спрыяе тая любоў, пра якую ідзе тут гутарка. Дзякуючы ўласнаму дасьведчаньню, пазналі гэта тутэйшыя тыраны: бо-ж любоў Арыстоґэйтона і сяброўства Гармодзіёса супыніла іхнае панаваньне.

І затым, там, дзе аддавацца паклоньнікам уважаецца заганным, звычай гэты заіснаваў, дзякуючы дрэннай абумоўленасьці тых, каторыя яго падтрымліваюць, гэта значыць, прагавітых валадароў і маладушных падданых; зноў-жа, там, дзе гэта ўважаецца за прыгожае, выводзіцца гэта проста зь млявасьці душы тых, каторыя парадак гэткі ўвялі. Нашыя звычаі зьяўляюцца шмат лепшымі, хоць, як я ўжо сказаў, зразумець іх не належыць да рэчы простае.

І запраўды, калі ўзяць пад увагу, як гэта агульна ўважаецца, што ляпей любіць адкрыта, чымся патайком, і асабліва любіць высака і шляхэтна ўроджаных, хоць-бы яны і ня гэтак балі прыгожымі звонку. Калі ўзяць пад увагу далей, што закаханы дазнае ад усіх заахвочваньне і ў ягоных паводзінах ніхто нічога ня бачыць дрэннага, што перамога ў ягонай любові — гэта, паводля агульнае думкі, шчасьце, а параза — ганьба; што ў гэтым імкненьні да любові абычай дазваляе яму тасаваць многія дзіўныя рэчы, нават гэткія, якія напэўна выклічуць агульнае нездаволеньне, калі яны будуць тасавацца з мэтаю [*183*] атрыманьня пэўных выгадаў, напрыклад, дзеля атрыманьня становішча ўрадавага, або грошай, ці дзеля якое-небудзь іншае карысьці, праяўляць сябе гэтак, як праяўляюць часамі закаханыя, даймаючы сваіх каханых паніжаючым іх кленчаньнем, прысягамі, валяючыся пад дзьвярыма, будучы гатовымі выканаць гэткія нявольніц-

кія абавязкі, якіх ня будзе выконваць нават апошні нявольнік; і гэтакі не дазнаціме пашаны ані са стараны сяброў, ані са стараны ворагаў: першыя пачнуць упікаць, саромяючыся яго, а іншыя абвінавачваць яго ў падхалімстве і подласьці; але праўдзіва закаханы выклікáе агульную пашану да сябе, і абычай знаходзіцца на ягонай старане, быццам ягоныя паводзіны і запраўды беззаганнымі зьяўляюцца, асабліва, калі ўзяць пад увагу апошняе і самае задзіўляючае, — што, паводля апініі большасьці, багі даруюць нарушэньне зароку толькі закаханаму, паколькі зарок любові ня мае сілы. Затым, багі і людзі, паводля тутэйшых звычаяў, закаханаму даюць поўныя правы, і, калі ўзяць усё гэта разам пад увагу, можна зусім трапны зрабіць вывад, што любоў і зычлівасьць у напрамку закаханага ў гэтым месьце ўважаюцца нечым асабліва прыгожым.

З другой стараны, калі бацькі прыстаўляюць да сваіх сыноў узгадавальнікаў, каб апошнія ў першую чаргу не пазвалялі гутарыць з каханымі, а равесьнікі сыноў і іхныя сябры закіды ім чыняць з прычыны гэтакіх гутарак, прычым старшыя не перашкаджаюць апошнім выступаць з падобнымі закідамі, дык, назіраючы гэта, можна, наадварот, выснаў зрабіць, што суадносіны паміж закаханымі ўважаюцца ў нас амаль што нечым сорамным.

Але, як я ўжо сказаў раней, праўдаю астаецца, што падобнага роду практыка — будзе яна прыгожаю ці брыдкаю — не зьяўляецца, як я думаю, пытаньнем гэтак і простым; рэч прыгожаю выдаецца таму, хто прыгожа даконвае яе, і брыдкаю таму, хто паступае брыдка. Дагаджаць нізкаму чалавеку сталася заганаю, або паніжаючым спосабам; але прыгожым — чалавеку годнаму, і годным спосабам. Нікчэмным зьяўляецца той палюбоўнік, які цела любіць болей, чымся душу. Затым бо ён і нясталы, паколькі нясталым ёсьць

тое, што́ ён любіць. І, калі цьвет маладосьці, да якое ён гарнуўся, адцьвіце, тады, ня гледзячы на ўсе ягоныя словы і прырачэньні, іма́еццa ён за крыльлі і ляціць далей. Але той, хто любіць чалавека з прычыны годнасьці і характару, той астаецца верным праз усё жыцьцё, бо ён суспольніўся з тым, што́ трывае. [*184*] Звычай, аднак, нашага места наказвае кажнага акуратна дасьледзіць з тым меркаваньнем, каб адным ісьці на спатканьне, а іншых абмінаць, вызначаючы ім задачы, іспытваючы іх, каб пазнаць, да якое групы до́рачыя любоўю належаць. На гэтай аснове, перадусім, уважаецца брыдкім, быць хутка пераможаным, не адчакаўшы нейкага часу, які наагул зьяўляецца добрым чыньнікам спраўджаньня; затым, ганьбаю зьяўляецца аддавацца за грошы, або з прычыны палітычнага ўплыву палюбоўніка, незалежна ад таго, выклікана гэтая паддатлівасьць страхам з прычыны эканамічнае галіты, або нядольнасьцю аднесьціся з пагардаю да дабрадзействаў, грошай ці да ўплываў палітычных; бо ўсе гэтыя рэчы выяўляюцца як нясталыя і ня маючыя апоры, ня кажучы ўжо нічога пра тое, што на гэткай аснове ніколі ня грунтуецца дабразычлівае сяброўства. Згэтуль выснаў, што годным спосабам дагаджаць каханаму можна, паводля нашага звычаю, толькі пры адной прадумовіне. Наш звычай наказвае, што, калі ніхто не папракае ў лісьлівасьці палюбоўнікаў бяз увагі на тое, як панявольніцку ні служылі-б яны паводля свае волі справе любові, дык з другой стараны, астаецца толькі адна беззаганная хворма дабравольнага паняволеньня, — гэта служба дасканаласьці.

Затым, паводля нашага звычаю, калі адзін праяўляе склоннасьць служэньня іншаму, у перакананьні, што чалавек гэтым можа стацца лепшым у галіне мудрасьці або якой-небудзь іншай дзялянцы цноты, гэткага роду дабравольнае нявольніцтва не зьяўляецца ані

брыдкім, ані паніжаючым. Калі гэтыя два звычаі, якія адносяцца да любові да юнакоў і любові да мудрасьці і цноты наагул, супроцьпаставіць, дык мы атрымаем той выпадак, калі юнак, уступаючы палюбоўніку, нічога ня губіць са свае годнасьці. Інакш кажучы, калі палюбоўнік і каханы зыходзяцца кажны са сваім звычаем — адзін, калі служыць згоднаму каханаму ў кажнай добрай рэчы, а другі, са свае старны, уважае ні ў чым не адмаўляць чалавеку, які чыніць яго мудрым і добрым, і калі палюбоўнік зьяўляецца здольным учыніць юнака болей разумным і болей пасьпяваючым у мужнасьці, а юнак імкнецца ўзбагаціцца асьветаю і мудрасьцю — дык вось, як бачым, калі яны абодва выражаюць сузгоднасьць, тады, і толькі тады, выступае, што дагаджаць палюбоўніку зьяўляецца прыгожым, і ніколі ў іншым выпадку. У падобным выпадку нават ашукацца ня сорамна, а ў кажным іншым — і ашукацца і не ашукацца — аднолькавы сорам. [*185*] Калі, напрыклад, юнак аддаецца дзеля багацьця нібы багатаму палюбоўніку і ашукваецца ў сваіх спадзяваньнях і ніякіх грошай не атрымлівае, бо палюбоўнік аказаўся бедным, гэтакаму юнаку ўсяроўна павінна быць брыдка, бо-ж ён выявіў, што дзеля грошай пойдзе за кажным чалавекам, на кажную рэч — і гэта ня ёсьць прыгожа. Гэтаксама, калі хто аддаецца чалавеку на від прыстойнаму, выходзячы зь меркаваньня, што, дзякуючы сяброўству з гэтакім чалавекам, станецца лепшым, а той, са свае стараны, выявіўся чалавекам дрэнным і нягодным, дык матывы гэткае памылкі ўсё-ж астаюцца прыгожымі. Бо-ж ён ужо паказаў, што дзеля таго, каб стацца лепшым і болей дасканалым, гатоў учыніць для кажнага што хочаце. І гэта найпрыгажэйшая рэч за ўсё на сьвеце. Згэтуль, дагаджаць дзеля цноты і мужнасьці астаецце прыгожым у кажным выпадку.

Гэтакай зьяўляецца любоў багіні нябеснае: адначасна нябеснай і дарагаценнай для места, як і для паасобнага чалавека; бо яна вымагае ад каханага і кахаючага вялікае ўвагі аднасна дасканаласьці. Але іншая любоў належыць да другое багіні — простае. Вось, мой дарагі Файдрос, мой скромны ўклад на тэму любові, які я мог унесьці ў дадзеную хвіліну.

Калі Паўзаніяс давёў да канца сваю думку, — гэтакае стылізацыі вучаць мяне сафістыя, — паводля нарацыі Арыстодэмоса, слова меўся забраць Арыстофанэс. Аднак, ці гэта з прычыны перанасычанасьці, ці зь якое іншае, якраз у гэтым часе напала на яго ікаўка, і ён ня мог прамаўляць, і дзеля гэтага змушаны быў зьвярнуцца з наступнымі словамі да лекара Эрыксімахоса, які аблакочаны ляжаў побач:

— Паважаны Эрыксімахос, або ты спыні маю ікаўку, або гавары замест мяне, да тае пары пакуль я не перастану ікаць.

І Эрыксімахос адказаў:

— Я ўчыню адно і другое. Мы заменімся адно чарговасьцю: я буду прамаўляць замест цябе, а ты, калі ікаўка міне, будзеш гаварыць пасьля мяне. А тымчасам пакуль я буду гаварыць, затрымлівай дыханьне даўжэй, і не аглянешся, як ікаўка міне. А калі, ня гледзячы на гэта, яна ўсё-ж ня міне, тады папалашчы трохі горла вадою. А калі і гэта не паможа, — пасплакачы чым-небудзь ў носе і чхні добра. Зрабі гэта пару разоў і яна напэўна міне, якой-бы сільнай яна ня была.

— Добра, ты гавары, — адказаў Арыстофанэс, —а я ўсё гэта зраблю.

Пасьля гэтага Эрысімахос сказаў:

— Хоць Паўзаніяс і прыгожа пачаў сваю мову, аднак ён не давёў яе да [*186*] здавальняючага нас канца, за-

тым я мушу ўчыніць спробу з належнаю дастатковасьцю закончыць яе. Што Эрос падвойным зьяўляецца, гэта трапная спасьцярога. Тое, што жыве ён ня толькі ў людзкай душы і ў яе імкненьні да прыгожых людзей, але і ў шматлікіх іншых яе праявах, дый наагул у шматлікіх іншых рэчах на сьвеце, гэтаксама ў целах зьвераў, як і ў расьлінах, коратка кажучы, ува ўсім, што існуе, — гэта выяўляе нашае мэдычнае мастацтва, бо ён велічны бог, дзіўны і ўсеагортваючы і суспольны рэчам людзкім як і боскім. Пачну я сваю мову зь лячэньня, каб гэткаю дарогаю ўшанаваць маё мастацтва.

Натуральная свомасьць цела зьмяшчае ў сабе два вырозьненьні любові. Бо здаровы пачатак цела і хворы, паводля агульнага разуменьня, зьяўляюцца рознымі і непадобнымі; і непадобнае мае цягу да непадобнага і любіць яго. У здаровым знаходзіцца адзін Эрос, а ў хворым — іншы. І гэтак рэч маецца, як толькі што сказаў Паўзаніяс, прыгожаю рэчаю зьяўляецца дагаджаць прыстойным людзям, і дрэннаю — распусьнікам; гэтаксама дагаджаць ў целе здароваму пачатку — што, фактычна, зьяўляецца мэдычным мастацтвам, — ёсьць рэчаю прыгожаю, а хвораму і дрэннаму — сорамна і непатрэбна, дый нават наадварот — трэба ўсімі магчымымі сродкамі супроцьставіцца яму, калі чалавек, запраўды, мае быць праўдзівым лекарам. Бо мэдычнае мастацтва, коратка выражаючыся, зьяўляецца веданьнем любові і нахілу цела да выяўленьня яе, і той, хто ўмее бачыць сярод гэтых выяўленьняў прыгожае і дрэннае, той зьяўляецца сьведамым лекарам; а той, хто імкнецца выклікаць зьмены, заступаючы ў целе адну любоў другою, творачы неабходную любоў там, дзе яе няма, але дзе яна павінна быць, і, выводзячы адтуль непатрэбную, той проста зьяўляецца мастаком. Як бачым, тут вымагаецца здольнасьць учыненьня сябрамі найбольшых ворагаў у целе так, каб яны любі-

ліся. Найболей варожым зьяўляецца тое, што́ супроцьставіцца сабе: халоднае і гарачае, горкае і салодкае, сухое і мокрае і гэтак далей. І мой прадок, Эсклепіёс, як нашыя тут паэты кажць, — і я веру ім, — ведаючы як прышчапіць сузгодзьдзе і любоў гэтым варожым сабе пачаткам, — і стварыў першааснову для нашага мастацтва.

Апрача мэдычнага мастацтва, — якое, як гэта ўжо сказана, суцэльна падпарадкавана Эросу, — бог гэты кіруе гэтаксама гімнастыкай і земляробствам; [*187*] з музыкаю, як кажнаму, хто хоць крышку падумае, ведама, што рэч маецца гэтаксама; гэта, магчыма, і ёсьць тое, што́ Гэраклітас мае на ўвазе, хоць думка ягоная і не найляпей выказаная. Ён кажа, найменна, што „Адно раздвойваецца ў сабе, астаючыся адзіным“, „як гармонія ліры і смыка́“. Неразумным, аднак, зьяўляецца ўтрымліваць, быццам гармонія — гэта раздваеньне або, што яна можа ўзьнікнуць з раздваеньня. Вельмі магчыма, што ён хоча проста сказаць, што, дзякуючы музычнаму мастацтву, гармонія ўзьнікла з высокіх і нізкіх гукаў: спачатку раздвоеных, а пасьля спалучаных. Бо-ж гармонія ня можа ўзьнікнуць з раздвоеных высокіх і нізкіх гукаў. Гармонія — гэта сугучнасьць, а сугучнасьць — гэта да пэўнае ступені згода; і, як доўга згода астаецца пад раздваеньнем раздвоенай, яна ня можа прыйсьці да быцьця. З другой стараны — супроцьлежнае і нясузгоднае ня могуць згарманізавацца, падобна, як бачым гэта на прыкладзе рытму, які творыцца сузгоднасьцю доўгасьцяў і кароткасьцяў, што спачатку розьняцца між сабою. Музычнае мастацтва ўва ўсё гэта ўносіць згоду, падобна як і мастацтва мэдычнае, увасяроджваючы любоў і сузгодзьдзе. З гэтага, музычнае мастацтва зьяўляецца ведаю любові адносна гармоніі і рытму. І ў самым узьніканьні строю і рытму ня трудным зьяўляецца ўвыапрычоніць першапачатак

любові, як і спасьцерагчы падвойнага Эроса. Зноў-жа, калі выступае патрэба пераказаць людзям гармонію і рытм, гэта значыць, або выяўляць мўзыку, якая называецца тварэньнем мэлёдыі, або правільна адтварыць ужо створаныя мэлёдыі і памеры, што асягваецца дарогаю вывучэньня, тады гэта выдаецца цяжкім, і стаецца справаю добрага майстры. Тут выступае зноў тое самае старое зьявішча, што дагаджаць трэба прыстойным людзям, а тых, каторыя яшчэ не зьяўляюцца прыстойнымі, заахвочваць да гэтага і, што іхная любоў, якую трэба сьцерагчы, зьяўляецца прыгожаю, нябеснаю любоўю, якая належыць да Музы Ураніі; але Эрос Палігімніі астаецца простым, тарнаваць якога чалавек, калі ўжо да гэтага дойдзе, павінен зь вялікаю асьцярожнасьцю, каб займеў прыемнасьць, але ня выклікаў непаўстрыманасьці. Падобна, як і ў нашым мастацтве, важным зьяўляецца правільна накіроўваць жаданьні, зьвязаныя з кулінарным мастацтвам, каб людзі карысталіся прыемнасьцю, не хварэючы. Вось гэтак і ў музыцы, і ў мэдычным мастацтве, як і ўва ўсіх іншых справах людзкіх і боскіх трэба, наколькі гэта магчымым ёсьць, браць пад увагу абодвых Эросаў, бо і той і гэты там зьяўляюцца прысутнымі.

[*188*]. Гэтаксама ўпарадкаваньне пораў году напоўнена гэтымі двума. Калі пачаткі, пра якія я гаварыў, халоднае і гарачае, сухое і мокрае, займеюць нахіл любові адзін да аднаго ў гармоніі і разумным зьліцьці, тады прыносяць яны дабрабыт і здароўе для людзей, зьвераў як і для расьлінаў, ня чынячы ім ніякае шкоды. Калі, аднак, разнузданая любоў авалодае порамі году, спрычыняе яна шкоду і шматлікае нішчыць. Тут знаходзіцца прычына чаму ўзьнікаюць заразныя і іншыя хваробы, закранаючыя жывёлу і расьліны. Бо-ж шэрань і град, і іржа ўзьнікаюць з прычыны абязнузданае і неапанаванае любоўнае цягі, веданьне чаго ў адносінах да рухаў

зор і зьменаў пораў году, называецца астраноміяю.

Далей, ахвяраваньні, і ўсё тое, штó адносіцца да прадказваньня, — што і зьяўляецца супольнасьцю багоў і людзей, — гэтаксама зьвязана ні з чым іншым, як з абаронаю любові,з аднае стараны,і лячэньнем яе — з другое. Бо кажная няслава ўзьнікае, як заўсёды, тады, калі не адносяцца з пашанаю да прыстойнага Эроса і ня ставяць яго на першае месца, а ўсенькі гонар гэты накіроўваюць у бок іншага Эроса, і гэта ўсяроўна, ці ідзе рэч пра бацькоў — жывых ці памершых, ці — пра багоў. Затым-бо і існуе мастацтва прадказваньня, каб назіраць любоўную склоннасьць і аздараўляць яе; затым і выходзіць, што прадказваньне, выкрываючы дабро і зло ў нахілах людзей, стаецца сымптомам прыязьні паміж людзьмі і багамі.

Затым можна сказаць, што любоў у сваей суцэльнасьці зяўляецца неабмежавана магутнай, і ў апрычонасьці тая, якая тасуецца да дабра, у сваім завяршэньні з памяркоўнасьцю і справядлівасьцю, аднолькава тут як і ў небе, мае найбольшую магутнасьць, дорачы нас усякім шчасьцем, чынячы нас здольнымі займець неразлучную супольнасьць, як і аставацца ў сузгоднасьці з багамі, якія знаходзяцца вышэй за нас.

Калі сталася, што я што-небудзь прапусьціў у сваей мове, тваею, вось, рэчаю будзе, Арыстофанэс, удакладніць; або, калі ты маеш замер выразіць пашану гэтаму богу ў іншы спосаб, калі ласка, учыні гэта, тым болей, што твая ікаўка ўжо мінула.

[*189*] І Арыстофанэс адказаў:

— О, так, мінула зусім, але не раней, як я расчыхаўся, і я дзіўлюся, што нармальны стан цела асягваецца гэтакім бурным і ласкатлівым спосабам; яна адразу мінула, пасьля таго, як я чхануў добра некалькі разоў.

— Глядзі, што ты робіш! — сказаў Эрыксімахос Арыстофанэсу, — на пачатку свае мовы ты пачаў даўціпамі забаўляцца, і мне, мусіць, давядзецца ў часе твае мовы сачыць, каб ты не аддаваўся жартам, бо-ж ты мог-бы гаварыць зусім добра.

— Ты маеш рацыю, Эрыксімахос, — сказаў, сьмяючыся, Арыстофанэс, — я забіраю свой даўціп назад. Але, калі ласка, ня пільнуй мяне, бо адносна таго, што́ я маю сказаць, я не баюся зусім, быццам я маю сказаць нешта сьмешнае, — гэта было-б нават карысным, і зусім у сузгоднасьці з маею музаю, — але барждзжэй затым, што сам станусся сьмешным.

— Пачакай, гэтак лёгка табе ня пойдзе, Арыстофанэс, — сказаў Эрыксімахос. — Будзь асьцярожным і прамаўляй гэтак, быццам табе належыць здаваць справаздачу з таго, што́ ты кажаш, а я, магчыма, і ня буду зьвяртаць увагі.

— Ведама, Эрыксімахос, — пачаў гаварыць Арыстофанэс, — я ня маю замеру гэтак выказваць думкі, як ты і Паўзаніяс. Мне здаецца, што людзі астаюцца ня сьведамымі адносна запраўднае магутнасьці Эроса, бо, калі-б яны былі сьведамыя гэтага, яны ўздымалі-б на ягоную чэсьць аграмадныя сьвятыні і аўтары, і складалі-б найбольшыя ахвяры, а тымчасам нічога падобнага яны ня робяць, хоць павінны гэта чыніць у першую чаргу. Бо-ж з пасярод багоў ён найболей прыхільны да людзей, ён успамагае людзей і лечыць іх зь іхных немачаў, выбаўленьне зь якіх было-б для людзкага роду найбольшым шчасьцем. Затым я спрабую вылажыць вам ягоную магутнасьць, а вы, са свае стараны, станецеся вучыцелямі для іншых.

Перадусім, вы павінны пазнаць натуру чалавека, а пасьля — бег выдарэньняў. Калісьці нашая натура бы-

ла зусім іншай і ня гэткай, як цяперака. Перадусім, людзі былі трох палоў, а ня двух, як сягоньня; — мужчынскага і жаночага, бо існаваў яшчэ трэйці, які злучаў у сабе аднолькавыя прыкметы [190] гэтых абодвых, але сам ён шчез, захаваўся зь яго толькі назоў, які цяперака ўжываецца між людзьмі як зьняважлівая мянюшка — андроґіны. Далей, форма чалавека была круглая, плечы і грудзі рэбрамі тварылі наўкольле; ён меў чатыры рукі і гэтулькі сама ног, і дзьве твары на крыглай шыі, зусім падобныя да сябе; галава двох гэтых твараў, скіраваных у супроцьлежныя стораны, была агульнай, з дзьвюма парамі вушэй, з дзьвюма саромнымі часткамі, а ўсё іншае можна сабе ўявіць на падставе таго, што ўжо сказана. Хадзіў ён або выпрастаўшыся, як мы цяперыка, але ў вадным з двох напрамкаў, або, калі яны хацелі хутка бегчы, яны перакочваліся калясом, заносячы восем канчынаў наўзьверх, і ставячы іх на зямлю, і гэта давала ім магчымасьць хутка парушацца наперад. Полаў было тры, і былі яны гэтакімі, бо мужчынскі выводзіўся ад сонца, жаночы — ад зямлі, і сумяшчальны два іншыя — ад месяца, які гэтаксама зьмяшчае ў сабе два пачаткі. Іхная форма была круглай і хадзілі яны колам, бо яны былі падобнымі да сваіх продкаў. Страшэныя ў сваей сіле і магутнасьці, яны парываліся на вялікія чыны зь вялікімі замерамі, і тое, што Гомэр кажа пра Отоса і Эфіальтэса, адносіцца да іх, пайменна, што яны чынілі спробу ўзыйсьці на неба з мэтаю атакі на багоў.

Зэус і іншыя багі пачалі ра́дзіцца, што зрабіць зь імі, і не маглі прыйсьці да ніякае пастановы. Яны думалі, калі пабіць іх, як калісьці волатаў, кідаючы на род людзкі пяруны і громы — тады яны самыя згубяць пашану сярод людзей і ахвяры; але і згадзіцца з гэткаю бунтарнасьцю гэтаксама не магчымым было. Нарэшце, пасьля намаганьняў Зэус упаў на думку, дый кажа:

— Мне здаецце, што я знайшоў разьвязку; мы можам дазволіць людзям далей існаваць, і адначасна супыніць іхны гвалт дарогаю ўчыненьня іх слабейшымі. Я раскрою кажнага зь іх на дзьве палавіны! Два асягненьні за адзін раз! Па-першае, яны стануць слабейшымі, а па-другое — болей карыснымі для нас, бо-ж лік іх пабольшыцца. І з гэтае пары будуць яны хадзіць проста, на дзьвюх нагах. А калі яны і пасьля гэтага астануцца бунтарнымі, — сказаў ён, — тады я далей раскрою іх папалам, і яны будуць скакаць у мяне на адной назе!

Пры гэтых словах ён пачаў раскройваць людзей папалам, гэтак, як раскройваюць садовіну для стаўленьня ў слой, або кроящь яйцо пры помачы валаска. І ў кажнага, каго ён раскроіў, паводля ягонага загаду, Апольлён павінен быў павярнуць твар у напрамку раскрою і палавіну шыі, гэтак, каб чалавек, гледзячы на сваё зьнявечча, ставаўся болей ціхамірным, а ўсё іншае на целе было залечана. І Апольлён пахіляў твары, а з бакоў сьцягваў шкуру, што абвісала, скіроўваючы ўсё на тое месца, якое сягоньня называецца жыватом, звужаючы яго па сярэдзіне ў дзірку, быццам капшук сьцягнуты шнуром — затым яе і па сягоньняшні дзень называюць пупом. [*191*] Ён гэтаксама ўхвармаваў грудзі і выгладзіў зморшчкі, падобна як шаўцы выгладжваюць шкуру на капыле, пакідаючы ўсё-ж крыху на сярэдзіне жывата, як пуп, на памятку сівога ў часе здарэньня. І вось, калі цела гэткім спосабам была расьсечана на дзьве палавіны, кажная палавіна з пажадлівасьцю імкнулася да другое паловы; яны зыходзіліся, абымаліся рукамі і сьпляталіся, хочучы пажадліва зрасьціся, паміралі з голаду і бязьдзейнасьці, затым, што нічога не хацелі рабіць у стане апрычонасьці. І, калі памірала адна палавіна, дык тая, што аставалася пры жыцьці, вышуквала сабе якую-небудзь іншую палавіну і сьпляталася зь ёю, не-

залежна ад таго, траплялася ёй палавіна папярэдняе жанчыны, гэта значыць, тое, што́ цяперака называецца жанчынаю, або папярэдняга мужчыну. Гэтак яны і гінулі. Тады зьлітаваўся над імі Зэус і даў ім іншы спосаб, пайменна, ён пераставіў наперад ворганы размнажэньня, якія да гэтае пары былі скіраваныя ў тым самым напрамку, што і твар раней, гэтак, што семя яны распаўсюджвалі не адзін у другога, але проста на зямлю, як польныя конікі. Перастаўляючы іхныя ворганы размнажэньня, гэтым самым ён стварыў зачацьце жанчыны мужчынам, дзелятаго, каб дарогаю абдымкаў мужчыны з жанчынаю радзіліся дзеці і не супыняўся род; а калі мужчына зыйдзецца з мужчынам, асягвалася здаволеньне праз супольнасьць, каб яны маглі супачыць і заняцца працаю, прысьвячаючы ўвагу іншым неабходным справам. Дык вось зь якое давен-даўнае пары свомай для людзей зьяўляецца цяга адзін да другога, якая, злучваючы папярэднія палавіны, імкнецца стварыць з двох адно і гэтым самым аздаравіць людзкую натуру.

Затым кажны з нас зьяўляецца часткаю чалавека, бо мы раскроеныя, быццам плоская рыба, з аднаго сталіся дзьве часткі. Затым кажны шукае свае другое часткі. Мужчыны, якія зьяўляюцца часткаю таго супольнага існаваньня, якое аднойчы называлася мужчынажанчынаю, маюць цягу да жанчын, і чужаложнікі ў сваей большасьці належаць да гэтае групы, гэтаксама і жанчыны, гэтага паходжаньня маюць ахвоту да мужчын. Жанчыны-ж, якія твораць сабою частку папярэдняе жанчыны, ня вельмі шмат шманаюць пра мужчын, і з гэтае групы выводзяцца трыбады. Але мужчыны, якія рэпрэзэнтуюць сабою папярэдняга мужчыну, маюць нахіл да ўсяго мужчынскага; [*192*] і як толькі стаюцца хлапцамі, будучы часткамі адсечанымі ад мужчынскага полу, любяць мужчын, і ім прыемна ляжаць і абыймацца з мужчы-

намі, і яны зьяўляюцца найлепшымі зь юнакоў, бо яны з натуры свае зьяўляюцца найболей адважнымі. Некаторыя людзі называюць іх бяссорамнымі, але гэта памылкава. Бо чыняць яны гэта не з прычыны бяссорамнасьці, але з прычыны свае адвагі, харобрасьці і мужнасьці, і з прычыны свомае ім мужнасьці, якая ахвоча сустракае тое, што́ падобна ім. Тут маем вялікі доказ гэтага: толькі гэтакія мужчыны, калі яны даходзяць да сьпелага веку, пасьвячаюць самых сябе грамадзкім справам. І, калі яны стаюцца дарослымі мужчынамі, яны любяць юнакоў, і яны не выяўляюць натуральнае схільнасьці да жанімства і да займе́ньня сям'і; да гэтага змушае іх абычай, самыя-ж яны здавольваліся-б сужыцьцём адзін з другім, астаючыся бязжэннымі. У кажным выпадку, гэтакі чалавек заўсёды праяўляе нахіл да юнакоў і стаецца сябрам палюбоўнікаў, наколькі ён выяўляе склоннасьць да суроднага. Затым, калі хтонебудзь зь іх напаткае сваю ўласную палавіну, ці будзе гэта прыхільнік юнакоў ці хто-небудзь іншы, сваеасабліва паддаюцца яны пачуцьцю ўзаемнага ўпадабаньня, прысутнасьці і любові, што, запраўды, яны ня хочуць пакінуць адзін аднаго нават на кароткі час. І яны зьяўляюцца тымі, каторыя прабываюць разам на працягу ўсяго жыцьця, і адначасна не маглі-б сказаць што́ яны хочуць адзін ад другога. Бо-ж ніхто ня можа ўтрымліваць, што гэта змысловае зьяднаньне і, што быццам зь яго выцякае імкненьне быць у прысутнасьці іншае стараны. Ясным стаецца, што душа кажнага зь іх тужыць па нечым іншым, а па чым якраз, яна і сама ня можа сказаць, а толькі здагадваецца адносна сваіх жаданьняў, і бачыць іх быццам у сьне. І калі-б перад імі, калі яны ляжаць разам, зьявіўся Гэфаістос са сваімі прыладамі і спытаў іх: „Чаго вы, людзі, хочаце адзін ад другога?“ — а пасьля, бачучы, што ім цяжка адказаць, спытаў-бы зноў: „Магчыма, вы хочаце быць як най-

даўжэй разам і не пакідаць адзін другога, ані днём, ані ноччу? І, калі гэта зьяўляецца вашым жаданьнем, дык я гатоў расплавіць вас і ссуцэльніць у вадно, і тады з двух людзей станецца адзін чалавек, і, да тае пары, пакуль вы жывеце, вы будзеце жыць адным супольным жыцьцём, а калі вы памрэце, у Гадэсе замест двух будзеце як адзін памершы, бо вы памраце супольнаю сьмерцяю. Затым падумайце, ці гэта ёсьць вашым жаданьнем, і ці будзеце вы здаволены, калі асягнеце гэта?“ І, калі-б нешта падобнае здарылася, мы можам быць пэўнымі, што кажны зь іх ня толькі адмовіўся-б ад падобнае прапазыкі і ня высунуў-бы ніякага іншага жаданьня, але быў-бы пэўны, што пачуў якраз тое, аб чым з давен-даўна мроіў, агорнуты імкненьнем ссупольніцца і ссуцэльніцца з каханым у вадну існасьць. І прычынаю гэтага ёсьць тое, што гэта і была нашая першапачаткавая хворма, калі мы былі адною суцэльнасьцю.

Затым, прагнасьць суцэльнасьці і імкненьне асягненьня яе называецца Любоўю.

[*193*] Раней, як кажу я, былі мы нечым адным, а цяперака, з прычыны нашае несправядлівасьці, мы аселеныя богам паасобку, гэтак, як аркадцы лякедаймонцамі. Існуе небясьпека, калі мы не станемся людзьмі добрых паводзінаў адносна багоў, дык нас раскрояць яшчэ раз і гэтак станемся падобнымі да тых поў-людзей, рэльефна выражаных на надмагільных каменьнях, якія быццам расьпілаваны ўздоўж носу, падобныя да падзеленых костак да гульні, зь якіх другую палавіну мае нехта іншы. З гэтае прычыны мы павінны навучаць кажнага чалавека стацца богабойным, каб нас не засьпела гэтае гора і, каб нашым удзелам сталася суцэльнасьць, да якое накіроўвае нас Эрос і вызначае напрамак нашых імкненьняў. І няхай ніхто зь людзей не супроцьставіцца Эросу, — бо той толькі

супроцьставіцца Любові, хто воража адносіцца да багоў. Бо, калі мы станемся прыяцелямі гэтага бога, дык у тых, каго мы любім, мы напаткаем і знойдзем сваю частку, якую цяперака не шматлікім давялося сустрэць. І няхай Эрыксімахос ня думае рабіць жарт з мае мовы, мяркуючы, быццам я маю на ўвазе Паўзаніяса і Аґатона. Магчыма і яны належаць да гэтых нешматлікіх і абодва зьяўляюцца мужчынскае натуры. У грунце рэчы, я гавару наагул пра ўсіх мужчын і жанчын і хачу сказаць, што шчасьце нашага роду залежыць ад ступені дасканаласьці нашае любові і ад знойдзеньня сабе адпаведнага аб'екту любові, каб гэткаю дарогаю вярнуцца да свае першабытнае натуры. І, калі гэта зьяўляецца тою, магчыма, найлепшаю рэчаю, дык з усяго, штó мы маем цяперака, найлепшым трэба прызнаць тое, штó бліжэй за ўсё да самага найлепшага, гэта значыць, знайсьці аб'ект любові, які адказваў-бы найлепшаму нашаму разуменьню. Згэтуль, калі мы хочам славіць бога, дык мы павінны славіць Эроса, бо гэта ён, які пасылае нам гэтае шчасьце; мала таго, што Эрос у сучаснасьці дорыць нас найбольшым дабром, кіруючы нас да таго, хто зьяўляецца найбліжэйшым да нашага найлепшага разуменьня, але ён разгорне перад намі, — калі толькі мы шанавацімем багоў, — найпрыгажэйшую будучыню, бо гэта ён, аздараўляючы нас і вяртаючы да нашае першабытнае натуры, учыніць нас шчасьлівымі і добраслаўленымі.

Вось, Эрыксімахос, — сказаў ён, — мая мова адносна Любові, яна зусім розьніцца ад твае. І, як я ўжо прасіў, не рабі жартаў зь яе, а дай нам паслухаць, штó скажуць іншыя, дый гэтых іншых толькі і засталося двох — Аґатон і Сакратас.

— Я зраблю гэтак, як ты кажаш, — сказаў Эрыксіма-

хос, — тым болей, што мова твая падабалася мне. І, калі-б я ня ведаў, што абодва, і Сакратас і Аґатон зьяўляюцца вялікімі знаўцамі ў прадмеце любові, дык я вельмі баяўся-б, што яны ня мецімуць нічога болей сказаць, бо, фактычна, шматлікае і词знае ўжо выказана. Але затым я і не баюся.

[*194*] На гэта Сакратас адказаў:

— Ты, Эрыксімахос, з моваю сваею вывязаўся вельмі добра. Але вось, калі-б ты апынуўся на маім месцы, на якім я знаходжуся, або, болей дакладна кажучы, апынуся, калі і Аґатон скажа сваю мову, дык табе было-б болей боязна, і ты дакладна меў-бы тое самае пачуцьцё, якое я цяперака дазнаю.

— Ты хочаш, Сакратас, — уключыўся ў гутарку Аґатон, — навесьці на мяне чары, каб я ўзьбіўся на тую думку, што прысутныя тут гледачы няведама якое мовы ад мяне спадзяюцца.

— Я меў-бы вельмі дрэнную памяць, Аґатон, — адказаў Сакратас, — калі-б я думаў, што ты будзеш адчуваць страх цяперака перад гэтакаю жменяю людзей, як мы тут сабранымі, пасьля таго, як я бачыў цябе, як адважна і з якою павагаю ўзыходзіў ты з артыстымі на сцэнічнае пасланьне і перад выказаньнем укладзеных табою прамоваў глядзеў ты проста ў вочы тысячам гледачоў без найменшага адценю страху.

— Ці думаеш ты, Сакратас, запраўды, — сказаў Аґатон, — што я нагэтулькі пераняўся тэатрам, што не разумею, што для чалавека хоць крышку думаючага некалькі разумных людзей могуць выдавацца болей страшнымі, чымся вялікі натоўп нясьведамых?

— Гэта было-б зусім няпрыгожа з мае стараны, — адказаў Сакратас, — калі-б я быў гэткае нямудрае думкі адносна цябе; тым болей, што я добра ведаю, што, калі-б ты знайшоўся ў васяродзьдзі тых, каторыя, паводля твайго пагляду, зьяўляюцца, запраўды разумны-

мі, ты лічыўся-б зь імі болей чымся з натоўпам. Хоць мы можам і ня быць імі. Бо-ж і мы гэтаксама былі там і належалі да натоўпу. А вось, калі-б ты трапіў у вясродзьдзе якіх-небудзь разумных людзей, ты-ж бы, напэўна, саромяўся іх, асабліва тады, калі-б ты ўважаў, што чыніш нешта дрэннае. Ці-ж ня гэтак?

— Зусім гэтак, як ты кажаш, — адказаў Аґатон.

— Але натоўпу ты-ж не саромяўся-б, калі-б ты ўважаў, што чыніш нешта дрэннае?

На гэтым месцы ў гутарку ўступіў Файдрос:

— Мой паважаны Аґатон, — сказаў ён, — калі ты будзеш адказваць Сакратасу, яму будзе абыякасна, што́ тут робіцца, яму ідзе пра тое, каб адно мець размоўцу, дый да гэтага яшчэ прыгожага. Што да мяне, дык я рад слухаць ягоныя гутаркі і праяўляць кажную рупнасьць, каб Эрос быў слаўленым, і дамагацца ад кажнага ад вас прамовы. Няхай, затым, кажны з вас аддасьць перш належнае гэтаму богу, а пасьля ўжо мейце вашыя дыскусьіі дзеля вашае ўласнае прыемнасьці.

— Ты кажаш да рэчы, — сказаў Аґатон, — затым я пачынаю. А што да таго, каб весьці гутаркі з Сакратасам, дык я яшчэ да гэтага не аднойчы меціму нагоду.

Перш я хачу сказаць аб тым, як я буду гаварыць, а пасьля ўжо гаварыць. Мне здаецца, што ўсе, каторыя гаварылі да гэтае пары, ня гэтулькі бога гэтага выхвалялі, колькі праяўлялі захопленьне з прычыны таго дабра і шчасьця, якое ён пасылае людзям. Але пра яго самога, каторы ўсё гэта дае ім, ніхто не гаварыў. [*195*] А тымчасам адзіны правільны спосаб выражэньня пашаны пад адрысам каго-небудзь — гэта сказаць кім ён зьяўляецца, якія свомасьці праяўляе той, пра каго ідзе гутарка і ў якіх рэчах ён выяўляе сябе. З гэтае прычыны павінны мы перш аддаць належную па-

шану самому Эросу з прычыны таго, чым ён зьяўляецца, а пасьля ўжо і ягоным дарункам.

Затым я ўтрымліваю, што ўсе багі зьяўляюцца шчасьлівымі, але, калі дазволена сказаць без абразы для каго-небудзь, дык я гатоў адзначыць, што Эрос зьяўляецца найболей шчасьлівым сярод іх, затым, што ён найболей прыгожы і найболей дасканалы між імі. І як далёка ён зьяўляецца найпрыгажэйшым — як раз аб гэтым хачу гаварыць. Перадусім, Файдрос, ён зьяўляецца найпершым між багамі. Адзін найболей пераконваючы доказ гэтага ён сам пастарчае тым, пайменна, што ён бягма-бягом ухіляецца ад старасьці, якая ніколі ня позьніцца і, як ведама, насьпявае хутчэй, чымся хто-небудзь зь людзей спадзяецца. Эрос, з прычыны свае натуры, ненавідзіць старасьць і абыходзіць яе як найдалей. Але з маладымі ён сябруе і трымаецца іх, бо як і старое выслоўе кажа, „Падобнае да падобнага імкнецца“. Згаджаючыся з Файдросам у шматлікіх рэчах, я разыходжуся зь ім у тым, быццам Эрос зьяўляецца старэйшым ад Іапетоса і Кроноса. Я ўтрымліваю, што ён зьяўляецца наймалодшым сярод багоў і гэтакім астаецца заўсёды; а што да тых старых падзеяў, што адносяцца да багоў, пра якія Гэзіёдос і Пармэнідэс пераказваюць нам, дык прычынаю іх, калі наагул паэты кажуць праўду, была Неабходнасьць, а не Любоў. Бо, калі-б сярод іх панавала Любоў, дык багі не пакладаліся-б і не закоўвалі-б адзін другога ў ланцугі і наагул не даконвалі-б гвалту, а жылі-б у згодзе і супакою, гэтак, як цяперака жывуць, калі Любоў валадарыць імі. Затым, ён зьяўляецца маладым, — і апрача таго, што ён малады, — ён далікатны. І запраўды, каб адлюстраваць далікатнасьць бога, патрэбны гэтакі паэта, як Гомэр. Бо Гомэр гэта як раз гаворыць пра Ату, што яна багіняю была і далікатнаю, — прынамся ейныя ступні былі далікатныя, калі Гомэр кажа:

*Ступні яе далікатныя, імі зямнога*
*Пылу ня ўздыме — аднак, па галовах людзей*
*яна ходзіць.*

Я думаю, што ён падае дастатковы довад яе далікатнасьці, калі яна ходзіць не па цьвярдым, але па мягкім. Давайце, затым, і мы выкарыстаем гэты довад, цьвердзячы, што Эрос гэтаксама далікатны. Тым болей, што ён ня ходзіць па зямлі, ані па голавах, якія ня гэтак ужо і мягкімі зьяўляюцца; бо ён ходзіць і прабывае ў сэрцах і душах багоў і людзей, і зноў-жа, не ўва ўсіх душах бяз вынятку, а толькі ў мягкіх, бо, напаткаўшы цьвярдую душу, ён адыходзіць. А калі ён ужо і ўтульваецца заўсёды са сваімі нагамі і ўва ўсім толькі найболей мягкім, дык ён ня можа ня быць сваеасабліва далікатным. Дык вось, бачыце, ён зьяўляецца найболей маладым і найболей далікатным; [*196*] і апрача гэтага ён мае гібкую постаць; бо, калі-б ён быў цьвярды і ня меў элястычнасьці, ён ня мог-бы праціскацца ўсюды, або ўваходзіць і выходзіць з кажнае душы, ня будучы заўважаным спачатку. Пераконваючым довадам ягонае гібкасьці і элястычнасьці можа быць ягоная ласкавасьць, што да якое ўсе людзі згодны, што яна зьяўляецца характэрнаю прыкметаю Любові; бо-ж няласкавасьць і Любоў заўсёды знаходзяцца ў стане барацьбы між сабою. Адносна прыгожасьці шкуры гэтага бога можна мець ўяўленьне на падставе таго, што жыве ён сярод кветак. Бо асяродзьдзя, дзе адсутнічаюць жывыя краскі, ці адцьвіўшыя ужо, — мецiме месца гэта ў душы, целе ці ў чым-небудзь іншым, — Любоў не наведвае, яна затрымліваецце і асяляцца толькі там, дзе ўсё цьвіце і напаўняе духмянасьцю.

Адносна прыгожасьці гэтага бога я сказаў даволі ўжо; а ўсё-ж яшчэ астаецца болей з гэтага, пра што я мог-бы гаварыць. Цяперака я буду гаварыць пра яго-

ную цноту. Галоўнае, што Эрос нікога ня крыўдзіць, ані багоў, ані людзей і, што ані багі, ані людзі ня крыўдзяць яго. А калі ён церпіць, дык церпіць ён не спрычыны гвалту, — бо гвалт ня мае нічога супольнага зь ім; усё, што ён чыніць, не зьяўляецца гвалтам, бо хто-колечы служыць Эросу ў якой-небудзь рэчы, служыць яму самаахвотна, а тое, што́ чыніцца з прычыны абустароньняе згоды, „каралі гаспадарства — правы", узнаюць справядлівым. Апрача справядлівасьці ён поўны памяркоўнасьці. Агульна прызнаецца, што памяркоўнасьць зьяўляецца валадаркаю разнузданасьці і юру, і няма гэткае цягі, якая была-б сільнейшаю за Эроса. Але калі яны зьяўляюцца слабейшымі за яго, — тады яны падпарадкваюцца яму, а ён — акелзвае іх. А калі ён паўстрымлівае і цягу, і юр, дык, запраўды, трэба прызнаць, што ён поўны памяркоўнасьці. А што да харобрасьці, дык „нават сам Арэс ня можа зьмерыцца" з Эросам. Бо-ж не Арэс пануе над любоўю, але любоў над Арэсам — любоў да Афродыты, як гэта кажацца. Болей сільным, ведама, зьяўляецца той, хто валодуе, а ня той, кім валодуюць, гэта значыць, Эрос, калі ён сільнейшы за таго, хто зьяўляецца найадважнейшым за ўсіх, дык ён і павінен быць з усіх найболей харобрым.

Дык вось, адносна справядлівасьці, памяркоўнасьці і харобрасьці гэтага бога ўжо сказана, цяперака астаецца сказаць адносна ягонае мудрасьці. Наколькі гэта магчымым ёсьць, павінны мы і тут учыніць адпаведную нашым здольнасьцям натугу.

Перадусім, каб і мне давялося ўшанаваць нашае мастацтва, як Эрыксімахос ушанаваў сваё, я мушу сказаць, што гэты бог — мудры паэта і зьяўляецца здольным учыніць іншага паэтам. Што найменей, кажны, каго дакране Любоў, стаецца паэтам, нават гэтакі, „хто да гэтае пары чужым для музаў быў". Гэта зноў

можа служыць нам довадам, штос Эрос зьяўляецца добрым паэтам і, што ён астаецца сьведамым ува ўсей творчасьці, якая адносіцца да прыгожага мастацтва. Бо той, хто сам ня мае або ня ведае, ня можа іншаму даць або навучаць яго.

[*197*] А што датычыцца пакліканьня да жыцьця ўсяго жывога, дык хто-ж адважыцца пярэчыць, што, дзякуючы мудрасьці Эроса, узьнікае і творыцца ўсё, што жыве?

А своеасаблівае выкананьне ў галіне мастацтва і рамясьніцтва — ці-ж ня ведама нам, што тыя, чыім вучыцелем зьяўляецца Эрос, асягвалі найбольшую славу, а зноў-жа тыя, каго гэты бог не дакрануўся, асталіся ні кім ня ведамымі? Мастацтва лучніцтва, мэдычнае мастацтва, як і прадказваньне вынайшоў Апольлён тады, калі ён знаходзіўся пад уплывам любові і жаданьня, затым і яго трэба залічыць у лік вучняў Эроса. Гэтаксама Музы ў галіне мастацтва гукаў, Гэфаістос у галіне кавальскага мастацтва, Атэна — у ткацкім мастацтве, а Зэус — у мастацтве „кіраваньня людзьмі і багамі“ праявіліся, дзякуючы Эросу.

З гэтае прычыны ўсе справы багоў упарадкаваліся толькі тады, калі сярод апошніх узьнікла любоў — любоў прыгожасьці, зразумела, бо брыдкасьць ня выклікае пачуцьця любові. Да гэтае пары, як я ўжо сказаў на пачатку, многа страшных выдарэньняў займела месца сярод багоў, а гэта з прычыны панаваньня Неабходнасьці; але, як толькі зьявіўся на сьвет гэты бог, зараз-жа зь любові да прыгожага зьявілася ўсякае шчасьце гэтак для багоў, як і для людзей.

Затым, як мне здаецца, Файдрос, Эрос прыходзіць першым сам ў сабе, як найболей прыгожы і найлепшы, а пасьля ён стаецца прычынаю гэтых-жа рэчаў сярод іншых. І я не магу паўстрымацца, каб не сказаць нечага пра яго ў форме вершаванай, што

*Шле ён людзям супакой і заціша над морам глыбокім,*
*Віхру суворага моўкнасьць і сон бястурботны у ногы.*

Ён асвабаджае нас ад адчужанасьці і напаўняе нас прыналежнасьцю, ствараючы нагоду да розных суз-грамаджэньняў людзей, падобных да сягоньняшняга, ён становіцца нашым кіраўніком на сьвяткаваньнях, харaводах і пры складаньні ахвяроў. Ён дарує ціхамірнасьць і выганяе грубасьць, ён уводзіць добрую волю і стаецца перашкодаю няпрыхільнасьці; да добрых ласкавы, у пашане сярод мудрацоў, любімы багамі; зайздрасьць няўдалых, скарб удачлівых; бацька раскошы і пяшчоты, радасьці, далікатнасьці, ласкі і жаданьня, апякун добрых і абыякавы да дрэнных; у жахах і тузе, у дамаганьнях і ў зьнямогах ён лепшы вучыцель, памочнік і ратаўнік, упрыгожаньне багоў і людзей, найболей прыгожы і найболей годны правадыр, за каторым павінен сьледаваць кажны, прыгожа выслаўляючы яго сьпевам, пяючы разам зь ім у прыгожай песьні, што чаруе думку багоў і людзей.

Гэткай, Файдрос, ёсьць мая мова, прысьвечаная гэтаму богу, у якой злучыў я, паводля мае здольнасьці, частку жартоўнасьці з часткаю павагі.

[*198*] Калі Аґатон кончыў гаварыць, усе прысутныя, паводля слоў Арыстодэмоса, выбухнулі апляўзам, знаходзячы, што малады чалавек гаварыў з годнасьцю для сябе і для бога. Тады Сакратас зьвярнуўся да Эрыксімахоса і сказаў:

— Цяперака скажы мне, сын Акумэноса, ці-ж ня меў я апраўданьня на свой страх? І ці ня быў я добрым прадказальнікам, калі я казаў, што Аґатон скажа пяршарадную мову, і, што я апынуся ў клопаце?

— Першае тваё прадказаньне, — адказаў Эрыксіма-

хос, — што Аґатон будзе гаварыць першарадна, збылося, а вось, што ты апынішся ў клопаце, дык у гэта я ніяк не магу паверыць.

— І як-жаж ты, добраслаўлены, — адказаў Сакратас, — думаеш, што мне ці каму-небудзь іншаму пасьля гэткае прыгожае і зьмястоўнае прамовы, не апынуцца ў праўдзівым клопаце! І, калі першая частка была даволі прыгожай, дык затое апошняя частка завяршэньня, зь яе вышуканым даборам словаў можа задзівіць кажнага слухача. Фактычна, калі я падумаў, што я ня буду ў стане сказаць нічога гэткага, штó хоць-бы толькі сваею прыгожасьцю магло раўняцца гэткай мове, дык я гатоў уцякаць ад аднаго сораму, калі-б толькі гэта магчымым было. Мова гэтая нагадвала мне Ґорґіяса, і я, паводля таго, штó Гомэр кажа, баяўся, што пад канец свае мовы Аґатон высуне супроць маé мовы галаву Ґорґіяса, гэтага вялікага гаварылы, а мяне самога аберне ў анямелы камень. І я зразумеў, як далёка быў я сьмешным, калі згадзіўся ў чарговасьці з вамі трымаць сваё слова на чэсьць Эроса і сказаў, што ведаю нейкі сэнс у справах любові, хоць, як выяўляецца, паняцьця ня маю аб тым, як мáе быць пабудавана пахвальная мова. Я, паводля свае бясхітрасьці, думаў, што адносна кажнага хвалянага аб'екту трэба гаварыць праўду, і гэтым палажыць аснову, а ўжо пасьля з гэтае праўды выбраць самае найпрыгажэйшае і паўкладваць усё ў найболей неабходным парадку. І на самую думку, як прыгожа я буду гаварыць, я быў гордым, бо я думаў, што я ведаю спосаб аддаваньня хвалы чаму-небудзь. Аданак-жа, як здаецца, здольнасьць адтварэньня прыгожае і поўнае пашаны прамовы зусім ня ў гэтым заключаецца, а якраз у тым, каб аб'екту прыпісаць як найболей прыгожых прыкметаў, зусім ня думаючы пра тое, адказвае гэта праўдзе ці не — гэта стаецца другарадным. Відаць думка была першапачаткавая, што кажны з нас толькі павінен

прыкідвацца, быццам аддае пашану Эросу, а ў запраўднасьці зусім ня чыніць гэтага. З гэтае прычыны вы, мусіць, і прыпісваеце Эросу кажную і ўсякую рэч, прыкметы, якія толькі прыдумаюцца, усякія заслугі, абы адно выставіць яго ў як найболей прыгожым і выгадным сьвятле—перад тымі, натуральна, што ня ведаюць яго, [*199*] але не перад людзьмі, каторыя пазналі яго. І ўсё-ж, атрымліваецца слова і прыгожае і ўрачыстае. Але я ня ведаў гэткага спосабу будаваць пахвальныя прамовы і, ня ведаючы гэтага, згадзіўся гаварыць у чарговасьці з вамі. Значыцца, „язык прырок, але ня розум". Тады бывайце: паводля гэтакага ўзору я ня буду будаваць свае мовы, і гэта з тае простае прычыны, што я не магу. Аднак-жа, калі вы жадаеце пачуць праўду, дык я з прыемнасьцю скажу вам гэтак, як умею, але не на ўзор вашых прамоваў, каб ня выявіцца сьмешным. Дык вось, глядзі, Файдрос, хочыш ты мець гэткую мову ці не. Будзеш ты слухаць выказваную праўду адносна Эроса дый да гэтага першымі як прыходзяць і ўпарадкаванымі як давядзецца словамі?

Тут Файдрос і ўсе іншыя пачалі прасіць яго, каб гаварыў гэтак, як уважае за найлепшае.

— У такім выпадку, Файдрос, — сказаў ён, — дазволь мне паставіць некалькі пытаньняў Аґатону, каб перад тым, як пачну гаварыць, займець ягоную згоду, як уступ да маіх выказваньняў.

— Я выражаю згоду, — сказаў Файдрос, — калі ласка, стаў пытаньні.

І Сакратас, пачаў гаварыць прыблізна гэтак:

— У сваей, запраўды, першараднай прамове, якую ты толькі што выказаў, мой дарагі Аґатон, я думаю ты меў ўсякае абаснаваньне перш пра самога Эроса гаварыць і пра ягоныя свомасьці, а пасьля ўжо пра ягоныя

дзеяньні. Гэтакі пачатак падабаецца мне. Калі ты гэтак вымоўна гаварыў пра свомасьці Эроса, ці магу я запытаць цябе пра вось што: Ці зьяўляецца Эрос абавязкава любоўю некаму ці не? Я ня маю на ўвазе, ці зьяўляецца Эрос любоўю, скажам, да бацькі ці маткі; бо-ж пытаньне гэткае само ў сабе было-б сьмешным, гэта значыць, ці Эрос зьяўляецца любоўю да маткі ці бацькі; не, я маю на ўвазе тое, як запытаў-бы цябе, напрыклад, хто-небудзь адносна самога бацькі — калі ён бацька, дык, ведама, ён абавязкава прыходзіцца некаму бацькам? Калі-б ты захацеў адказаць на гэта трапна, дык ты праўдападобна сказаў-бы, што бацька заўсёды прыходзіцца бацькам дачцы або сыну, ці ня гэтак?

— Напэўна, — адказаў Аґатон.

— Гэтаксама можна гаварыць адносна маткі, ці ня гэтак?

Той і з гэтым згадзіўся.

— Цяперака, — сказаў Сакратас, — дазволь мне паставіць яшчэ адно пытаньне з мэтаю ілюстрацыі таго, што́ я маю на ўвазе: Ці не ўважаецца брат у сваей сутнасьці братам некаму?

— Напэўна, — той адказаў.

— Гэта значыць, для брата або для сястры?

Аґатон і з гэтым згадзіўся.

— Цяперака, — сказаў Сакратас, — я хачу запытаць адносна любові: Ці зьяўляецца Эрос любоўю некаму ці не?

— Так, напэўна.

[*200*] — Дык вось, — сказаў Сакратас, — запамятай сабе гэта як наймацней, а тымчасам адкажы мне: ці праяўляе любоў пажадлівасьць да таго, хто зьяўляецца яе аб'ектам, ці не?

— Напэўна праяўляе, — адказаў Аґатон.

— Ці стаецца гэта тады, калі яна мае тое, што́ яна хоча мець і любіць, ці мо' тады, калі яна ня мае?

— Я думаю, найболей праўдападобна тады, калі ня мае, — адказаў Аґатон.

— Магчыма, — сказаў Сакратас, — гэта ня толькі „праўдападобна“ але проста стаецца неабходнасьцю, што той, хто ма́е жаданьне нечага, знаходзіцца ў жаданьні гэтага, і што той, хто ня мае ніякага жаданьня, астаецца ў нежаданьні нічога. Мне, Аґатон, напрыклад, здаецца, што гэта выяўляецца неабходнасьцю. Што ты думаеш адносна гэтага?

— Мне гэтаксама здаецца, — адказаў Аґатон.

— Вельмі добра. Ці праявіў-бы жаданьне быць высокім той, хто ёсьць высокім, або сільным той, хто зьяўляецца сільным?

— Гэта было-б немагчымым пры наяўнасьці таго, з чым мы толькі што згадзіліся.

— Зусім трапна. Бо-ж той, хто мае гэтыя прыкметы, ня мае патрэбы ў іх.

— Правільна.

— Ну, а калі сільны, — снуў далей думку Сакратас, — жадае быць сільным, а спрытны спрытным, здаровы здаровым і гэтак далей? У падобным выпадку можна падумаць, што людзі, якія маюць ужо пэўныя свомасьці, жадаюць сабе займець тое, чым яны валодуюць. Я прывёў гэты прыклад, каб ухіліцца ад усякіх непаразумленьняў. Бо-ж гэтыя людзі, Аґатон, мусяць ужо цяперака, хочуць ці ня хочуць, валодаць успомнутымі прыкметамі; дык ім няма патрэбы жадаць іх? Затым, калі хто-небудзь кажа: „Я здаровы і хачу быць здаровым“, або: „Я багаты і жадаю быць багатым“, „Я жадаю тое, што́ я маю“ — дык гэткаму мы можам сказаць: „Дарагі дружа, карыстаючыся багацьцем, здароўем і сілаю, ты хочаш карыстацца імі і на прышласьць; бо ў дадзеную хвіліну, хочучы ці ня хочучы, ты маеш усё гэта. Затым, калі ты кажаш, „я жадаю тое, што́ я ма́ю“, ты фактычна кажаш: „Я хачу, каб тое, што́ я ма́ю цяперака, было ў мяне і ў

прышласьці“. Ці згадзіўся-б ён з намі?

— Згадзіўся-б, — адказаў Аґатон.

— Тады, — сказаў Сакратас, — ці-ж ня значыць гэта любіць тое, чаго яшчэ няма і чаго чалавек ня мае, калі ён жадае ўтрымаць на прышласьць тое, што́ ма́е ўжо цяперака?

— Ведама, значыць, — адказаў Аґатон.

— Тады, гэты чалавек, як і кажны іншы, жадае таго, чаго ён ня мае яшчэ, чым сам не зьяўляецца і ў чым адчувае патрэбу — вось гэта і ёсьць тыя рэчы, якія выклікваюць любоў і жаданьне?

— Пэўна, — адказаў той.

— А цяперака, — казаў далей Сакратас, — давай падсумуем тое, што́ ўжо было сказана. Дык вос, перадусім, любоў зьяўляецца любоўю да нечага ці некага, а пасьля да нечага, адносна чаго чалавек мае жаданьне?

[*201*] — Так, — адказаў ён.

— Прыпомні зноў-жа, што́ ты казаў у сваей прамове, або, калі ты забыў, дазволь мне, і я прыпомню табе. Мне здаецца, што ты сказаў нешта падобнае да гэтага, што любоў да прыгожасьці прывяла ў стан уладжаньня валадарства багоў, бо да рэчаў брыдкіх любоў ня існуе. Ці ня гэткую думку ты выразіў?

— Так, гэтакую, — адказаў Аґатон.

— І выражана гэта было зусім трапна, дружа мой, снуў далей Сакратас. — І, калі гэта ёсьць праўдаю, тады Эрос — гэта любоў да прыгожасьці, а не да брыдкасьці?

Аґатон і з гэтым згадзіўся.

— А ці не згадзіліся мы, што любоў ёсьць любоў да нечага, што хацелася-б мець, а чаго няма?

— Згадзіліся, — сказаў ён.

— Дык што-ж, Эрос ня мае прыгожасьці і затым мае патрэбу ў ей?

— Але́, з гэтага выходзіць так.

— Ці хочаш ты назваць прыгожым тое, што́ прыгожасьці ня мае і патрабуе яе?

— Ведама, што не.

— Калі рэч маецца гэтак, дык што, утрымліваеш ты і далей, што Эрос прыгожы?

На гэта Аґатон адказаў:

— Баюся, што я сам не разумеў таго, што́ я казаў.

— Не, ты, Аґатон, гаварыў вельмі прыгожа, — адказаў Сакратас! А цяпер яшчэ адна малая рэч: ці ня думаеш ты, што добрае зьяўляецца прыгожым?

— Я думаю гэтак.

— Затым, калі Эрос мае патрэбу ў прыгожым, а прыгожае зьяўляецца добрым, дык з гэтага робіцца выснаў, што ён мае патрэбу і ў добрым?

— Сакратас, — сказаў Аґатон, — запраўды я не магу спрачацца з табою. Няхай будзе гэтак, як ты кажаш.

— Не, мой паважаны Аґатон, ты ня можаш спрачацца з праўдаю, бо з Сакратасам спрачацца ня ёсьць рэчаю труднаю.

А цяперака, пакідаючы цябе ў супакоі, я спробую пераказаць вам мову пра Эроса, якую я чуў аднойчы ад Дзіяцімы з Манцінэі, якая была мудрай у гэтай справе, як і ў многіх іншых рэчах: аднойчы ў часе ахвяраваньняў перад заразай яна ўхіліла для атэнцаў гэтую пошасьць на дзесяць гадоў. Гэта яна была, каторая асьвяціла мяне адносна спраў любові, дык вось, мову яе я папробую цяпер пераказаць вам, пачынаючы з таго, у чым мы з Аґатонам толькі што згадзіліся, ведама, маімі ўласнымі словамі і гэтак, як я змагу. Бяручы, Аґатон, зь цябе прыклад, трэба перш адказаць на пытаньне, кім зьяўляецца Эрос, і якія ён мае свомасьці, а пасьля ўжо, якія ягоныя дзеяньні. Я думаю, што найлягчэй учыніць гэта, паступаючы так, як зрабіла ка-

лісьці гэтая чужынка, а яна ставіла мне пытаньні. Тады я адказваў ёй прыблізна тое самае, што́ казаў мне цяперака Аґатон, пайменна, што Эрос — гэта магутны бог, і прыгожы. І яна выкажыла мне тымі самымі довадамі, якімі я цяперака Аґатону, што Эрос, наўсуперак маім цьверджаньням, зьяўляецца ані прыгожым, ані добрым.

— Што ты, Дзіяціма, кажаш? — запытаў я. — Значыць гэта, што Эрос зьяўляецца брыдкім і дрэнным?

І яна адказала:

— Супыні сваю гутарку! Ці думаеш ты, што ўсё, што не зьяўляецца прыгожым, абавязкава ма́е быць брыдкім?

[202] — Я думаю гэтак.

— І ўсё тое, што́ не зьяўляецца мудрым, абавязкава мае быць беспрасьветным? Ці не спасьцярог ты, што паміж мудрасьцю і цемраю існуе нешта пасярэдняе?

— І што гэтым ёсьць?

— Правільнае ўяўленьне чаго-небудзь, — сказала яна, — але не падмацаванае доказам, ня можа быць веданьнем — бо як можа неабаснаваная рэч быць веданьнем? — Гэтаксама ня можа быць беспрасьветнасьцю — бо як можа беспрасьветнасьць агарнуць праўду? — Правільнае ўяўленьне, але недаведзенае, бяссумліву, зьяўляцца нечым пасярэднім паміж ведаю і цемраю.

— Ты праўду кажаш, — сказаў я.

— Тады перастань думаць, быццам усё, што не зьяўляецца прыгожым ёсьць брыдкім, або тое, што́ ня ёсьць добрым, ма́е быць дрэнным. Гэтаксама рэч маецца з Эросам. Ён зьяўляецца ані прыгожым, ані добрым, як вы і згадзіліся між сабою, але не ўяўляй сабе, быццам ён павінен быць брыдкім і дрэнным, а ўважай, што ён знаходзіцца недзе ў сярэдзіне паміж гэтымі скрайнасьцямі.

— Але́, — адказаў я, — ня гледзячы на гэта, усе бачаць у ім вялікага бога.

— Усе, каторыя ня ведаюць, — сказала яна, — ці гэ-

таксама і тыя, што ведаюць?

— Наагул усе.

Тут яна засьмяялася і сказала:

— Як-жаж могуць, Сакратас, прызнаваць яго за вялікага бога тыя зь людзей, якія не ўважаюць яго за бога?

— І хто-ж яны? — запытаў я.

— Адзін зь іх і ты зьяўляешся, — адказала яна, — я — другая.

— Як гэта? — запытаў я.

— Вельмі проста, — адказала яна. — І скажы мне, ці-ж ня ўтрымліваеш ты, што ўсе багі зьяўляюцца шчасьлівымі і прыгожымі? А мо' адважышся ты сказаць пра каго-небудзь з багоў, што ён не шчасьлівы і ня прыгожы?

— Дый што ты, на Зэуса, ані крышку не адважуся, — адказаў я.

— А ўсё-ж, шчасьлівымі ты называеш тых, мусіць, каторыя прыгожымі зьяўляюцца і добрымі?

— Напэўна.

— І ня гледзячы на гэта, ты прызнаў, што Эрос, ня вырозьніваючыся ані дабрынёю, ані прыгожасьцю, праяўляе жаданьне адносна таго, чаго ён ня мае.

— Але́, гэта я прызнаў.

— Дык як-жаж можа быць ён богам, калі ён ня мае ўдзелу ў дабрыні і прыгожасьці?

— Як выглядае, запраўды, ён ня можа ім быць.

— Дык бачыш, — сказала яна, — ты сам уважаеш, што Эрос не зьяўляецца богам.

— Дык што-ж гэта такое Эрос? — запытаў я. — Сьмяротны?

— Зусім не.

— Дык што?

— Як раней мы сказалі, нешта пасярэдняе паміж несьмяротным і сьмяротным.

— Дык што́-ж, Дзіяціма?

— Ён зьяўляецца вялікім духам (δαίμων), Сакратас. Бо ўсё духовае знаходзіцца паміж Богам і сьмяротным.

— У чым заключаецца ягоная сіла і дзейнасьць?

— Ператлумачваць і перdesigned багам тое, што ад людзей выходзіць, і людзям тое, што зыходзіць ад багоў — ад людзей просьбы і ахвяры, ад багоў — наказы і ўзнагароды за ахвяры. Астаючыся ў сярэдзіне, ён выпаўняе прамежжа паміж аднымі і другімі. Затым, у ім даконваецца супольнае ўзьяднаньне, і праз яго стаюцца магчымымі мастацтвы прадказваньня і сьвятарства, і ўсё тое, што адносіцца да ахвяраваньня і містэрыі, заклінаньня, прароцтва і чараваньня. [*203*] Бог ня мае зносінаў з чалавекам, але гэтаю дарогаю зыходзіць супольнасьць і гутарка Бога з чалавекам — гэтаксама ў стане чуваньня, як і ў сьне. Той, хто агортвае гэта, зьяўляецца адухоўленым чалавекам; той, аднак, хто разумее іншыя рэчы або якое-небудзь мастацтва ці ручны выраб, — гэта проста рамесьніцтва. Цяперака, усе гэтыя духі зьяўляюцца празнымі і шматлікімі, і Эрос зьяўляецца адным ізь іх.

— Хто-ж зьяўляецца ягоным бацькам? — спытаў я, — і ягонаю маткаю?

— Гэта быў-бы доўгі пераказ, — адказала яна, — але я ўсё-ж раскажу табе.

Калі радзілася Афродыта, багі зышліся на банкет, сярод якіх быў прысутны гэтаксама і Порос, або Дастатак, сын Мэціды. Хутка пасьля таго, як яны сыта папалуднавалі, прыйшла пад дзьверы жабраваць Пенія, або Беднасьць. Порос, п'яны пад уплывам нэктару — віна тады яшчэ ня было — выйшаў у сад Зэуса і, ацяжэўшы, хутка заснуў. І вось, Пенія, жадаючы ў сваей беднасьці займець дзіця ад Пороса, прылегла да яго і зачала Эроса. Гэтым паясьняецца, чаму Эрос уважаецца за спадарожніка і слугу Афродыты, бо ён быў зачаты ў часе ўрачыстага абыходу дня нараджэньня яе, і адначасна, паводля

сваe натуры любіць прыгожасьць, бо Афродыта зьяўляецца прыгожай. Дзелятаго, што ён зьяўляецца сынам Дастатку і Беднасьці, ён знаходзіцца ў гэтакіх абставінах: Па-першае, ён заўсёды астаецца бедным і зусім не зьяўляецца далікатным і прыгожым, як гэта звычайна ўтрымліваецца думка адносна яго, ён грубы і неахайны, неабуты і бяздомны; ён валяецца на голай зямлі, пад адкрытым небам, пад дзьвярыма, на вуліцах і, паподля свомасьцяў свае маткі, ніколі ня выходзіць з патрэбы. З другой стараны, паводля прыкметаў свайго бацькі, мае ён нахіл да прыгожага і добрага, будучы адважным і імклівым, харобрым і сільным, ён зьяўляецца грозным паляўнічым, заўсёды поўным тайных інтрыгаў, ён імкнецца да кемнасьці і заўсёды асягвае яе; усё сваё жыцьцё праводзіць ён у філязофіі, ён спрытны чараўнік, знахар і сафісты. Паводля свае натуры ён зьяўляецца ані сьмяротным, ані несьмяротным, у дадзеным і тым самым дню раз ён жыве і цьвіце, калі ўсё ўкладваецца памысна, а іншы раз паміраe, але, займеўшы ў спадчыне па бацьку свомую яму натуру, зноў аджывае. Усё, што ён прыдбае, марнуецца заніпто, з гэтае прычыны Эрос ніколі ня бывае ані бедны, ані багаты, і зноў-жа, ён знаходзіцца ў прамежжы паміж мудрасьцю і нясьведамасьцю. [*204*] І гэта дзеіцца вось зь якое прычыны: З пасярод багоў ніхто не займаецца філязофіяю і не праяўляе жаданьня стацца мудрым, бо-ж багі і так ужо мудрыя. Дый наагул, той, хто зьяўляецца мудрым, да мудрасьці ня імкнецца. З другой стараны, філязофіяю не займаюцца і не праяўляюць жаданьня стацца мудрымі гэтаксама і цёмныя людзі. У гэтым і сутнасьць усяго дрэннага ў цемры, што чалавек, будучы ані прыгожым, ані дасканалым, ані разумным, астаецца зусім здаволены з самога сябе. А той, хто ня бачыць, што ён мае ў чым-небудзь патрэбу, ня мае імкненьня да таго, у чым, паводля ягонае думкі, не адчувае патрэбы.

— Дык хто-ж, Дзіяціма, — сказаў я, — цікавіцца мудрасьцю, калі ўжо ані мудрацы, ані нясьведамыя не займаюцца філязофіяю?

— Зразумелым і дзіцяці, — адказала яна, — што займаюцца ёю тыя, што знаходзяцца ў прамежжы паміж мудрацамі і нясьведамымі, і Эрос належыць да іх. Бо-ж мудрасьць зьяўляецца адною з найболей прыгожых рэчаў на сьвеце, а Эрос — гэта любоў да прыгожага, дзелягэтага Эрос мусіць быць прыхільнікам мудрасьці, гэта значыць — філёзафам і, будучы філёзафам, ён мусіць знаходзіцца паміж мудрасьцю і нясьведамасьцю. І прычынаю гэтага зьяўляецца ягонае паходжаньне, бо-ж род свой бярэ ён ад мудрага і багатага бацькі, а маці ягоная ня мае ані мудрасьці, ані багацьця. Гэтакай, мой дарагі Сакратас, зьяўляецца натура гэтага духа. Што да твайго пагляду адносна Эроса, дык у гэтым нічога няма дзіўнага. Паводля тваіх уласных словаў, ты думаеш, што Эрос зьяўляецца аб'ектам любові, а ня вытокам любові. Дзелягэтага, як мне здаецца, Эрос і выдаўся табе гэтакім прыгожым. Бо-ж, і запраўды, аб'ект любові зьяўляецца і прыгожы, і далікатны, і добра слаўлены; але ў сваей аснове любоў праяўляецца ў іншай натуры, і ў гэткай, як я толькі што апісала.

Тады я сказаў:

— Вельмі добра, чужынка, ты гаварыла да рэчы; але, калі Эрос зьяўляецца гэтакім, як ты апісала яго, якая-ж тады карысьць зь яго для людзей?

— Я папробую цяперака, Сакратас, — сказала яна, — гэта растлумачыць табе. Пра ягоную свомасьць і пра ягонае паходжаньне я ўжо гаварыла; і ты пацьвярджаеш, што ён — гэта любоў да прыгожага. Але ўявем сабе, што нехта кажа: „Сакратас і Дзіяціма, што-ж гэта такое, любоў да прыгожага?“ — або, выражаючыся яшчэ бо-

лей дакладна: „Той, што любіць прыгожае, любіць што?“

— Каб прыгожае сталася ягоным удзелам, — адказаў я.

— Твой адказ выклікáе наступнае пытаньне, — сказала яна, — пайменна: „І што-ж атрымае той, чыім удзелам станецца прыгожае?“

— Я не магу даць адказу цяпер на гэтае пытаньне, — сказаў я.

— Добра, — сказала яна, — прымем, што слова „прыгожае“ заменім словам „добрае“, і запытаем: „І што-ж атрымае той, чыім удзелам станецца добрае?“

— На гэта ўжо лягчэй адказаць, — сказаў я, — ён будзе шчасьлівым.

[205] — Так, — сказала яна, — шчасьлівы стаецца шчасьлівым праз займеньне добрага. Няма зусім патрэбы пытацца, чаму хоча быць шчасьлівым той, хто хоча ім стацца, і гэтым, здаецца, пытаньне вычарпалася.

— Ты правільна кажаш, — сказаў я.

— Ну, а гэтае жаданьне і гэтая любоў, як табе здаецца, свомыя для ўсіх людзей, і заўсёды яны жадаюць сабе дабра? Што ты думаеш аб гэтым?

— Але́, — адказаў я, — гэта свомым зьяўляецца для ўсіх людзей.

— Калі ўсе і заўсёды любяць тое самае, Сакратас, — сказала яна, — дык чаму-ж ня кажам пра ўсіх, што яны любяць, а вось пра адных кажам, што любяць, а пра іншых, што не?

— Гэта і мне выдаецца дзіўным, — сказаў я.

— Ня дзівіся, — сказала яна. — Мы бярэм проста нейкую адну адменнасьць любові і тады, абагульняючы яе, надаем ёй назоў агульнага паняцьця; існуюць іншыя выпадкі, калі мы тарнуем іншыя назовы.

— Напрыклад? — запытаў я.

— Вось, — сказала яна. — Ты ведаеш, што паэзыя гэта шырокая і разнавідная галіна творчасьці. Бо каж-

ная рэч, якая пераходзіць з нябыцьця ў быцьцё, творыць сабою выпадак творчасьці, а згэтуль, пакліканьне да быцьця якіх-небудзь твораў мастацтва і рамяства, можна назваць творчасьцю, а ўсіх тых, што твораць — стваральнікамі гэтых твораў.

— Зусім трапна, — сказаў я.

— Аднак-жа, — сказала яна, — ты ведаеш, што яны не называюцца паэтамі, але інакш называюцца, бо з агульнае паэтычнае творчасьці, вылучана толькі адна галіна, і ёю ёсьць галіна музыкі і мастацтва памераў верша, і да гэтае галіны адносіцца назоў агульнага паняцьця. Паэзыяю называецца толькі яна, а тых, што праяўляюць у ёй дзейнасьць — паэтамі.

— Зусім трапна, — сказаў я.

— Гэтаксама рэч маецца і з любоўю. У сваей сутнасьці кажнае жаданьне шчасьця і дабра — гэта Любоў, якая зьяўляецца магутнай і прынаднай. Аднак-жа, пра тых, што зьвяртаюцца да яе іншым шляхам, ці гэта шляхам асабістых выгадаў, або, дарогаю фізычных практыкаваньняў, або, шляхам замілаваньня да філязофіі, мы кажам, што яны закаханыя, або, што яны любяць; і толькі да тых, што аддаюцца аднаму нейкаму праяву любові, адносяцца назовы агульных выражэньняў, як: *любоў, любіць* і *закаханыя.*

— Я думаю, што ты трапна ўняла гэта, — сказаў я.

— Існуе гутарка пра тое, — сказала яна, — што любоў — гэта шукаць сваю палавіну.[1] Маё слова заключаецца ў тым, што ані палавіна, ані цэласьць ня выклікае любові, калі яна ня мае на ўвазе нейкага дабра, мой дружа. Людзі згодзяцца адсекчы сабе рукі і ногі, калі гэтыя канчыны іхнага ўласнага цела выдадуцца ім няпрыдатнымі. Бо ў грунце рэчы, як мне здаецца, ніхто зь людзей не зьяўляецца здаволеным з прычыны свае ўласнае

[1] Гл. Арыстофанэсавую мову, бач. 43.

рэчы, за выняткам таго некага, хто называе ўсё добрае сваім і сваею ўласнасьцю, а ўсё дрэннае — чужым; бо, фактычна, людзі ня любяць нічога іншага, як толькі добрае. [206] Ці ня думаеш ты гэтак?

— На Зэуса, і я гэтак думаю, — адказаў я.

— Тады, — сказала яна, — мы можам проста сказаць, што людзі любяць дабро?

— Так, мы можам гэта сказаць, — адказаў я.

— Ці не дабавіць тутака, — сказала яна, — што людзі любяць мець дабро?

— Можна дабавіць.

— І ня толькі мець яго, але мець заўсёды?

— І гэта скажам.

— Тады, — сказала яна, — ці ня можам мы коратка агарнуць, што любоў зьяўляецца ні чым іншым, як любоўю мець дабро на ўсенькія часы?

— Ты праўду кажаш, — сказаў я.

— Цяпер, калі любоў заўсёды гэткай зьяўляецца, — сказала яна, — тады скажы мне, якою дарогаю людзі павінны імкнуцца да яе, каб іхнае праяўленьне чыну і натугі можна было назваць любоўю? Ці можаш ты сказаць, штó яны павінны рабіць?

— Калі-б я мог, — адказаў я, — не захопліваўся-б я тваею мудрасьцю, Дзіяціма, і ня прыходзіў-бы да цябе, каб пра ўсё гэта даведацца.

— Тады я адкажу табе, — сказала яна. — Яны павінны радзіцца ў прыгожасьці, — і гэта ў сэнсе цела, як і душы.

— Трэба ведаць варажбу, — сказаў я, — каб сьцяміць, штó ты маеш на ўвазе, і затым я гэтага не разумею.

— Добра, — снула яна далей, — я скажу табе болей дакладна. Усе людзі, Сакратас, зьяўляюцца цяжарнымі, гэтак целам, як і душою, і, калі яны даходзяць да пэў-

нага веку, натура нашая вымагае нашчаднасьці. Нашчаднасьці займець яна ня можа ў брыдкім, а толькі ў прыгожым. Нашчаднасьць гэтая — гэта зьліцьцё мужчыны і жанчыны. І рэч гэтая боскаю ёсьць, бо зачацьце і нараджэньне зьяўляюцца праявамі нейкага несьмяротнага пачатку ў сьмяротным існаваньні. І гэта ня можа займець месца ў атмасфэры нясузгоднай. Брыдкае якраз і зьяўляецца тою нясузгоднаю атмасфэраю для ўсяго боскага, тады, як прыгожае — атмасфэра сузгоднасьці. Затым, прыгожасьць зьяўляецца Удзельніцаю і Валадаркаю і Дапамогаю ўсякага нараджэньня. Дык вось, калі цяжарнае набліжаецца да прыгожага, яно стаецца ласкавым і пераймаецца радасьцю, выліваецца навонкі і родзіць; калі, аднак, набліжаецца да брыдкага, стаецца сумным, панурым і курчыцца і замыкаецца ў сабе і ня родзіць, але валочыцца зь цяжарам затрыманага ў чэраве плоду. Дзелягэтага цяжарныя і тыя, што з зародкамі і з гатоўнасьцю радзіць праяўляюць несупакойнае імкненьне да прыгожасьці, каторая толькі і можа вызваліць іх ад празьмернага цярпеньня. Затым, Сакратас, — дапоўніла яна, — любоў не зьяўляецца, як ты думаеш, толькі любоўю да прыгожага.

— Дык чым-жа яна зьяўляецца?

— Яна зьяўляецца радзіць і прыводзіць на сьвет у прыгожым.

— Магчыма, — сказаў я.

— Напэўна, — сказала яна. — І чаму якраз радзіць? А гэта затым, што для сьмяротных раджэньне зьяўляецца нечым вечна існуючым і несьмяротным. Але, калі любоў, як згадзіліся мы ўжо, зьяўляецца імкненьнем да апанаваньня дабром, дык адначасна з [*207*] дабром ня можна не жадаць і несьмяротнасьці. А згэтуль, у сілу неабходнасьці выяўляецца, што любоў гэтаксама імкнецца і да несьмяротнасьці.

Усё гэта яна вучыла мяне, калі гутарыла са мною

адносна любові. Аднойчы яна запытала мяне:

— Што ты думаеш, Сакратас, дзе знаходзіцца прычына любові і жаданьня? Ці не заўважыў ты, што ўсе зьверы, гэтаксама і тыя, што поўзаюць і лётаюць, упадаюць у своеасаблівы стан гвалтоўнасьці, калі агортвае імі цяга да раджэньня; як яны выдаюцца быць хворымі і закаханымі, спачатку тады, калі яны спа́рваюцца, а пасьля, калі яны ўзгадоўваюць народжаных, як найслабейшыя зь іх зьяўляюцца гатовымі змагацца ў вабароне з самымі сільнымі, а калі трэба, і памерці; і як яны самыя галадаюць, каб толькі накарміць іх, і, наагул, цярпець кажны недастатак і ўсякую нявыгаду? Адносна людзей, — снула яна думку далей, — можна меркаваць, што яны кіруюцца розумам, але дзе-ж ляжыць прычына гэткае праявы любові сярод зьвераў — ці можаш ты мне сказаць?

І зноў я сказаў, што ня ведаю.

— Дык як-жаж ты думаеш стацца рэчазнаўцам у справах любові, — сказала яна, — калі ты не разумееш гэтага?

— Дык вось-жа, з гэтае прычыны, — сказаў я, — я і прыходжу да цябе, Дзіяціма, як гэта я і сказаў ужо, што я ведаю, што патрабую вучыцеля. Затым скажы мне, што за прычына ўсяго гэтага, ды іншых незразумелых праяваў любові?

— Калі ты верыш, — сказала яна, — што любоў зьяўляецца любоўю з прычыны свае натуры, адносна чаго мы ўжо згадзіліся, дык ты ня маеш чаго дзівіцца. Бо зусім гэтаксама, як там, імкнецца сьмяротная натура і тутака стацца заўсёды несьмяротнаю і вечнаю. І асягну́ць гэта яна можа толькі шляхам раджэньня, кажны раз, пакідаючы маладое на месцы старога. Нават у часе жыцьця дадзенага жывога аб'екту стала дакончаецца зьмена і ніколі ён не захоўвае свае суцэльнасьці: чалавек, напрыклад, уважаецца тым самым, аднак

у тым кароткім часе, які знаходзіцца паміж маладым векам і старасьцю, у якім кажны зьвер, як гэта кажацца, мае жыцьцё і сваю апрычонасьць, усё-ж, ён паддадзены сталаму працэсу страты і замены: — поўсьць, мяса, косьці, кроў, ды наагул усё цела паддадзена сталай зьмене. І гэта ня толькі астаецца праўдаю адносна цела, але гэтаксама і адносна душы, якое звычаі і тэмпэрамэнты, перакананьні і жаданьні, радасьці, цярпеньні і жахі ніколі і ні ў кім із нас не астаюцца тымі самымі — яны знаходзяцца ў сталай зьменнасьці: адно зьяўляецца, а іншае зьнікае. І яшчэ болей чымся гэта, дзіўным выдаецца, калі возьмем пад увагу нашую веду; [208] ня толькі пэўная веда праяўляецца ў нас, а іншая шчазае, і мы ніколі ў адносінах веды не зьяўляемся тымі самымі, але гэты самы праяў назіраем нават у кажнай паасобнай галіне веды. Бо тое, што́ мы называем студыяваньнем і практыкаваньнем — значыць, што веда мінаючай зьяўляецца. Забыцьцё — гэта страта нейкае веды, а вывучаньне дадзенага прадмету і практыкаваньне вяртаюць нам зноў веду на месца забытае, і абесьпячаюць нам веданьне да гэтакае ступені, што яно выдаецца нам гэткім, як папярэдняе. Гэтакім самым спосабам утрымліваецца ўсё сьмяротнае — у адрозьненьні ад боскага, яно не застаецца адным і тым самым, але старэючыся і адыходзячы, яно пакідае па сабе сваю новую постаць.

Падобным упарадкаваньнем, Сакратас, — сказала яна, — сьмяротнасьць бярэ ўдзел у несьмяротнасьці, гэтаксама ў целе, як і ўва ўсім іншым. Затым ня дзівуйся, што кажнае жывое існаваньне, з натуры рэчы, распасьцірае ўсякую рупнасьць і пашану адносна сваіх нашчадкаў. Бо дзеля несьмяротнасьці праяўляецца на сьвеце стараньне і гэтая любоў.

Слухаючы гэтую мову, я не мог надзівіцца, і я сказаў:

— О, ты, наймудрэйшая, Дзіяціма! Ці, запраўды, рэч маецца гэтак?

І яна, як дасьведчаны майстра ў мудрасьці, адказала:
— Адносна гэтага ты можаш быць пэўным, Сакратас. Паглядзі толькі на людзкую любоў да славы. Ты будзеш зьдзіўленым з прычыны бязглузьдзіцы гэтага зьявішча, калі ня ўспомніш тое, што́ я казала табе, і не спасьцяражэш зьявішча, наколькі людзі апанаваныя прагнасьцю ўчыніць ведамым сваё імя і *на вечныя часы займець несьмяротную славу,* дзеля якой яны гатовы выстаўляць сябе на яшчэ большую небясьпеку, чымся іхныя дзеці могуць знаходзіцца, затрачваць грошы, зносіць кажнае гора, і нарэшце, памерці за іх. Думаеш ты, — казала яна далей, — што Алькесьціс захацела-б паміраць за Адмэтоса або Ахільлес, памстуючы, — за Патроклёса, а вашы Кодрос — дзеля прышлага панаваньня сваіх дзяцей, калі-б яны не спадзяваліся, што пакінуць па сабе тую несьмяротную памяць свае мужнасьці, якую мы і да гэтае пары перасьцерагаем? Далёка ад гэтага, — сказала яна. — Я думаю, што ўсе людзі праяўляюць сваю мужнасьць дзеля гэтае несьмяротнае славы, і чым лепшымі яны зьяўляюцца, тым болей праяўляюць сябе ў мужнасьці. Несьмяротнасьць — вось тое, што яны любяць.

Тыя, — казала яна далей, — каторыя цяжарнымі зьяўляюцца толькі ў целе, зьвяртаюцца барждзэй да жанчын з выражэньнем любові гэтак, што прыводзяць на сьвет дзяцей. Гэтым яны думаюць займець несьмяротнасьць і шчасьце, і пакінуць па сабе памятку на прышлыя часы. Тыя, зноў-жа, каторыя [*209*] зьяўляюцца цяжарнымі ў душы — бо-ж і гэткія ёсьць, — казала яна, — каторыя агортваюць у душы і пры тым нават болей, чымся ў целе тое, што́ зьяўляецца свомым для душы агортваць і выношваць. І што-ж зьяўляецца свомым для яе? Мужнасьць і іншыя цноты, родзічамі каторых зьяўляюцца ўсе творачыя паэты і ўсе мастакі і рамесьнікі, каторым прыпісваецца вынаходства. Аднак,

найбольшай і найважнейшай, — сказала яна, — зьяўляецца тая мудрасьць, якая адносіцца да кіраваньня гаспадарствам і гаспадаркаю і гэта завецца разважнасьць і справядлівасьць. Зноў-жа, чалавек з найлепшымі пачаткамі ў сабе, душа каторага з маладосьці ўжо сталася цяжарнаю гэтымі рэчамі, узмужнеўшы, адчувае неабходнасьць зачаць і радзіць. Пасьля гэтага, як я думаю, гэтакі ідзе і разглядаецца, каб знайсьці прыгожае, у якім ён мог-бы радзіць, бо ў брыдкім ён ня можа радзіць. Будучы цяжарным, ён цешыцца з прычыны прыгожага цела барждзжэй чымся з брыдкага, і калі ён знаходзіць пры гэтым душу прыгожую і шляхэтную, яшчэ болей цешыцца. І для падобнага людзкага існаваньня ён ма́е многа сказаць адносна мужнасьці, пра тое, як добрым чалавек мае быць і пра ягоныя імкненьні і чыніць спробу узгадаваць яго. У дотыку самога сябе да чалавека прыгожасьці, я думаю, у супольнасьці зь ім, ён родзіць на сьвет тое, чым быў даўно ўжо цяжарны: у прысутнасьці, гэтаксама як і не ў прысутнасьці, ён заўсёды носіць у памяці яго і зь ім супольна ўзгадоўвае народжанае, і, як пасьлядоўнасьць гэтага, яны твораць шмат большую супольнасьць між сабою як праўдзівыя сужэнцы і высокага духа сяброўства, гэтаксама як і супольна маюць яны ў валоданьні прыгожых і несьмяротных дзяцей. І кажны барждзжэй хацеў-бы мець гэткіх дзяцей, чымся звычайных, калі ён падумае пра асаблівых людзей, як Гомэр, Гэзіёдос і іншыя прыгожыя паэты, і зайздросьціць тым, што пакінулі нашчадкаў, якія запэўнілі ім славу і памятку гэтаксама як і самыя яны сталіся несьмяротнымі. Або паглядзем, калі ласка, — казала яна далей, — што за дзяцей пакінуў па сабе Лікурґос у Лякедаймоніі, збаўцаў Лякедаймоніі, і можна сказаць, усенькае Гэльляды. У пашане ў вас гэтаксама і Солён, бо ён радзіў права, і шмат іншых на розных мясцох, гэтаксама сярод гэльленаў, як і паміж барбараў, якія да-

каналі шмат розных і прыгожых чынаў і праявілі разнастойную мужнасьць. І з прычыны гэтакіх дзяцей многія сьвятыні былі ўзьнесены, але дзеля звычайных дзяцей нікому не аказвалася гэтакіх гонараў.

Гэткімі зьяўляюцца некаторыя тайніцы любові, Сакратас, у якія нават і ты можаш быць уведзеным. [*210*] Але што да тых большых і глыбей сукрытых, якія зьяўляюцца завяршэньнем іх і да якіх, калі зглыбіць адпаведна, яны павядуць, я ня ведаю, ці будзеш ты здольным агарнуць іх. Але я сама са свае стараны ўчыню ўсё магчымае, — сказала яна, — каб выявіць табе іх, а ты сьледуй за мною ў думцы, як можаш.

Той, хто хоча ісьці правільным шляхам да гэтых тайніцаў, мусіць пачаць з маладых гадоў з набліжэньнем да прыгожых постацьцяў. Калі ягоная ўвага будзе зьвернута на праўдзівы шлях, любіць толькі адну гэтакую — тады ён зродзіць у ёй прыгожыя думкі, і спасьцеражэ, што прыгожасьць аднаго цела цесна вяжацца з прыгожасьцю іншага, і, калі імкненьне да прыгожасьці ў ейнай сутнасьці зьяўляецца ягонаю мэтаю, дык ён мыліўся-б, не распазнаючы, што прыгожасьць у кажнай постаці зьяўляецца адною і той самаю! Стаўшыся сьведамым гэтага, ён пачне любіць усе прыгожыя целы, а да таго аднаго астудзіцца ў сваей гвалтоўнай любові і будзе думаць пра яе, як пра рэч дробную і без значэньня. Пасьля гэтага ён мусіць уважаць, што прыгожасьць душы зьяўляецца вышэйшаю, чымся прыгожасьць вонкавае хвормы, і, калі яму прытрапіцца чалавек прыгожае душы, хоць-бы нават і з ня гэтакім цьветам, ён астанецца зусім здаволены, пачне любіць яго і праяўляць усякае стараньне адносна яго, імкнучыся зрадзіць і выклікаць гэтакія гутаркі, якія могуць учыніць юнакоў лешымі, дзякуючы чаму, ён сам агорне прыгожасьць у нашых

стараньнях і звычаях, каб, дзякуючы гэтаму, спасьцерагчы, што прыгожасьць зьяўляецца ўсюды адной і той самай, і, што гэтым самым пачне ўважаць прыгожасьць цела за рэч малазначную. Ад стараньняў, аднак, ён мусіць ісьці да веды, каб мог ён пабачыць прыгожасьць веды і, маючы цяперака ў сузіраньні разнавіднасьць прыгожасьці ў навуцы, ня быць мізэрным і годным літасьці нявольнікам, здавальняючыся прыгожасьцю аднаго юнака, чалавека або чыну, але мусіць павярнуцца да разьлеглага акіяну прыгожасьці, і агортваючы яго, даць пачатак многім прыгожым і высокім думкам і мовам у неабмежаванай любові мудрасьці, а тады пачарпнуўшы тут сілы і ўзбагаціўшыся дасьведчаньнем, ён спасьцеражэ тую адзіную веду, якая зьяўляецца ведаю прыгожасьці на кажным месцы. Тут, аднак, — сказала яна, — пастарайся быць гэтак уважным, як толькі ты можаш.

Хто, адпаведна кіраваны, як дагэтуль у напрамку пазнаньня любові, дарогаю развежаньня над рэчамі прыгожымі правільна ў адпаведным парадку і наступстве, калі ён наблізіцца да апошняе ступені, раптам спасьцеражэ сваеасаблівую прыгожасьць у яе натуры, тую самую прыгожасьць, Сакратас, дзеля якое былі прадпрынятыя ўсе папярэднія натугі: па-першае, вечнатрываючую якая ня ведае ані нараджэньня, ані зьнішчэньня, ані росту, ані спарахненьня; [*211*] па-другое, ня прыгожую з аднаго пункту гледжаньня, і брыдкую зь іншага пункту, ня прыгожую цяперака, і брыдкую іншым разам, ня прыгожую на адным месцы і брыдкую на іншым або прыгожую для адных і брыдкую для іншых. Прыгожасьць гэтая выступіць перад ім не ў відзе нейкага твару, рук або іншае якое-небудзь часткі цела, не ў відзе мовы або навукі, і не ў чым іншым, будзе гэта зьвярына, зямля ці неба, або яшчэ што-небудзь, але сама ў сабе, сама з сабою, абсалютная, заўсёды аднолькавая і простая; ка-

лі ўсе іншыя прыгожыя рэчы на іншым месцы ўдзельнічаюць у гэтай прыгожасьці ў гэткай ступені, што, калі яны родзяцца і зьнікаюць, яна астаецца ані меншаю, ані большаю і нічога не здараецца зь ею. Той, хто ўзышоўшы на гэтую вышыню і пад уплывам праўдзівае любові пачаў асягваць гэтую прыгожасьць, той знаходзіцца недалёка ад мэты.

Праўдзівы шлях, якім трэба набліжацца самому да любові або ісьці пад кіраўніцтвам каго-небудзь іншага, ёсьць гэтакі: пачынаючы з паасобных праяваў прыгожага і, маючы на ўвазе гэтую абсалютную прыгожасьць, трэба ўвесь час, быццам па сту́пенях, падымацца ўгору — ад аднаго прыгожага цела да двох, ад двох — да ўсіх прыгожых целаў, а затым ад прыгожых целаў да прыгожых звычаяў, а ад прыгожых звычаяў да прыгожых пазнаньяў, да тае пары, пакуль ня ўздымешся да таго, якое і выявіцца пазнаньнем адзінае прыгожасьці і не пазнацімеш нарэшце, што́ сутнасьцю прыгожасьці зьяўляецца.

І на гэтым месцы жыцьця, дарагі Сакратас, — сказала жанчына з Манцінэі, — жыцьцё для чалавека толькі і можа зьяўляцца вартым, каб жыць яго, дзе ён сам агортвае прыгожасьць, якую, калі ты толькі угледзіш, ты не захочаш параўноўваць з вытыканаю золатам вопраткаю, ані з прыгожымі хлапцамі і юнакамі, на спазор якіх ты адчуваеш захопленьне гэтаксама, як і іншыя, што цешацца сваімі каханымі і не адыходзяць ад іх, і ты згадзіўся-б, калі-б гэта хоць у якой-небудзь ступені было даступна табе, ані есьці, ані піць, а адно толькі бесперапынна цешыцца зь іх узрокам і быць зь імі. Што-ж, запраўды, сталася-б, — сказала яна, — калі-б каму-небудзь давялося ўбачыць гэтую абсалютную прыгожасьць чыстаю, і нязьмешанаю, і без звырадненьняў, не абцяжанаю людзкім целам, людзкімі хварбамі і ўсялякім іншым сьмяротным бліскучым барахлом, і калі-б ён мог

гэтую боскую прыгожасьць аглядаць ў яе сваеасаблівай дасканаласьці? [212] Ці думаеш ты, — сказала яна, — што гэта можа быць дрэннае жыцьцё для чалавека, які скіраваў свой спазор на яе, адпаведна сузіраючы яе і астаючыся зь ёю? Ці не ўяўляеш ты сабе, што, толькі агортваючы прыгожасьць тым, чым яе і належыць агортваць, ён зможа радзіць ня ўяўленую цноту, але, цноту праўдзівую, бо-ж ён і не сузірае ўяўленьня, але праўду? Ці-ж той, хто радзіў запраўдную цноту і ўзгадаваў яе, ці-ж будзе гэтакі пазбаўлены ўдзелу прыязьні Бога, і стацца несьмяротным, калі толькі сьмяротнаму чалавеку гэта даступна?

Вось гэта — і няхай будзе ведама табе, Файдрос, і ўсім вам — расказала мне Дзіяціма, і я веру ёй. І, будучы перакананым, я пробую пераканаць іншых людзей, што ў імкненьні людзкае натуры да гэткага ўдзелу, яна ня знойдзе лепшага памочніка, чымся Эрос. Затым я і ўтрымліваю, што кажны чалавек павінен аддаваць пашану Эросу, і я сам, аддаючы пашану яму і практыкуючыся ў ягоных шляхох, ра́ю іншым сьледаваць за маім прыкладам; гэтаксама цяперака, як і заўсёды я апяваю і слаўлю магутнасьць і мужнасць Эроса гэтак многа колькі я магу.

Няхай гэта, і будзе, Файдрос, маею прамоваю на чэсьць Эроса, а калі не — можаш назваць яе як сабе жадаеш.

Калі Сакратас кончыў, усе пачалі выражаць сваё ўзнаньне для ягоных словаў, і Арыстофанэс пачаў нешта гаварыць адносна алюзыі, учыненае Сакратасам пад адрысам нейкага месца ў ягонай прамове, як раптам пачуўся гэтакі моцны стук у вонкавыя дзьверы і гул, быццам зьявілася цэлая хэўра гулякаў, і пачуліся гукі гры на дзявочай флейце.

— Пайдзеце, хлопцы, — сказаў Аґатон, — паглядзе-

це, хто там, і, калі хто із нашых, прасеце ўвайсьці; а калі не, — скажэце, што мы ўжо ня п'ем, а прылеглі супачыць.

Хутка пасьля гэтага пачуўся са двара голас Алькібіядэса, які вельмі п'яны быў і громка крычаў, пытаючыся, дзе Аґатон, і дамагаючыся, каб яго правялі да Аґатона. Яго прывялі да іх разам з флейцісткаю, якая падтрымлівала яго пад руку, і іншымі зь ягоных удзельнікаў; сам ён затрымаўся ў дзьвярох, увенчаны нейкім густым вянком із блюшчу і братак і зь вялікаю колькасьцю істужак на галаве, і сказаў:

— Радавацца вам, мужы! Прымеце вы яшчэ аднога вельмі п'янага чалавека ў вашую кампанію, ці маем мы толькі ўвенчаць Аґатона, дзеля чаго мы і прышлі, і пайсьці назад? Бо ўчора, — казаў ён далей, — ня мог я прыйсьці, затым сягоньня прыйшоў я і, як бачыце, з істужкамі на галаве, іх я здыму і ўпрыгожу імі галаву, калі дазволена мне сказаць, найболей разумнага і прыгожага чалавека. Вы сьмеяцеся зь мяне, затым што я п'яны? Няхай сабе, смейцеся, і я гэтаксама добра ведаю, што я праўду кажу. [*213*] Але скажэце мне адразу, ма́ю-ж я на гэткіх умовах увайсьці, ці ма́ю завярнуцца і ісьці назад? Хочаце вы піць са мною ці не?

Усе тут загаварылі, запрашаючы яго ўвайсьці і прылегчы за сталом, гэтаксама і Аґатон фармальна запрасіў яго.

І ён увайшоў тады, падтрымліваны людзьмі, і тут-жа пачаў здымаць зь сябе істужкі, каб упрыгожыць імі Аґатона; істужкі зьвісалі яму перад вачыма, затым ён не заўважыў Сакратаса і сеў побач з Аґатонам, паміж ім і Сакратасам, каторы, уступаючы госьцю, крыху адсунуўся набок. Усеўшыся радам з Аґатонам, Алькібіядэс прывітаў яго абдымкамі і ўвенчаў яго. І Аґатон сказаў:

— Раззуйце яго, хлопцы, каб ён узьлёг з намі ўтрох.

— З прыемнасьцю, — адказаў Алькібіядэс, — але

хто-ж зьяўляецца гэтым трэйцім між намі?

І, павярнуўшыся, убачыў Сакратаса, і, пазнаўшы яго, ускочыў на роўныя ногі з воклікам:

— О Гэраклес, і што за праява? Ты гэта, Сакратас?! Ты і тут залёг, каб падпільнаваць мяне. Гэтакі ў цябе ўжо нароў — зьнічэўку паяўляцца там, дзе цябе чалавек найменей спадзяецца. А цяперака, скажы мне, штó цябе прывяло сюды? І зноў-жа, як гэта здарылася, што ты якраз ухітрыўся прылегчы тут, а ня побач Арыстофанэса, скажам, або з кім-небудзь іншым, хто сьмешным ёсьць або можа ім стацца, а побач найпрыгажэйшага з усіх прысутных?

І на гэта Сакратас адказаў:

— Аґатон, калі ласка, абарані мяне. Бо я знаходжу, што любоў гэтага чалавека сталася для мяне зусім паважнаю рэчаю. З тае самае пары, калі я займеў любоў да яго, мне не дазваляецца зірнуць на прыгожага юнака, ані пагутарыць зь якім-небудзь прыгожым чалавекам, ня выклікаючы злоснае зайздрасьці ў Алькібіядэса, які няведама што выпраўляе, злуецца на мяне і часамі даходзіць да таго, што амаль рукам сваім дае празьмерную волю. Глядзі, каб ён і цяперака чаго-небудзь дрэннага тут не нарабіў. Пагадзі нас, а калі ён пачне сілу тасаваць, заступіся за мяне, бо, запраўды, ягоная дурніца і ягоная неапанаваная закаханасьць выклікаюць жах у мяне.

— Не, — сказаў Алькібіядэс, — паміж мною і табою ня можа быць ніякае згоды. А за сягоньняшняе я адплачу табе іншым разам. А цяперака, Аґатон, — казаў ён далей, — дай мне трохі тваіх істужак, я ўпрыгожу імі гэтую дзіўную галаву, каб ён не папракаў мяне за тое, што я цябе ўпрыгожыў, а яго, каторы сваімі мовамі перамагаў усіх бяз вынятку, і ня толькі пазаўчора, як ты, але заўсёды, — яго ня ўвенчыў.

Кажучы гэта, ён узяў некалькі істужак, упрыгожыў

імі Сакратаса і прылёг за сталом.

Прылёгшы, ён сказаў:

— Дый што вы, сябры, мне здаецца, што вы цьвярозыя. І да чаго гэта падобна, вы павінны піць. Мы згадзіліся на гэта. Пакуль вы не нап'яцеся добра, загадчыкам банкету буду я. Няхай, затым, Аґатон загадае прынесьці больших памераў чару, калі гэткая знойдзецца. Не, пачакайце, ня трэба; ляпей дай сюды, хлопча, вунь тую віно ахалоджваючую чашу, — сказаў ён, мяркуючы, што ў яе можа зьмясьціцца [214] кацілаў восем, а мо' і болей.

Напоўніўшы яе, ён выпіў перш сам, а пасьля загадаў наліць Сакратасу, і пры гэтым сказаў:

— Для Сакратаса, паважаныя мужы, хітрыка мая ня мае значэньня. Ён вып'е гэтулькі, колькі яму загадаюць, і не ап'янее ані крышку.

Хлапец напоўніў чашу, і Сакратас выпіў.

Тады Эрыксімахос сказаў:

— Як гэта, Алькібіядэс? Ці-ж, запраўды, ня будзем мы і гутарыць пры чашы, і ані пяяць, а проста так піць, як людзі, што смагу маюць?

І Алькібіядэс адказаў вітаньнем:

— О, Эрыксімахос, найлепшы сын найлепшага бацькі! Радавацца табе!

— Вітаньні і табе, — адказаў Эрыксімахос. — Але што маем рабіць?

— Як загадаеш, гэтак і будзе. Бо-ж цябе трэба слухацца.

*Лепшы ад іншых людзей із шматлікімі ведамі лекар.*

Загадвай, як табе падабаецтся.

— Калі ласка, слухай затым, — сказаў Эрыксімахос.— Да твайго прыбыцьця мы пастанавілі, што кажны з нас па чарзе, пачынаючы справа, гэтак, як можа найляпей, скажа прамову пра Эроса і аддасьць яму пашану. Мы

ўжо сваё сказалі, а ты яшчэ не гаварыў, хоць выпіць ужо пасьпеў. Затым будзе зусім на месцы сказаць табе яе, а даканаўшы, даць наказ Сакратасу, а той пасьля свайму суседу справа, і гэтак далей.

— Усё гэта прыгожа, — адказаў Алькібіядэс, — але я ня думаю, Эрыксімахос, што трапным гэта будзе п'янаму чалавеку рызыкаваць прамову ў прысутнасьці цьвярозых людзей! Апрача ўсяго, мой паважаны, ці ты запраўды паверыў ўсяму таму, што́ Сакратас цяпер гаварыў? Ці табе ня ведама, што ўсё, што-б ён тут ні гаварыў, усё якраз маецца наадварот? Бо-ж гэта ён той самы, каторы, калі толькі ў ягонай прысутнасьці пахваліць не яго, а каго-небудзь іншага, хай сабе нават бога ці чалавека, як ён ужо гатоў даць волю сваім рукам.

— Сьціхнуў-бы ты ляпей, — сказаў Сакратас.

— На Посэйдона, — адказаў Алькібіядэс, — ты не патрабуеш чыніць мне закіды, у тваей прысутнасьці я нікога ня буду хваліць.

— Ну, дык і перасьцерагай гэта, — сказаў Эрыксімахос, — аддай тады належную пашану Сакратасу.

— Як гэта ты разумееш? — адказаў Алькібіядэс. — Думаеш ты, Эрыксімахос, што я павінен напасьці на яго і адпомсьціцца ў вашай прысутнасьці?

— І што ты маеш на ўвазе? — сказаў Сакратас. — Маеш ты мяне высьмеяць у сваіх пахвалах? Што ты хочаш?

— Я зьбіраюся гаварыць праўду, але ня ведаю, ці дазволіш мне.

— Калі ідзе пра праўду, — адказаў Сакратас, — дык я ня толькі дазваляю, але і загадваю.

— І чаму-ж бы ня меў пачаць, — сказаў Алькібіядэс. — А ты вось як зрабі пры гэтым. [*215*] Калі я скажу што-небудзь ня згоднае з праўдаю, перапыні мяне ў маей мове, і скажы, што я хлусіць пачынаю, — затым знарок я ня буду махляваць. Але, калі буду гаварыць

нягладка, а як прыйдзе з памяці, дык ты ня дзівуйся. Бо-ж ня гэтак ужо і лёгка пералічыць прыгожа і па чарзе ўсе твае дзівосы, дый да гэтага, будучы яшчэ ў гэткім стане.

Сакратаса хваліць, мужы мае, я папрабую шляхам вобразнага параўнаньня. Вельмі магчыма, што ён падумае, што я хачу жарты строіць зь яго, але, тасуючы параўнаньні, я маю на ўвазе праўду, а не жарты.

Я ўтрымліваю, пайменна, што вонкава ён падобны на сіленасаў, якіх можна бачыць у майстэрнях скульптураў, якіх мастакі прадстаўляюць пераважна зь нейкаю дудкаю ці флейтаю ў руках, у якіх, калі адну палову зьняць, можна бачыць на ўзьняцьці выяўленьні багоў. Затым, утрымліваю я, што ён падобны на сатыра Марсыяса. Што ты, Сакратас, вонкнва падобны да сіленасаў, гэтаму і сам ты ня будзеш пярэчыць. А тое, што ты падобны на іх і ў іншых рэчах, дык паслухай. Скажы, ці не зьяўляешся ты задзірыстым чалавекам? Калі ты не прызнацімешся да гэтага, дык я маю сьведкаў. Або ці не зьяўляешся ты флейцістым? Дый яшчэ якім флейцістым, болей годным пашаны, чымся сам Марсыяс. Той зачароўваў людзей грою на інструмэнце сілаю сваіх вуснаў, гэтаксама як і кажны сягоньня, хто выгрывае ягоныя тоны. Бо і тыя, якія выгрываў Олімпос на флейце, я гэтаксама прыпісваю Марсыясу, як ягонаму вучыцелю. Бо гэта ягоныя тоны, будуць яны выконвацца добрым флейцістым ці дрэннаю флейцісткаю, аднолькава парываюць слухачоў і, дзякуючы таму, што яны зьяўляюцца боскімі, выяўляюць тых між з людзей, што адчуваюць неабходнасьць у багох і тайніцах. Ты-ж нічым не адрозьніваешся ад Марсыяса, хіба толькі тым, што асягваеш тое самае бязь ніякіх інструмэнтаў, адно толькі сваімі гутаркамі. Калі мы, напрыклад, маем на-

году слухаць якога-небудзь іншага аратара, нават вельмі добрага, ім, па-праўдзе кажучы, ніхто із нас не захопліваецца. А вось, слухаючы твае гутаркі, або пераказваныя кім-небудзь іншым, нават і ў дрэнным пераказе, усе мы, і жанчыны, і мужчыны, і моладзь, астаемося захопленымі і пацягнутымі.

І, калі-б я, паважаныя мужы, не пужаўся быць выяўленым вамі, як зусім п'яны, пад прысягаю мог-бы дакладна расказаць вам, пра тое, што́ я не аднойчы дасьведчыў і сягоньня яшчэ перажываю з прычыны ягоных гутарак. Калі я чую іх, маё сэрца пачынае хвалявацца мацней, чымся апанаваных карыбантаў, а з вачэй, з прычыны ягоных словаў, ліюцца сьлёзы; гэтаксама, бачу я, перажываюць многія іншыя людзі. І наадварот, слухаючы Пэрыклеса або другіх добрых прамоўцаў, я знаходзіў, што яны прыгожа прамаўляюць, але я нічога падобнага не перажываў, гэтаксама як і душы мае́ не агортваў несупакой з прычыны нявольніцкага майго жыцьця. А вось гэны Марсыяс уводзіў мяне часта ў гэтакі стан, калі мне здавалася, што болей ня можна жыць гэтак, як я жыву. [*216*] І ты, Сакратас, ня скажаш, што гэта няпраўда! Ды нават і цяперака, я ведаю ў сваім сэрцы, што, калі я пачну слухаць яго, я ня вытрываю, і я ўпаду ў гэткі самы стан. Бо-ж ён змусіць мяне прызнаць, што не хапае мне шматлікага і, як вынік — супярэчнасьць: я занядбоўваю самога сябе і аднача́сна праяўляю стараньні адносна грамадзкіх справаў атэнцаў. Дзеля гэтага знарок і з натугаю я затыкаю вушы свае, каб ня чуць яго і уцякаю бягма бягом ад яго, як ад сырэнаў, бо інакш магу астацца на месцы побач яго аж пакуль не састарэюся. І ён зьяўляецца адзіным чалавекам, які выклікае ў мяне пачуцьцё сораму, чаго ніхто не спадзяецца ўва мне. І я саромлюся толькі яго, бо я сьведамы таго, што я не зьяўляюся ў стане супроцьставіцца ягонаму навучаньню і сказаць,

што чалавек не павінен рабіць таго, што́ ён вучыць чыніць, і трэба мне толькі адыйсьці ад яго, як спакушаюся я гонарамі,якімі натоўп дорыць мяне. Затым я бягма ўцякаю ад яго, і калі я зноў бачу яго, я чуюся асаромленым з прычыны таго, што́ я вызнаваў перад ім. Часамі мне здаецца, што я цешыўся-б, калі-б я мог ня бачыць яго сярод жывых, хоць, з другой стараны, я добра ведаю, што, калі-б нешта падобнае здарылася, я адчуваў-бы цяжкое гора. Інакш кажучы, я і сам ня ведаю, як мне ўсуаднесьціся да гэтага чалавека.

Вось якое ўзьдзеяньне пашырае гэты сатыр на мяне і на шматлікіх іншых людзей гукамі свае флейты. Але паслухайце далей, як падобным ён ёсьць на таго, да каго я параўнаў яго, і якія цудоўныя свомасьці ён праяўляе. Я запэўніваю вас, што ніхто з прысутных ня ведае яго, але я, калі я ўжо пачаў, дык пакажу, якім ён, запраўды, зьяўляецца. Вы бачыце, што Сакратас любіць прыгожых, заўсёды закаханы ў іх, захопліваецца імі, і зноў-жа, выяўляецца нясьведамым, і нічога ня ведае — гэтакі вонкавы ягоны выгляд. Ці-ж не выглядае ён, як сіленас? Падобны, дый яшчэ як падобны! Гэта ён толькі навонкі прыкідваецца гэтакім, затым ён падобны да выразанага парожнага сіленаса. Але, калі яго рашчыніць, колькі мудрасьці і разважнасьці, дарагія мужы, знойдзеце вы ў ягоным нутры! Няхай-жа ўсім вам будзе ведама, што яму абыякасна, прыгожым чалавек зьяўляецца ці не; вы нават не ўяўляеце сабе да якое ступені яму абыякасна ці чалавек багаты або, ці карыстаецца пэўнаю вартасьцю, якой большасьць людзей прыдае асаблівае значэньне. Усе гэтыя вартасьці ён за нішто мае, уважаючы, што і мы самыя — нічога. Прыквідвацца нясьведамым і чыніць жарт са сваіх суродзічаў на працягу ўсяго свайго жыцьця — вось ягонае паніжэньне самога сябе.

Але, калі ён стаецца паважным, і выкрываецца на-

вонкі — я ня ведаю, ці хто-небудзь з вас бачыў тыя сукрытыя ў ім божыя воблікі; але мне аднойчы давялося іх пабачыць, і яны выдаліся мне гэткімі боскімі, [217] залатымі, прыгожымі і годнымі падзіву, што я пастанавіў учыніць усё, што-колечы Сакратас зажадае. Мяркуючы, што ён паважна аглядаецца на маю юнацкую прыгожасьць, уважаў я гэта за апрычоны дар, за сваеасаблівае здарэньне, бо, дзякуючы гэтаму, уступіўшы Сакратасу, я меў-бы нагоду, пачуць ад яго ўсё, што ён ведае. Гэткім самаўпэўненым я быў адносна мае прыгожасьці. З гэткімі вось думкамі, — бо я ніколі перад гэтым бяз прысутнасьці праводзячага не аставаўся зь ім адным, — адаслаў я аднойчы праводзячага, і астаўся зусім на самоце зь ім. Тут я мушу сказаць вам поўную праўду, затым будзьце ўважнымі, а калі хлусіціму, ты Сакратас, запярэч мне. Дык вось, мужы, асталіся мы ўдвох на самоце, і я спадзяваўся, што ён зараз пачне гаварыць да меня гэтак, як звычайна у падобных выпадках бяз сьведкаў гаворыць закаханы да каханага, і я цешыўся загадзя. Але і тут я не асягнуў свайго замеру; як заўсёды гэтак і цяпер гутарыў ён са мною, на працягу ўсенькага дня, а пасьля пайшоў. Пасьля гэтага я запрасіў яго прыняць удзел разам са мною ў гімнастычных практыкаваньнях, і я практыкаваўся зь ім разам, спадзяючыся, што з гэтага што-небудзь выйдзе. І ён, практыкуючыся, нават часта дужаўся са мною, калі нікога ня было ў прысутнасьці. І што-ж вы думаеце? Нічога я не займеў з гэтага. Не асягваючы нічога гэткім спосабам, я пастанавіў прадпрыняць адносна гэтага чалавека болей мацнейшыя меры і не адступаць ад прадпрынятага, але даведацца, што тут такое ёсьць. Дзелягэтага запрасіў я яго да сябе на вячэру, гэтак, як закаханы мяркуе здабыць каханага. Праз даўжэйшы час ён нават не хацеў прыняць запросінаў, але напасьледак мне ўдалося пераканаць яго. Калі ён зьявіўся

першы раз, пасьля вячэры выразіў ён жаданьне пайсьці, і я, сяромяючыся тады, пусьціў яго. Запрасіўшы яго да сябе другі раз, правёў я час ў гутарцы зь ім да познае ночы, а калі ён зьбіраўся выходзіць, я пад дайманом познае гадзіны змусіў яго застацца начаваць. Ён уклаўся на ложы ў суседзтцве з маім, на якім ён узьляжаў ў часе вячэры, і апрача нас, ніхто ў гэтым пакоі ня спаў. Як да гэтае пары ў маім апавяданьні я сказаў усё тое, штó можна пераказаць кажнаму чалавеку, але далейшага вы не пачулі-б ад мяне, калі-б, па-першае, як гэта кажацца, віно ня было праўдзівым, і гэта ўсяроўна, зь дзяцьмі ці без дзяцей, і, па-другое, калі-б мне не выдавалася несправядлівым затойваць шляхэтны чын Сакратаса, калі я ўжо ўзяўся сказаць слова пахвалы на ягоную чэсьць. Дый, апрача гэтага, я чуюся цяперака, як чалаек, укушаны гадзюкаю. Гаворыцца, што той, з кім падобнае здарыцца, апавядае пра свае перажываньні толькі гэткаму, хто дасьведчыў падобнае на сабе, бо толькі гэтакі зьяўляецца ў стане [*218*] зразумець яго і дараваць, ня гледзячы на тое, што-б ён ні гаварыў і якбы ні вырабляўся ад болю. А я-ж і быў укушаны яшчэ болей балюча, чымся хто-небудзь іншы, і пры гэтым у самае далікатнае месца — у сэрца, у душу, ці называйце гэта як хочаце, угрызены і зранены філязафічнымі гутаркамі, якія, калі ўпадуць на маладыя і шчырыя душы, упіваюцца мацней, чымся гадзюка, і могуць змусіць гаварыць і тварыць усё, што хочаце, — дый гэткія людзі перада мною, як Файдрос і Аґатон, Эрыксімахос і Паўзаніяс, Арыстодэмос і Арыстофанэс, нічога ўжо ня кажучы пра самога Сакратаса, гэтаксама, як усе іншыя, усе вы маеце дасьведчаньне і перажываньні гэтага самага шаленства і цярпеньняў у вашай тузе і імкненьні да мудрасьці. А затым і слухайце ўсе! Бо-ж вы даруеце мне тое, штó я ўчыніў тады, а пра што апавядаю вам цяперака. А што датычыцца слугаў і ўсіх іншых няўведзе-

ных у тайніцы не́вукаў, дык няхай яны „запруць на засаўку вароты сваіх вушэй“.

Дык вось, мужы, калі сьветач патух і слугі выйшлі, я падумаў, што тут няма чаго болей хітраваць зь ім, а проста сказаць пра свае замеры бяз утойваньняў. Я патрос яго за плячо і спытаў:

— Сакратас, ты сьпіш?

— Яшчэ не, — адказаў ён.

— Ты ведаеш, што́ я маю на ўвазе?

— Што? — запытаў ён.

— Мне здаецца, — адказаў я, —што ты зьяўляешся як дагэтуль адзіным годным мяне любоўнікам, і, як мне выдаецца, ты ня маеш куражу загаварыць да мяне пра гэта. Што да мяне, дык, на мой пагляд, было-б вялікаю недарэчнасьцю адмаўляць табе ў гэтым, гэтаксама, як я не адмовіў-бы табе, калі-б ты меў неабходнасьць карыстацца маею маемасьцю або маімі сябрамі. Бо для мяне ня існуе нічога болей важнейшага, чымся дайсьці да як мага большае дасканаласьці і тутака як раз, як мне здаецца, ніхто ня зможа быць болей памочным, чымся ты. Затым, калі-б я адмовіў гэтакаму чалавеку, я болей саромеўся-б мудрых людзей, чымся саромеўся-б бязглуздага натоўпу, услужыўшы яму.

Чуючы гэта, ён адказаў са свомай для яго насьмешкай:

— О, дарагі мой Алькібіядэс, запраўды, ты ня выдаешся мне глупым чалавекам, калі тое, што́ ты сказаў пра мяне, зьяўляецца праўдаю, і, быццам ўва мне, запраўды, тоіцца нейкая свомасьць, якая мае магчымасьць учыніць цябе болей дасканалым, і затым ты даглдзеўся ўва мне нейкае асаблівае прыгожасьці, якая далёка пераступае тваю прыгожую постаць. Дык вось, калі, спасьцярогшы яе, ты імкнешся ўступіць са мною ў супольнасьць і замяніць прыгожасьць на прыгожасьць: — гэта значыць, што ты хочаш атрымаць карысьць значна большую, чымся я, здабываючы праўдзівую прыгожасьць за цану

здадуманае, і думаеш, запраўды, вымеціць медзь на золата. [*219*] Але паўзірайся ты на мяне ляпей, мой дружа, ці не памыляешся ты, бо-ж на мне, фактычна, нічога няма асаблівага. Зрок развагі стаецца вастрэйшым тады, калі вочы пачынаюць ужо губіць сваю зыркасьць, а табе да гэткага стану яшчэ далёка.

Чуючы гэта, я адказаў:

— З мае стараны рэч гэтак маецца, і я сказаў тое, што́ я думаў. Але ты сам разваж і ўважай, як выдасца ляпей і табе і мне.

— Так, — сказаў ён, — гэта было трапна сказана, і з гэтае пары мы будзем перш раіцца, а пасьля ўжо дзейнічаць гэтак, як нам абодвум выдасцца за лепшае ў гэтай справе, гэтаксама як і ў іншых.

Пасьля гэтакае ягонае гутаркі і майго адказу, у мяне стварылася ўражаньне, што мае́ словы зранілі яго быццам стрэлы; тады я ўстаў і, ня даўшы яму дайсьці да слова, накінуў на яго гэты свой плашч, — бо надварэ стаяла зіма, — падлез пад ягонае пацертае пальто і, абодвыма рукамі абняўшы гэтага, запраўды, своеасаблівага і дзіўнага чалавека, пралежаў гэтак усенькую ноч! І ты ня скажаш, Сакратас, што я тут хлушу! Дык вось, ня гледзячы на ўсе мае натугі, ён выйшаў пераможнікам, пагардзіў квітнеючаю маею прыгожасьцю і зласьліва высьмеяў яе. А мне ўсё здавалася, што яна ўсё-ж ма́е нейкае значэньне, судзьдзі, бо-ж судзьдзямі вы зьяўляецеся ў прадмеце выданьня прысуду на Сакратасавую нахабнасьць, — бо і, запраўды, прысягаю на ўсіх багоў і багіняў, — што, праспаўшы з Сакратасам усю ноч, я ўстаў гэткім, быццам я спаў з бацькам ці старэйшым братам.

І што, вы думаеце, я мог адчуваць пасьля гэтага, калі, з аднае стараны, пранізвала мяне пачуцьцё дазнанае крыўды і паніжэньня, а з другое, — я ня мог надзівіцца з прычыны духовых вартасьцяў, самакантролі і муж-

насьці гэтага чалавека, роўнага якому што да сілы самапанаваньня і мудрасьці я ніколі да гэтае пары і не спадзяваўся спаткаць? І я ня мог ані злавацца на яго, ані згубіць нашых добрых суадносінаў, а спосабу прыкаваць яго да сябе ў мяне ня было. Бо-ж я здаваў сабе справу, што падкупіць яго грашыма яшчэ болей немагчыма, чымся раніць Айаса мячом, а калі я затасаваў тое, чым выключна спадзяваўся злавіць яго, дык ён высьлізнуўся мне і я астаўся бясьсільным і разьбітым, — ён перамог мяне гэтак, як ніхто ніколі не перамагаў.

Усё гэта мела месца яшчэ перад узяцьцем удзелу ў выправе супроць Поцідэі і разам харчавацца ў гэтым часе. І перадусім, трэба сказаць, што вытрываласьцю сваею ён перавышаў ня толькі мяне, але наагул усіх. Калі аднойчы мы знайшліся адрэзанымі, і як гэта бывае часамі ў падобных маршах, [*220*] змушанымі былі галадаць, ніхто ня мог дараўнаць яму вытрываласьцю. Зноўжа, калі ежы было пад дастаткам, ён быў адзіным, каторы, запраўды, умеў частавацца. Да выпіўкі ён не гарнуўся, але, калі яго прынукалі выпіць, пакідаў усіх з-заду, і, што найболей важным, ніхто ніколі ня бачыў Сакратаса п'яным. Дый цяперака можна знайсьці пацьверджаньне гэтага. Гэтаксама ў часе зімніх марозаў — а зімы там стаялі лютыя — ён зносіў іх задзіўляюча стойка. Аднойчы здарыўся асабліва люты мароз; іншыя або наагул ня выходзілі надвор, або выходзілі, нацягнуўшы на сябе некалькі адзежынаў і захутаўшы ногі лямцамі і аўчынамі, але гэты чалавек выходзіў у гэткую пагоду ў сваім звычайным плашчы і босымі нагамі крочыў па лёдзе, ляпей, чымся іншыя жаўнеры, абуўшыся, якія скрыва ўзіраліся на яго, думаючы, што ён пагарджае імі.

Вось гэтулькі было-б з апавяданьня. А цяперака паслухайце пра тое, як

*Чын прадпрыняў свой і выканаў — муж асаблівай адвагі*

ў часе гэтага-ж самага паходу. Аднойчы раніцаю аддаўся ён разважаньню аб нечым і, пагрузіўшыся ў свае думкі, застыў на месцы. Ня могучы ў думцы ісьці наперад, ён ня супыніў сваіх разважаньняў і ўсё стаяў і стаяў на тым самым месцы. Зьбліжыўся ўжо поўдзень, і людзі, якім кінулася гэта ў вочы, зьдзіўлена гаварылі між сабою, што Сакратас з самае раніцы стаіць і ўсё аб нечым думае. Нарэшце, калі надыйшоў вечар і ўсе павячэралі, некаторыя іёнцы — рэч мела месца летам — вынесьлі свае пасьцелі пад голае неба, каб, з аднае стараны, паспаць у прахалодзе, а здругой — паглядзець, ці будзе Сакратас стаяць на тым самым месцы гэтаксама і ўночы. І вось, ён прастаяў там да золаку, аж да ўсходу сонца; тады скіраваў ён сваю малітву да сонца, а пасьля гэтага пайшоў.

Ці хацелі-б вы пабачыць яго ў бітве? — Гэтаксама і тут трэба аддаць яму належнае. У часе бітвы, пасьля якое стратэгі ўзнагародзілі мяне, ніякі іншы чалавек не ўратаваў мяне, як толькі гэты, які раненага мяне не хацеў пакінуць, але вынес з поля бою мяне самога і маё аружжа. Я гэтаксама і тады дамагаўся, Сакратас, каб стратэгі прысудзілі табе ўзнагароду, і тут ты ня будзеш ані ўпікаць мяне, ані скажаш, што я хлушу; і зноў-жа, калі стратэгі, бяручы пад увагу маю высокую рангу, хацелі мне прысудзіць узнагароду, ты сам яшчэ болей, чымся яны дамагаўся, каб узнагародзілі мяне, а не цябе. І ўжо асабліва вартым паглядзець, мужы, на Сакратаса, калі нашае войска, ўцякаючы, адступала з-пад Дэліёну. Здарылася, што я быў на кані, і затым ў адносна меншай небясьпецы, а ён у цяжкай экіпіроўцы пеша. Ён адступаў разам з Ляхесам, калі нашыя ўжо расьцярушыліся. І я напатыкаю іх абодвух і пазнаю іх і заклікаю іх ня губіць бадзёрасці, і кажу ім, што не пакіну іх. І тут, запраўды, Сакратас выявіўся мне ў лепшым сьвятле, чымся пад Поцідаяй. Перш, я заўважыў,

што ён быў у лепшым настроі, чымся Ляхэс, а пазьней, мне здавалася, што тамака, як і тут, выражаючыся тваімі, Арыстофанэс, словамі, „крочыў ён горда, на староны позірк кідаючы“, гэта значыць, спакойна, але ўважна, прыглядаючыся навакол прыяцелям як і ворагам, даючы ясна зразумець кажнаму, што, калі хто-колечы кране толькі гэтага чалавека, дык ён знойдзецца на ўзроўні рашуча абараніць самога сябе. Дзелягэтага выйшлі яны цэлымі, ён і ягоны сябра; бо ў часе кажнага змаганьня, людзей, падобных да гэтага чалавека, не кранаюць і пальцам, а прасьледуюць тых, што ўцякаюць на лоб і на шыю.

У слове на чэсьць Сакратаса можна ўспомніць пра шматлікія і дзіву годныя ягоныя сваеасаблівасьці. Пра некаторыя зь іх можна гэтаксама сказаць і ў аднесеньні да каго-небудзь іншага, але вось тое, што ён не падобны да ніякага іншага зь людзей, старажытных ці сучасных, — гэта найболей зьяўляецца задзіўляючым! Людзей, як Ахільлес, можна знайсьці, яму, напрыклад, можна супроцьставіць Брасідаса або іншых; Пэрыклесу — гэтакага, як Нестор і Антэнор, дый іншых можна знайсьці; і, гэтак параўноўваючы, мы можам ісьці далей, але гэты чалавек у сваей дзіўнасьці і ў сваіх гутарках на гэтулькі сваеасаблівым зьяўляецца, што падобнага якому хоць-бы ў чым-небудзь ня можна знайсьці ані сярод цяпер жывых людзей, ані сярод старажытных, і параўноўваць яго можна, як я гэта чыню, не да людзей, але толькі да сіленасаў і да сатыраў, — і яго самога, і ягоныя гутаркі.

У дапаўненьне вобразу, я павінен дабавіць тое, што́ я прамінуў на пачатку свае мовы, пайменна, што і гутаркі ягоныя вельмі нагадваюць сабою тых сіленасаў, якія раскрываюцца. І запраўды, калі прыслухацца да гута-

рак Сакратаса, дык спачатку яны могуць выдасца нічым іншым, як глупствамі: яны ахутаны гэткімі словамі і выражэньнямі, што нагадваюць сабою шчаціністага і задзірыстага сатыра. На языку ў яго заўсёды нейкія абцяжаныя барахлом аслы, кавалі, шаўцы і гарбары, і здаецца, што заўсёды гаворыць ён пра адно і тое самае і тымі самымі словамі, і затым кажны надасьведчаны і абмежаваны чалавек будзе сьмяяцца зь ягоных гутарак. [222] Але, калі разгарнуць іх і зазірнуць у сярэдзіну: дык спачатку бачыш, што яны поўныя разумнага зьместу, як ніякія іншыя, а пасьля, што гутаркі гэтыя боскія, што яны тояць у сабе найлепшыя воблікі цноты і закранаюць найглыбейшыя пытаньні, праўдзіва кажучы, пытаньні, якімі належыць займаца кажнаму, хто імкнецца да вышэйшае ступені шляхотнасьці.

Гэта, тое, паважаныя мужы, чым я выражаю чэсьць Сакратасу, і зноў-жа, тое, як дакор яму — гэта, як ён зьняважыў мяне, аб чым адначасна я расказаў вам. І я не зьяўляюся адзіным, з кім ён гэтак абышоўся; гэтае самае ён учыніў і з Хармідэсам, сынам Ґляўкона, як і з Эўтыдэмосам, сынам Дзіяклеса, і з многімі іншымі, якіх ён ашукваючы, спачатку прыкідваецца быццам іхны палюбоўнік, а пасьля сам стаецца бярждзэй аб'ектам любові, чымся палюбоўнікам. Тое, штó я хачу перадусім сказаць табе, Аґатон, дык гэта, каб ты не пайшоў на ягоныя хітрыкі, але, каб ты нашым дазнаньнем узбагаціўся, і каб на табе ня спраўдзілася пагаворка, якая кажа, што „разумным чалавек стаецца пасьля шкоды“.

Калі Алькібіядэс кончыў свае словы ўсе са сьмехам дзівіліся з прычыны ягоных шчырых выказваньняў, дзелятаго, што ён усё яшчэ, як здавалася, быў закаханым у Сакратаса.

— Я думаю, што ты зусім цьвярозы, Алькібіядэс, —

сказаў Сакратас, — бо інакш ня мог-бы ты гэтак разумна ўсё абыйсьці навакол, каб якраз асланіць усё тое, з прычыны чаго ты ўсё гэта гаварыў, і аб чым нібы неўзнарок толькі пад канец вылажыў, быццам усю сваю мову не дзеля таго, каб палажыць нязгоду паміж мною і Аґатонам, уважаючы, што я павінен любіць толькі цябе і нікога іншага, а Аґатона — ты і ніхто іншы. Але я раскусіў цябе, і тваю сатыра-сіленасаўскую драму бачу я навылят. Не, мой дарагі Аґатон, ня дай яму асягнуць таго, што́ асягнуць ён імкнецца, глядзі, каб ніхто не пасеяў між намі нязгоды.

На гэта Аґатон адказаў:

— Магчыма ты маеш рацыю, Сакратас. Я здагадваюся, што ён, мусіць, з гэтаю мэтаю і ўзьлёг паміж мною і табою, каб нас распадзяліць. Дык вось, на злосьць яму, я перайду на тваю сторану і ўзьлягу побач цябе.

— Пэўна, адказаў Сакратас, — хадзі сюды і узьляж тут ніжэй ад мяне.

— О Зэус! — жыва адказаў Алькібіядэс. — І як гэты чалавек зноў адносіцца да мяне! Ён абавязкава тае́ думкі, што ён заўсёды мусіць мяне перавышаць. Калі ўжо інакш ня можа быць, ты цудоўны, дык няхаў прынямся Аґатон узьляжа між намі!

— Гэта немагчыма, — адказаў Сакратас. Ты гаварыў пахвальнае слова на маю чэсьць, дык цяперака маім абавязкам, сказаць гэтакае-ж слова на чэсьць чалавека, які знаходзіцца направа ад мяне. Калі Аґатон узьляжа ніжэй ад цябе, дык ён мусіціме гаварыць на маю чэсьць другі раз ужо, не пачуўшы маего слова на ягоную чэсьць. Затым няхай ужо гэтак астанецца, і ня будзь зайздросным з прычыны гэтага юнака, калі [*223*] я буду гаварыць маё слова на ягоную чэсьць, тым болей, што я ма́ю неўтаймаваную ахвоту сказаць пахвальнае слова на ягоную чэсьць.

— Шкада, Алькібіядэс! — сказаў ажыўлена Аґа-

тон, — у ніякім выпадку я не магу тут астацца, цяперака абавязкава я мушу перасесьці, каб Сакратас на маю чэсьць сказаў слова ўзнаньня.

— Звычайная гэта рэч, — адказаў Алькібіядэс. Там, дзе Сакратас знаходзіцца, ніхто ня можа мець свайго ўдзелу ў прыгожасьці. Вось для прыкладу, хоць-бы і цяперака, без найменшае натугі ён знайшоў пераконваючую прычыну ўкласьці Аґатона побач сябе.

Пасьля гэтага Аґатон устаў, каб узьлегчы побач Сакратаса, як раптам, пад дзьверы наблізіўся вялікі натоўп вясёлых бадзякаў і, застаўшы іх адкрытымі, — нехта ў міжчасе выходзіў, — хлынуў проста ў дом і пазаймаў месцы сярод банкетуючых. Узьнялася страшэнная сумяціцца, і бяз усякага ладу людзі прынукаліся піць вялікую колькасьць віна. Эрыксімахос і Файдрос і некаторыя іншыя, паводля словаў Арыстодэмоса, пайшлі да хаты, а сам ён заснуў і спаў вельмі доўга, тым болей, што ночы стаялі тады доўгія.

Прачхнуўся ён на золаку, калі ўжо пеўні пачалі пяяць. Калі ён прачхнуўся, ён убачыў, што некаторыя сьпяць, а іншыя разышліся па хатах, але Аґатон, Арыстофанэс і Сакратас усё яшчэ чуваюць і п'юць зь вялікае чашы, перадаючы яе па чарзе зьлева направа, і Сакратас пры гэтым вядзе зь імі гутарку. Многага зь ягонае гутаркі Арыстодэмос не запамятаў, бо ён ня чуў яе пачатку, а да гэтага яшчэ час ад часу прыдрэмліваў, але галоўнае ў гутарцы было тое, што Сакратас змусіў іх прызнаць, што адзін і той самы чалавек павінен умець стварыць і камэдыю і трагэдыю і, што мастацтвам абдораны трагічны паэта, зьяўляецца гэтаксама і камэдыяграфам. Прызнавалі яны гэта проста ў сілу неабходнасьці, ня вельмі сьледзячы ягоныя вывады, бо іх хіліла да сну. І першым заснуў Арыстофанэс, а пасьля, калі ўжо добра ўзялося на дзень — Аґатон.

Сакратас-жа паправіўшы іх да сну, устаў і пайшоў, а

ён, Арыстодэмос, як заўсёды, пайшоў сьледам за ім. Прыйшоўшы ў *Лікейён* і выкупаўшыся, Сакратас правёў дзень як заўсёды ён чыніў, а пад вечар пайшоў дамоў супачыць.

# ІЁН

Дыялёг вядзецца паміж Сакратасам і рапсодам Іёнам з Эфэзу, які ў прадмеце рэцытацыі паэзыі і інтэрпрэтацыі Гомэра ўважае сябе за незраўнанага. Сакратас утрымлівае, што Іёнавая здольнасьць, як рапсода, зьяўляецца вынікам божага натхненьня, пераказанага яму паэтам. Думку, аднак-жа, пададзеную Іёнам адносна ўспрыйманьня ад Гомэра нормаў практычнага паступаваньня [541], Сакратас адкідае, як недарэчную.

# ІЁН

*Асобы дыялёгу*

*Сакратас, Іён*

*Сакратас:* Іёну радавацца! Скуль ты ідзеш цяпер [*530*] да нас? Ці ня з дому, з Эфэзу?

*Іён:* О, зусім не, Сакратас, з Эпідаўросу, са сьвята на чэсьць Асклепіёса.

*Сакратас:* Ці-ж эпідаўрыйцы наладжваюць на чэсьць гэтага бога і спаборніцтвы рапсодаў?

*Іён:* О, так! Ды і ў іншых музавых мастацтвах.

*Сакратас:* І як, і мы выступалі ў спаборніцтве? І зь якім вынікам ты выступаў?

*Іён:* Мы атрымалі першую нагароду, Сакратас.

*Сакратас:* Гэта добра! Затым глядзі, каб мы перамаглі гэтаксама і на Панатэнаях!

*Іён:* Гэтак і станецца, калі Бог дазволіць.

*Сакратас:* Запраўды, Іён, я часта зайздросьціў вам, рапсодам, з прычыны вашага мастацтва. Яно заўсёды вымагае, каб вы рэпрэзэнтаваліся навонкі як найболей прыгожа з адпаведнай да гэтага вопраткаю, і адначасна, у сілу вашага мастацтва, вы стаіце перад неабходнасьцю займацца шматлікімі першараднымі паэтамі, а зь іх у першую чаргу — Гомэрам, найлепшым і боскім з паэтаў, пранікнуць ягоныя ідэі а не адно словы. Дык якжаж не зайздросьціць вам! Бо-ж ніхто ня зможа стацца добрым рапсодам, ня ўнікаючы ў сутнасьць таго, што́ га-

ворыць паэта. Так, рапсод павінен быць здольным выкласьці слухачам ідэі паэты, а выканаць гэтага ня зможа той, хто ня ведае, што́ гаворыць паэта. Усё гэта зьяўляецца годным зайздрасьці!

*Іён:* Ты праўду кажаш, Сакратас. Што найменей для мяне гэта было найболей труднаю часткаю мастацтва; аднак, як мне здаецца, я паясьняю Гомэра ляпей за ўсіх; затым ані Мэтродорос Лямпсакійскі, ані Стэсімбротос Тасійскі, ані Гляўкон, ані хто-небудзь з аднойчы народжаных ня быў у стане выразіць словамі пра Гомэра гэтулькі трапных ідэяў, як я.

*Сакратас:* Я цешуся, Іён, чуючы гэта; ты, напэўна, не адмовішся пераказаць іх мне.

*Іён:* З прыемнасьцю, Сакратас, і, запраўды, варта паслухаць, у якую прыгожую вопратку я апранаю Гомэра! Я думаю, што я заслужыў на тое, каб гомэрыды ўшанавалі мяне залатым вянком.

*Сакратас:* І запраўды, я мушу ўсё ўчыніць, каб паслухаць цябе. А тымчасам скажы мне вось што: ці толькі ты ў Гомэры чуешся моцным, [*531*] ці гэтаксама і ў Гэзіёдосе, і ў Архілёхосе?

*Іён:* Толькі ў Гомэры; і мне здаецца, што гэтага хопіць.

*Сакратас:* Ці існуе нешта такое, пра што і Гомэр і Гэзіёдос гавораць тое самае?

*Іён:* Я думаю, што існуе, і нават шматлікае.

*Сакратас:* Дык што-ж, у такім выпадку тое, пра што кажа Гомэр, ты ляпей-бы паясьніў, чымся тое, пра што гаворыць Гэзіёдос?

*Іён:* О, аднолькава, Сакратас, калі яны кажуць пра тое самае.

*Сакратас:* А што, калі яны ня кажуць аднолькава? Напрыклад, адносна прадказваньня, ці гавораць што-небудзь і Гомэр і Гэзіёдос?

*Іён:* Напэўна.

*Сакратас:* Дык як-жа? Хто вытлумачыў-бы ляпей падабенства і разыходжаньне адносна таго, што́ абодва

паэты гаварылі пра прадказваньне — ты ці хто-небудзь із добрых прадказальнікаў?

*Іён:* Хто-небудзь із добрых прадказальнікаў.

*Сакратас:* Калі-б ты быў прадказальнікам, і калі-б ты быў у стане вытлумачыць тое, штó сказана было аднолькава, дык гэтаксама ты ўмеў-бы вытлумачыць і тое, штó было сказана не аднолькава?

*Іён:* Ведама.

*Сакратас:* Як гэта дзеіцца, што сільным зьяўляешся ты адносна Гомэра, але ня гэткім, калі ідзе пра Гэзіёдоса і іншых паэтаў? Ці-ж не гаворыць Гомэр пра тыя самыя рэчы, пра якія гавораць усе іншыя паэты? Ці-ж ня кажа ён пераважна пра вайну і суадносіны людзей, добрых і дрэнных, простых і кемных у чым-небудзь; пра багоў, як яны зносяцца між сабою і зь людзьмі; пра тое, штó дзеіцца на небе і ў доме Гадэсу, і пра паходжаньне багоў і гярояў? Ці-ж ня гэта творыць зьмест паэзыі Гомэра?

*Іён:* Праўду кажаш, Сакратас.

*Сакратас:* А іншыя паэты, ці-ж не гавораць яны пра тое самае?

*Іён:* Так, Сакратас, яны гавораць, але ня гэтак, як Гомэр.

*Сакратас:* Як гэта? Горай?

*Іён:* Шмат горай.

*Сакратас:* А Гомэр ляпей?

*Іён:* Ведама, ляпей, на Зэуса.

*Сакратас:* Ці-ж ня гэтак найшляхэтнейшы дружа, Іён, калі, напрыклад, некалькі чалавек пачне гаварыць пра лік, і адзін ізь іх будзе гаварыць ляпей за іншых, дык хто-ж-небудзь адрозьніць таго, хто гаворыць ляпей?

*Іён:* Я думаю.

*Сакратас:* Ці будзе гэта той самы, каторы адрозьніць і тых, што гавораць дрэнна, а мо' іншы чалавек?

*Іён:* Я думаю, што гэты самы.

*Сакратас:* Ці ня той, хто беглы ў мастацтве рахаваньня?

*Іён:* Але́

*Сакратас:* Добра. Прымем, што некалькі чалавек дыскутуе, якая ежа карысная, і хто-небудзь зь іх будзе гаварыць ляпей, дык вы́разьніць дыскутуючага найляпей можа адзін чалавек, а дыскутуючага горш за ўсіх — другі, а мо' адзін і той самы чалавек вы́разьніць абодвух?

*Іён:* Ведама, што адзін і той самы чалавек.

*Сакратас:* Хто ён? І як яго завуць?

*Іён:* Лекар.

*Сакратас:* Затым, абагульняючы, мы можам сказаць, што заўсёды, калі многія гавораць пра адзін і той самы прадмет, дык адзін і той самы чалавек выразьніць, [*532*] хто кажа добра, а хто дрэнна. Або, той, хто не адрозьніць гаворачага дрэнна, зразумела, не адрозьніць і таго, хто гаворыць добра, калі яны гавораць пра адну і тую самую рэч.

*Іён:* Гэта ёсьць так.

*Сакратас:* Дык што-ж, адзін і той самы чалавек будзе ў стане вы́разьніць іх абодвух?

*Іён:* Але́.

*Сакратас:* Ты ўтрымліваеш, што і Гомэр, і іншыя паэты, у тым ліку і Гэзіёдос і Архілёхос, хоць і гавораць пра адно і тое самае, але не аднолькава: Гомэр гаворыць добра, а тыя — горай?

*Іён:* Так, я ўтрымліваю, і гэта ёсьць правільным.

*Сакратас:* Калі ты вырозьніваеш таго, хто гаворыць добра, дык мусіш ты выразьніць і таго, хто гаворыць горай, гэта значыць, што ты мог-бы распазнаць, што́ ён гаворыць горай.

*Іён:* Так, гэтак выглядае.

*Сакратас:* Тады, мой дружа дарагі, калі мы скажам, што Іён зьяўляецца добрым адносна Гомэра і добрым гэтаксама адносна іншых паэтаў, дык мы не памылімся, калі і сам ён згаджаецца, што адзін і той самы чалавек можа выступаць як добры судзьдзя ўсіх тых, што гавораць пра адну і тую самую рэч, аднак, бадай што ўсе па-

эты апяваюць адно і тое самае.

*Іён:* Дзе ляжыць прычына таго, Сакратас, што, калі хто-небудзь гаворыць пра іншага паэту, гэта ня будзіць маé ўвагі, ані зьяўляюся я ў стане што-небудзь вартаснае дадаць, я, звычайна, драмлю — але, няхай толькі хто-небудзь успомніць пра Гомэра, як я зараз-жа прачынаюся, праяўляецца ўвага, і я магу шматлікае сказаць?

*Сакратас:* Адносна гэтага ня трудна здагадацца, дружа мой. Бо-ж кажнаму ведама, што не з прычыны мастацтва і веды здольным ты зьяўляешся гаварыць пра Гомэра; бо, калі-б ты мог тварыць гэта з прычыны мастацтва: дык мог-бы ты гаварыць і пра ўсіх іншых паэтаў. Бо-ж паэтычнае мастацтва зьяўляецца адзінаю суцэльнасьцю. Ці-ж ня гэтак?

*Іён:* Так.

*Сакратас:* А калі возьмем якое-небудзь іншае мастацтва ў ягонай суцэльнасьці, дык ці-ж ня той самы спосаб разгляду можа быць тасаваны і адносна ўсіх мастацтваў. Ці не хацеў-бы ты, Іён, паслухаць, як я гэта разумею?

*Іён:* На Зэуса, Сакратас, і вельмі хачу! Мне асабліва прыемна слухаць вас, мудрацоў.

*Сакратас:* Я толькі і жадаю сабе, каб гэта было праўдаю, мой паважаны Іён! Але мудрымі зьяўляецеся барджджэй вы, рапсоды, артыстыя і тыя, чые творы вы апяваеце, я адно імкнуся гаварыць праўду, як просты чалавек толькі і можа быць заняты гэтым. Прыглядзься майму пытаньню: як простым і лёгкім яно ёсьць, і кажны можа зразумець мае словы, што, калі нехта возьме мастацтва ў ягонай суцэльнасьці, дык разгляд астанецца тым самым для ўсіх мастацтваў. Вазьмем для прыкладу малярства. Ці існуе ў сваей суцэльнасьці мастацтва малярства?

*Іён:* Існуе.

*Сакратас:* Шмат было і астаецца маляроў-мастакоў, добрых і дрэнных?

*Іён:* Пэўна.

*Сакратас:* Ці бачыў ты каго-небудзь, хто здольным быў-бы паказаць, што́ ў малярстве Паліґнотоса, сына Аґляафона добрым ёсьць, а што́ не, а адносна іншых маляроў [*533*] не праявіў-бы гэткае здольнасьці? І, калі хто-небудзь займаецца творчасьцю іншых мастакоў, дык ён проста дрэмле, і ня можа выразіць ніякае заўвагі; але, калі ствараецца патрэба выказацца пра Паліґнотоса, або пра якога-небудзь іншага аднаго мастака, якога ты можаш выбраць, ён раптам прабуджваецца, стаецца ўважным і знаходзіць многае сказаць?

*Іён:* Не, на Зэуса, гэткага я ня бачыў.

*Сакратас:* Ну, а калі гутарка зойдзе пра скульптуру: ці бачыў ты каго-небудзь, хто выявіў-бы здольнасьць ацаніць вартасьць творчасьці Дайдалёса, сына Мэціёна, або, Эпэйёса, сына Панопэуса, або Тэодо́раса з Самосу, ці каго-небудзь зь іншых скульптураў, а творчасьць іншых разьбяроў астаецца для яго недаступнай, і ён дрэмле, ня ведаючы, што́ сказаць?

*Іён:* Не, на Зэуса, ніколі я ня бачыў гэткага.

*Сакратас:* Гэтаксама, думаю я, калі гутарка ідзе пра ігру на флейце, або на ліры, або пяяньне пад гукі ліры, або пра мастацтва рапсодаў, ніколі ня бачыў ты чалавека, здольнага гаварыць пра Олімпоса, пра Таміраса, пра Орфэуша або пра Фэміёса, ітакійскага рапсода, а вось, слухаючы Іёна эфэсца, дранцьвее не́ма і ня можа сьцяміць, што́ ў ягоным пяяньні добрае, і што́ дрэннае.

*Іён:* Я не магу тут запярэчыць табе, Сакратас. Але аднае рэчы я зьяўляюся сьведамым, што пра Гомэра я гавару ляпей за ўсіх, і маю што́ сказаць, так, што ўсе іншыя пацьвярджаюць, што я гавару добра, але пра іншых не. Вось і паўзірайся, што гэта значыць.

*Сакратас:* Я бачу, мой дарагі Іён, і зараз вытлумачу табе, што́ гэта па-мойму значыць. Фактычна, як я ўжо і сказаў, гэта ня ёсьць мастацтва ў табе, што пазваляе гаварыць добра пра Гомэра; не, гэта нейкая боская сіла,

якая валодуе табою і дзейнічае, быццам як у тым камяньні, які Эўрыпідэс назваў Магнітным, а звычайна называецца гэраклейскім. Камень гэты прыцягвае жалезныя кольцы, і ня толькі гэта, ён перақазвае гэтую самую сілу наступным кольцам, так, што яны могуць рабіць тое самае, штó чыніць сам камень, гэта значыць, прыцягваць іншыя кольцы, і гэткім чынам часамі атрымліваецца вельмі доўгі ланцуг гэтых кольцаў, і ўся сіла ў іх залежыць ад таго аднаго каменьня. Гэтаксама і Муза, яна ня толькі натхняе людзей, але праз гэтых напаўняе натхненьнем іншых. Усе добрыя эпічныя паэты не з прычыны мастацтва твораць свае прыгожыя паэмы, але толькі, калі знаходзяцца ў стане натхненьня і апанаваньня; гэтаксама і добрыя лірычныя паэты; падобна, як карыбанты танцуюць у няпрытомнасьці, [534] гэтак і яны ў няпрытомнасьці твораць свае прыгожыя песьні; калі іх агорне гармонія і рытм, яны становяцца бакхантамі і апанаванымі; падобна, як бакханткі ў хвіліну апанаваньня чэрпаюць з рэкаў малако і мёд, а пры сьведамасьці — ня чэрпаюць, гэтаксама здараецца і з душою лірычных паэтаў, як яны самыя даюць сьведчаньне гэтаму. Як ведама, і паэты кажуць нам, што яны лётаюць, як пчолы, і зносяць нам свае песьні, сабраныя ля крыніцаў, аціякаючых мёдам у садох і гаях Музаў. І яны кажуць праўду: Бо паэта — гэта лёгкае існаваньне, акрыленае і сьвятое, і не пачне тварыць да тае пары, пакуль не агорне яго натхненьне і ня станецца няпрытомным і ня будзе ў ім болей сьведамасьці. І як доўга гэтая ўласнасьць [— сьведамасьць] астаецца, ніхто не зьяўляецца ў стане аддацца паэтычнай творчасьці або прадказваць аракул. Не з прычыны мастацтва, затым, яны выказваюць паэзыю і многа кажуць прыгожага пра розныя рэчы — як твае выказваньні пра Гомэра — не з прычыны мастацтва, але з прычыны божага насланьня, і кажны можа добра гаварыць тое толькі, на штó яго навяла Муза: адзін — дытырамбы, іншы — энкоміі, яшчэ іншы — гіпорхэмы,

гэты — эпічныя паэмы, а той — ямбы; у іншых-жа рэчах кажны зь іх чуецца слабым. Бо не з прычыны мастацтва выражаюць яны гэта, але з прычыны божае сілы: калі-б яны, дзякуючы мастацтву, маглі добра гаварыць аб адным, дык маглі-б гаварыць і пра ўсе іншыя рэчы. Затым вось Бог і адбірае ў іх розум і чыніць іх сабе падданымі, вяшчунамі і боскімі прадказальнікамі, каб мы, слухаючы іх, ведалі, што гэта не яны, — бо іхная сьведамасьць не ўласьціва тады ім, — гавораць гэтакія каштоўныя рэчы, але гэта сам Бог гаворыць праз іх і падае нам свой голас. Як вельмі сільны доказ гэтага пагляду, зьяўляецца Ціньніхос халькідзеец, які не стварыў ніякага годнага нашае ўвагі верша, за выняткам гымну пахвалы, які ўсе пяюць, і гэта бадай што найпрыгажэйшы гымн з усіх ведамых нам. Гэта быў проста нейкі, — як ён сам выражаецца аб гэтым, — „вынахад Музаў“. Тут найболей за ўсё, як я думаю, Бог паказаў нам, па-за межамі ўсякага сумліву, што гэтыя прыгожыя вершы не зьяўляюцца людзкім творам і не да людзей належаць, але, што яны боскія і належаць да Бога, а паэты — нішто іншае, як паясьняльнікі Бога і кажны апанаваны Богам, які валодуе ім. І, каб давесьці гэта, Бог знарок вуснамі слабога паэты прапяяў найболей прыгожыя песьні. Ці ня думаеш ты, Іён, што я кажу праўду? [535]

*Іён:* На Зэуса, як мне здаецца, ты праўду кажаш. Твая гутарка дакранаецца да мае душы, Сакратас! І мне выдаецца, што гэта боскае насланьне чыніць добрых паэтаў здольнымі пераказваць нам гэтыя рэчы.

*Сакратас:* Ці-ж ня вы, рапсоды, са свае стараны, пераказваеце творы паэтаў?

*Іён:* І тут ты праўду кажаш.

*Сакратас:* Затым вы зьяўляецеся пераказчыкамі пераказчыкаў?

*Іён:* Бяз сумліву.

*Сакратас:* Тады хадзі, і скажы мне, Іён, і не хавай ад мяне таго, штó я хачу запытаць цябе. Калі ты прыгожа

дэклямуеш твор і ўводзіш у захопленьне сваіх слухачоў, магчыма тады, калі ты апяваеш Одысэуша, як ён ускаквае на парог і, выяўляючыся жаніхом, высыпае сабе пад ногі стрэлы, або як Ахільлес кінуўся на Гэктора, або адну з кранаючых сэрца сцэнаў пра Андромаху, пра Гэкубу, або Прыяма, — вось тады, як дэклямуеш, — ці зьяўляешся ты тады пры ўсей сваей сьведамасьці, а мо' забываешся пра самога сябе да такое ступені, што тваей душы, у хвіліну натхненьня, здаецца, што яна гэтаксама там, дзе адбываюцца здарэньні, пра якія ты гаворыш, — на Ітацы, у Троі ці дзеколечы на іншым месцы як у творы выпадае?

*Іён:* Які выразны доказ перада мною паставіў ты, Сакратас! І гэтага я ня сукрыю перад табою і адкажу. Калі я выконваю што-небудзь журботнае — вочы ў мяне поўныя сьлёзаў, а калі што-небудзь страшнае і грознае — валасы ўздымаюцца дыбам ад жаху і сэрца б'ецца.

*Сакратас:* Дый што-ж, Іён? Маем-жа мы сказаць, што чалавек знаходзіцца ў поўнай сьведамасьці, каторы, выстраіўшыся ў шматколерную вопратку і, узлажыўшы залаты вянок, пачне плакаць у часе складаньня ахвяраў і ўрачыстасьці, нічога ня губячы са свае пышнасьці, ці ў васяродзьдзі звыш дваццаці тысяч прыхільна настроеных людзей пачне адчуваць жах, калі ніхто не абірае яго і ня крыўдзіць?

*Іён:* Не, Сакратас, на Зэуса, зусім не, калі ма́ю я сказаць праўду.

*Сакратас:* Ці ведаеш ты, што вы рапсоды, многіх з пасярод гледачоў прыводзіце да гэтага?

*Іён:* Ведаю, і вельмі добра ведаю. Кажны раз з узьверху сцэны я бачу, як слухачы плачуць і з жахам узіраюцца і дзівяцца ў залежнасьці ад выказванага мною. Дый павінен я ўважна сачыць за імі: бо, калі я змушу іх плакаць, дык я сам буду сьмяяцца, бо праз гэта я атрымліваю грошы; а, калі змушу іх сьмяяцца, тады сам буду плакаць з прычыны страчаных грошай.

*Сакратас:* Зьвярні ўвагу цяперака, што гэты глядач зьяўляецца апошнім з тых зьвеньняў, якія, як я казаў, атрымліваюць адно ад другога сілу з гэраклейскага каменьня. Сярэднім сузьвеньнем зьяўляешся ты, (рапсод і артысты, першым — сам паэта). Але Бог, пасілкуючыся вамі, *(536)* схіляе душу куды яму да спадобы, пераказваючы сілу праз аднаго да другога. І гэтак, як ад таго вунь каменьня, цягнецца доўгі ланцуг харыстых і вучыцялёў зь іхнымі ўспаможнікамі, якія зноў-жа трымаюцца на ўзбоччы зьвеньняў, злучаных Музаю. І адзін паэта залежыць ад гэтае, а іншы ад іншае Музы. Мы называем гэта „апанаваны“, і гэта, фактычна, ёсьць тое самае, бо-ж Муза заўсёды трымае яго. Ад гэтых першых зьвеньняў — паэтаў, знаходзяцца ў залежнасьці іншыя натхнёныя: адны ад Орфэуша, іншыя ад Мусайёса; аднак бальшыня зь іх апанаваная Гомэрам, інакш кажучы, ён трымае іх. І ты зьяўляешся адным ізь іх, Іён, Гомэр і цябе трымае. Калі хто-небудзь выконвае ў хворме пяяньня творы іншага паэты, ты проста дрэмлеш і ня маеш нічога сказаць; але, няхай хто-небудзь пачне апяваць твайго паэту, як ты зараз-жа ажываеш, твая душа танцуе і ты можаш многа да гэтага сказаць. Бо нё з прычыны мастацтва ці веды гаворыш ты тое, што́ кажаш пра Гомэра, але з прычыны божага насланьня і апанаваньня, падобна, як карыбанты, якія чутка асэнсоўваюць толькі напеў, што зыходзіць ад бога, якім яны апанаваныя, і з гэтае прычыны яны выяўляюць багацьце рухаў цела і словаў, а на другіх наагул не зьвяртаюць увагі: гэтак і ты, Іён, калі хто-небудзь успомніць пра Гомэра, ведаеш, што́ сказаць, а пра другіх зусім нічога. І прычына гэтага, аб чым ты вось мяне пытаешся, пайменна: — чаму ты пра Гомэра ведаеш, а пра другіх не, — ляжыць у тым, што ты не з прычыны мастацтва, але з прычыны божага насланьня зьяўляешся моцным у пахвалах для Гомэра.

*Іён:* Вельмі трапна гаворыш ты, Сакратас; аднак я

быў-бы зьдзіўленым, калі-б табе ўдалося пераканаць мяне, што я выслаўляю Гомэра ў стане апанаваньня і няпрытомнасьці. Я гэтаксама думаю, што і табе не здавалася-б гэтак, калі-б ты пачуў, як я выражаюся пра Гомэра.

*Сакратас:* Пэўна, што я пачую цябе, але не раней, чымся ты адкажаш на вось якое маё пытаньне: пра што, перадусім, із таго, што́ гаворыць Гомэр, гаворыш ты добра? Не пра ўсё-ж, я думаю?

*Іён:* Будзь пэўны, Сакратас, што пра ўсё бяз вынятку.

*Сакратас:* Аднак-жа не пра тое, чаго ты ня ведаеш, а Гомэр усё-ж гаворыць.

*Іён:* І што-ж гэтым ёсьць, аб чым Гомэр гаворыць, а я ня ведаю?

*Сакратас:* Ці-ж ня кажа Гомэр часта і ў шматлікіх [537] мясцох пра розныя мастацтвы? Напрыклад, пра тое, як весьці калёсьніцу, — зараз скажу табе, як толькі прыпомню словы.

*Іён:* Я скажу, я памятаю.

*Сакратас:* Тады скажы мне, што́ кажа Нэстор свайму сыну Антылёхосу, калі ён напамінае яму быць уважным на паваротах пры спаборніцтве калёсьніцаў у часе паховінаў Патроклёса.

*Іён:*

***Сам-жа ў калёсьніцы сьплеценай моцна трымайся і горда***
***Зь лёгкім нахілам налева; каня, што пад правай рукою,***
***Крыкам гані, бізуном, а ляйгыны нацягвай нямоцна.***
***Конь, што на левым баку, каля самае мэты няхай абагнецца***
***Так, каб здалося, што кола навокал яе паўдугу апісала***
***Рантам калодкі. Аднак-жа, глядзі, ня ўдырся аб камень!***

*Сакратас:* Гэтага даволі. Вось тут, Іён, ці Гомэр правільна кажа ці не, хто з двох будзе ляпей разумець, лекар ці калёсьнік?

*Іён:* Ведама, што калёсьнік.

*Сакратас:* Ці затым, што ён апанаваў гэтае мастацтва, ці зь якое-небудзь іншае прычыны?

*Іён:* Не, затым, якраз, што ён мае гэтае мастацтва.

*Сакратас:* Ці ня ёсьць гэта кажнаму мастацтву дадзеным ад Бога ведаць нейкую апрычоную дзейнасьць? Для прыкладу, тое, што́ мы пазнае́м, апанаваўшы мастацтва стырнічага, мы ня можам пазнаць, вывучыўшы мастацтва лекара.

*Іён:* Ведама, што не.

*Сакратас:* А тое, што́ пазнае́м праз мастацтва лячэньня, не пазнае́м праз мастацтва будаўніцтва?

*Іён:* Ведама, што не.

*Сакратас:* Ці ня маецца тут рэч гэтак з усімі мастацтвамі, што, тое, што́ мы пазнае́м у вадным мастацтве, мы не пазнае́м у іншым? Але, перадусім, адкажы мне на гэта: Ці згаджаешся ты, што існуюць розныя мастацтвы?

*Іён:* Так.

*Сакратас:* Ці ты гэтаксама адрозьніваеш, што адно мастацтва зьяўляецца веданьнем адных рэчаў, а іншае — іншых?

*Іён:* Але́.

*Сакратас:* Бо, калі-б гэтае і іншае мастацтва было веданьнем адных і тых самых рэчаў, дык дзеля чаго патрэбным было-б называць адно мастацтва так, а іншае гэтак, калі адно і тое самае можна было-б пазнаць, вывучаючы адно із двох. Напрыклад, я ведаю, што існуе пяць пальцаў, і гэтаксама як я ведаю, і ты ведаеш; і, калі-б цяперака я запытаў цябе, ці ня пры помачы таго самага мастацтва, пайменна, рахаваньня, даведваемся пра адно і тое самае, і я і ты, а мо' пры помачы нейкага іншага мастацтва, дык ты-ж напэўна адказаў-бы, што пры помачы аднаго і таго самага.

*Іён:* Так.

*Сакратас:* І вось тое, што́ я хацеў-бы цябе [*538*] запытаць, скажы мне цяперака: Ці ня думаеш ты, што гэтак бывае з усімі мастацтвамі наагул: дарогаю вывучэньня

аднаго мастацтва, пазнае́м адну рэч, а вывучаючы іншае — пазнае́м ня тое самае, а нешта ўжо другое, ведама, калі само мастацтва зьяўляецца іншым?

*Іён:* Так, мне гэтак здаецца, Сакратас.

*Сакратас:* Зноў-жа, калі хто-небудзь ня будзе мець сьведамасьці ў дадзеным мастацтве, дык ён ня будзе ў стане добра ведаць аб чым гаворыцца, або што́ чыніцца ў гэтым мастацтве?

*Іён:* Праўду кажаш.

*Сакратас:* Хто будзе ляпей ведаць, ці правільна кажа Гомэр у тых вершах, якія ты толькі што зацытаваў: ты ці калёсьнік?

*Іён:* Калёсьнік.

*Сакратас:* Бо-ж ты рапсод, а не калёсьнік.

*Іён:* Так.

*Сакратас:* Мастацтва рапсода розьніцца ад мастацтва калёсьніка?

*Іён:* Але́.

*Сакратас:* А калі яно розьніцца, дык яно зьяўляецца ведаю іншых рэчаў?

*Іён:* Так.

*Сакратас:* А вось, калі Гомэр гаворыць пра тое, як Гэкамэда, наложніца Нэстора, падае́ раненаму Махаёну піцьцё, і тады ён прыблізна гэтак кажа:

*...зрабіла*
*Сумесь з прамнійскім віном, і нацерла казінага сыру*
*Рашпілем медным, цыбулей закусваць піцьцё*
*запрасіла, —*

дык, каб даведацца, правільна гаворыць Гомэр ці не, патрэбна мэдычнае мастацтва, ці мо' хопіць мастацтва рапсода?

*Іён:* Мэдычнае.

*Сакратас:* А калі Гомэр кажа:

*Цяжка яна патанула ў бяздоньні, як волава тоне,*
*Што між рагамі вала прымацована грузьне ў водах: —*

*Рыбам кваплівым у моры зьнішгэньне нясугы з сабою,—*

дык як мы адкажам на гэта, якое мастацтва — рыбалова ці рапсода — тут найляпей скеміць, што́ ён гаворыць, і, наагул, правільна ён кажа ці не?

*Іён:* Ясна, Сакратас, што мастацтва рыбалова.

*Сакратас:* Вазьмі пад увагу вось што: — прымем, што ты, пытаючыся мяне, кажаш: „Калі ты, Сакратас, знаходзіш у Гомэра тое, што́ належыць да веданьня кажнага із мастацтваў, дык знайдзі мне і для прадказальніка і для ягонага мастацтва нешта такое, пра што яму трэба выдаць ацэну — добры ці дрэнны гэты твор“ — вазьмі пад увагу, як лёгка і правільна я табе адкажу. Гомэр часта гаворыць і ў „Одыссэі“, — для прыкладу, тое, што́ гаворыць жаніхам прадказальнік і нашчадак з роду Мэлямпосавага, Тэоклімэнос:

*Бедныя душы, якое дазналі вы гора? У процьме* [539]
*Голавы вашы і ногі нябагнымі сталі для вока;*
*Стогн мне гуцён ваш, сьлязамі абмурзаны вашыя твары;*
*Зданьмі, што ў вотхлань пякельну бягуць, напаўняюцца сенцы,*
*Двор, а на сонцы нябесным зьяўляюцца вешгыя плямы,*
*Крыюць сабою якія у змроку усё ад спазору.*

Існуюць лічныя месцы і ў „Іліядзе“, напрыклад, у „Бітве пад сьценамі“, дзе Гомэр кажа:

*Птушка над імі зьявілась, як роў перайсьці намагліся,*
*Зьлева наўзьверху нябёсаў відзён быў арол поўнаўладны,*
*Нёс ён вялікага вужа у кіпцях, залітых крывёю.*
*Вуж яшгэ жыў і выкругваўся, біцца яшгэ не пакінуў—*
*Сілаю выгнуўся ўзад, супраціўніка ў грудзі ужаліў;*
*Вострым пранізаны болем, арол у вадгаі адкінуў*
*Вужа, што ўпаў на зямлю між радамі адважных*

*жаўнераў,*
*Сам-жа з пранізьлівым крыкам падаўся із подыхам ветру.*

Гэтыя і іншыя падобныя рэчы, я сказаў-бы, трэба прадказальніку разва́жыць і вырашыць.

*Іён:* Праўду ты кажаш, Сакратас.

*Сакратас:* Гэтаксама і ты кажаш вельмі праўдзіва, Іён. Хадзі, і гэтак, як я табе выбраў з „Одыссэі“ і „Іліяды“ тое, што́ адносіцца да прадказальніка, да лекара і да рыбалова, гэтаксама і ты, Іён, — бо-ж ты болей дасьведчаны ў Гомэры, — выбяры мне тое, што́ адносіцца да мастацтва рапсода і што́ трэба рапсоду разва́жыць і вырашыць у першую чаргу перад усімі людзьмі.

*Іён:* Я ўтрымліваю, Сакратас, што ўвесь Гомэр.

*Сакратас:* О, як гэта, паважаны Іён, усё? Ці-ж ты ўжо ня памятаеш? Пэўна, рапсод ня можа мець дрэннае памяці.

*Іён:* Што-ж я забыў? [*540*]

*Сакратас:* Ці-ж ня памятаеш ты, як казаў ты, што мастацтва рапсода зьяўляецца іншым у параўнаньні да мастацтва калёсьніка?

*Іён:* Памятаю.

*Сакратас:* Ці-ж не згадзіўся ты, што, калі яно іншае, дык і іншай будзе галіна ягонага веданьня?

*Іён:* Так.

*Сакратас:* Дык, паводля тваіх уласных словаў, ня ўсё будзе ўваходзіць у галіну веданьня рапсода і ягонага мастацтва.

*Іён:* Апрача, магчыма, вось гэтакіх рэчаў, Сакратас.

*Сакратас:* Называючы „гэтакія рэчы“, ты разумееш, мусіць, усё, тое, што́ адносіцца да іншых мастацтваў? А калі ня ўсё, дык што-ж будзе разумець рапсод?

*Іён:* Будзе разумець што́ ўласьцівым ёсьць сказаць мужчыне, а што́ жанчыне, што́ нявольніку, а што — свабоднаму, што — падуладнаму, а што — загадваючаму.

*Сакратас:* А якія загады павінен даць чалавек на адказным становішчы, калі на моры вадаплаў засьпее бура? Ці думаеш ты, што рапсод будзе ведаць ляпей, чымся стырнік?

*Іён:* Не, ляпей будзе ведаць стырнік.

*Сакратас:* І якія загады трэба выдаць адносна хворага чалавека, рапсод будзе ведаць ляпей, чымся лекар?

*Іён:* І гэтага не.

*Сакратас:* Аднак ты кажаш, што ён ведае, што́ нявольнік павінен казаць?

*Іён:* Так.

*Сакратас:* Прымем, што нявольнік зьяўляецца валапасам, і ягонае стада быкоў спудзілася і ён хоча ўціхамірыць іх, дык як ты думаеш, хто будзе ведаць, што́ зрабіць, рапсод а не валапас?

*Іён:* Напэўна, не.

*Сакратас:* Або тое, што́ павінна сказаць папрадуха, якая прадзе воўну?

*Іён:* Не.

*Сакратас:* А мо' рапсод будзе ляпей ведаць, што павінен казаць стратэг, які падбадзёрвае ваяроў?

*Іён:* Так, гэта рапсод будзе ведаць.

*Сакратас:* Як гэта? Мастацтва рапсода такое самае мастацтва, як і стратэга?

*Іён:* Што найменей, я ведаў-бы, што́ належыць гаварыць стратэгу.

*Сакратас:* Магчыма, што ты, Іён, маеш у сабе нешта з мастацтва стратэга. Калі-б ты, скажам, быў уяжджальнікам коней і адначасна ўмеў граць на ліры, гэта значыць, што ты распазнаваў-бы добра і дрэнна выежджаных коней, а я запытаў-бы цябе, дзякуючы якому мастацтву ты, Іён, распазнаеш добра выежджаных коней? Ці дзякуючы гэтаму самаму мастацтву, пры помачы якога ты стаўся ўяжджальнікам коней, ці гэтаму, дзякуючы якому ты граеш на ліры? І што-б ты адказаў на гэта?

*Іён:* Дзякуючы гэтаму мастацтву, пры помачы якога

я стаўся ўяжджальнікам коней, сказаў-бы я.

*Сакратас:* А калі-б ты выразьніў тых, што добра граюць на ліры, дык ты згадзіўся-б з тым, што чыніш гэта пры помачы таго мастацтва, дзякуючы якому ты зьяўляешся лірнікам, і зусім не затым, што ты — уяжджальнік коней?

*Іён:* Так.

*Сакратас:* А калі ты ведаеш тое, што́ належыць да ваеннага мастацтва, дык ці ня дзеіцца гэта пры помачы таго мастацтва, дзякуючы якому ты зьяўляешся сьведамым стратэгам, — а можа, дзякуючы таму, што зьяўляешся ты добрым рапсодам?

*Іён:* Як мне здаецца, тут няма розьніцы.

*Сакратас:* Як гэта — няма розьніцы? [*541*] Думаеш ты, што мастацтва рапсода і мастацтва стратэга — гэта адно мастацтва ці два?

*Іён:* Я думаю, што адно.

*Сакратас:* Затым добры рапсод зьяўляецца гэтаксама добрым стратэгам?

*Іён:* Абавязкава, Сакратас.

*Сакратас:* Тады з гэтага выходзіць, што добры стратэг зьяўляецца гэтаксама добрым рапсодам?

*Іён:* Не, гэтак я ня думаю.

*Сакратас:* Але ты думаеш, што добры рапсод зьяўляецца добрым стратэгам?

*Іён:* Ведама.

*Сакратас:* Добра, зьяўляешся ты лепшым рапсодам сярод гэльленаў?

*Іён:* І шмат, Сакратас.

*Сакратас:* Дык і стратэгам лепшым зьяўляешся ты сярод гэльленаў, Іён?

*Іён:* Так, Сакратас, і ведай, што навучыўся я гэтага ў Гомэра.

*Сакратас:* На нябёсы, мой паважаны Іён, чаму-ж у такім выпадку, калі ты адначасна лепшым рапсодам і лепшым стратэгам сярод гэльленаў зьяўляешся, чаму-ж

толькі пяеш, падарожнічаючы сярод гэльленаў, а не праяўляеш дзейнасьці стратэга? Няўжо ты думаеш, што ўвенчаны залатым вянком рапсод вельмі патрэбны грэкам, а стратэг — не патрэбны?

*Іён:* Прычына гэтага, мой дарагі Сакратас, знаходзіцца ў тым, што нашае места Эфэз знаходзіцца пад вашаю ўладаю і ваенным надзорам і дзелягэтага не патрабуе стратэга, а вашае места і места лякедаймонцаў ня выбяруць мяне на становішча стратэга, бо-ж вы ўважаеце, што і самі сабе даеце рады.

*Сакратас:* О, добры мой Іён, ці ня ведаеш ты Апольлёдороса з Кізікосу?

*Іён:* Якога гэта?

*Сакратас:* Гэтага, якога атэнцы некалькі разоў выбіралі сабе на становішча стратэга, ня гледзячы на тое, што ён чужынец. Гэтаксама і Фаностэнэса з Андросу і Гэраклейдэса з Клязомэны, якія хоць і зьяўляюцца чужынцамі, але выявіліся быць годнымі весьці стратэгію места і быць узьнятымі на іншыя становішчы. І чаму-ж, тады, места нашае ня выбярэ Іёна з Эфэзу на становішча стратэга і не ўшануе яго гэтым гонарам, калі ён акажацца вартым гэтага? Чаму? Ці-ж вы, эфэзцы, не зьяўляецеся атэнцамі з давен-даўна, або Эфэз меней значны ад якога-небудзь іншага места? Але, мой паважаны Іён, калі ты праўду кажаш, што, дзякуючы мастацтву і веданьню, ты здольным зьяўляешся выслаўляць Гомэра, дык ты чыніш несправядлівасьць, бо ты асьведчыў мне, што ты ведаеш вялікую колькасьць добрых рэчаў пра Гомэра, і ты прырок паказаць мне гэта, але нічога падобнага ня чыніш. Ты нават ня хочаш сказаць мне аб гэтым, у чым ты чуешся моцным. Замест гэтага, ты проста як новы Протэуш, выкручваючыся ўва ўсе стораны, прыймаеш featureнародныя постаці і, у выніку, ухіляешся ад мяне, выступаючы нават стратэгам, каб толькі не паказаць, наколькі ты зьяўляешся мудрым адносна Гомэра. [*542*] Калі ты зьяўляешся мастаком, і прырок

мне выявіць сваё мастацтва адносна Гомэра, а пасьля зводзіш мяне, як я сказаў толькі што, дык ты ашукваеш мяне і чыніш несправядлівасьць. Але, калі ты не зьяўляешся мастаком, адно толькі праз божае насланьне праз Гомэра, выказваеш многа прыгожых рэчаў адносна гэтага паэты, нічога ня ведаючы, як я ўжо сказаў табе, дык ты ні ў чым невінаваты. Затым выбяры, — за каго-б ты хацеў, каб мы ўважалі цябе: за несправядлівага чалавека ці боскага?

*Іён:* Гэта вялікая розьніца, Сакратас! Бо-ж болей прыгажэй быць уважаным за боскага!

*Сакратас:* Вось гэта — нешта болей прыгожае — і астанецца ў нас адносна цябе, Іён; ты зьяўляешся боскім, а не мастаком, калі ты аддаеш пашану Гомэру.

Бач. 17. *Апольлёдорос.* — Пра Апольлёдороса, у вусны якога Плятон уклаў апавяданьне пра банкет, які меў месца ў доме трагічнага паты Аґатона, ведаем толькі, што быў ён гарачым і верным староньнікам Сакратаса [173], (гл. гэтаксама, Ксэнофонт, „Абарона Сакратаса", 28). Са свае стараны, сам Апольлёдорос перaказвае толькі тое, што ён чуў ад іншага вернага староньніка Сакратаса — Арыстодэмоса.

Бач. 17. *...ў Фаляроне...* — Фалярон (Φάληρον, Phalerum, згэтуль — Φαληρόθεν) — адзін із портаў Атэнаў, пайменна — заходні, галоўна ўжываны ў часе перад Пэрскаю вайною.

*...вягэру, якая мела месца ў Аґатона...* — Аґатон — атэнскі трагічны паэта, жыў прыблізна ў гадох 450-400 п.н.э., прыяцель Эўрыпідэса і Плятона. Творы ягоныя не дайшлі да нас. Аґатон быў першым, які пісаў на ўяўленыя тэмы.

Бач. 18. *...Аґатон ужо многа гадоў як ня жыве тут?...* — Адносіцца гэта да 411-405 гадоў п.н.э., калі Аґатон на запросіны караля Архэляоса выяжджаў у Македонію.

*...калі Аґатон за першую сваю трагэдыю атрымаў нагароду...* — Дата гэтага здарэньня дакладна ведамая. Мела яно месца ў 416 г. п.н.э. ў часе спаборніцтва трагічных паэтаў, калі адна зь ягоных трагэдыяў была першы раз выстаўлена на драматычным фэстывалі ў Тэатры Дыянізоса, які знаходзіўся ў падножжа Акropолісу ў Атэнах і які зьмяшчаў 30.000 гледачоў.

*...са сваімі харэўтамі...* — Харэўт (Χορευτής) — удзельнік хору, выступаючага ў трагічным творы.

*...з Кідатэнаў...* — Кідатэны — атэнскі дэмос на поўдзень ад Акраполісу. (Дэмос — гр. δῆμος — акруга краіны, як супроцьстаўленьне полісу (πόλις) — месту.

Бач. 20. *...спаткаў Сакратаса — вымытага і ў сандалах, якіх ён не насіў гаста...* — Звычайна Сакратас не насіў абутку; тое, што ён цяперака быў адумысна апранутым, сьведчыла, што ён выбіраўся на банкет фармальна запрошаным.

*...і, зьменьваючы крыху выслоўе, давядзем, што „да добрых людзей на банкет, добры без запросінаў прыходзіць“.* — Тэкст манускрыпту носіць у сабе прыкметы ігры славаў: Αγάθων — імя ўласнае ад αγαθός — добры, і αγαθοί — добрыя. Само выслоўе праўдападобна гучэла: Калі прастакі ладзяць вячэру, шляхотна ўроджаныя ўваходзяць без запросінаў.

*...„Дзьве галавы“, нехта сказаў...* — У „Іліядзе“ (X, 224) чытаем: „Калі двох ідуць разам, адзін зь іх можа бачыць нагоду, якое іншы не спасьцерагае“.

Бач. 21. *...адзін з паслугоўваючых хлапцоў...* — Абслуга складалася з юнакоў, адпаведна падрыхтаваных да сваіх абавязкаў.

Бач. 22. *...Гэтакі ўжо ў яго звычай — адыйдзе кудынебудзь на бок і стаіць...* — Арыстодэмос тут барджджэй сьведчыць аб той павазе і глыбіні думкі, зь якою Сакратас аддаваўся філязафічным разважаньням. Гл. аналягічныя выказваньні Алькібіядэса на бач. 90.

*...І Аґатон, які ляжаў на ніжэйшым месцы,...* — На ніжэйшым месцы паводля годнасьці, зьлева направа. Гаспадар дому ўчыніў гэта з увагі на пашану для гасьцей. У Аґатона госьці знаходзіліся па адным на ложу, хоць, звычайна, узьлежвала па двух чалавек.

Бач. 23. *...ў прысутнасьці болей як трыццаці тысяч гэльленаў...* —Сакратас мае тут на ўвазе перамогу Аґатона ў часе драматычнага спаборніцтва ў Тэатры Дыянізоса.

*...узяўшы Дыянізоса за судзьдзю...* — Дыянізос або Бахус — бог віна і вясельля. Выражэньне тут ужыта ў сэнсе пераносным, г. зн. — калі вып'ем віна.

Бач. 24. *...Мэляніппа ў Эўрыпідэса...* — Цытата з трагэдыі Эўрыпідэса п.т. „Мэляніппа мудрая", якая толькі ў нязначных фраґмэнтах дайшла да нас.

*...укладаюгы іншым багам і гымны і трыумфальныя песьні...* — Гымны сярод старажытных грэкаў звычайна выконваліся пад гукі музычнага інструманту. Да трыумфальных песьняў належаў г.зв. пайан, (παιάν або παιών), які пераважна выконваўся пасьля бітвы на чэсьць Апольлёна, гэтаксама як і перад бітваю.

*Эрос* — у грэцкай міталёгіі бог любові (сэксуальнае). Для выражэньня любові, як міласэрдзьдзя, спагады, братэрства і духовае супольнасьці, грэкі ведалі слова (якое ўвайшло ў наш рэлігійны лексікон) αγάπη — аґáпа.

Бач. 25. *Афродыта* — у грэцкай міталёгіі — багіня прыгожасьці і любові.

Бач. 26. „*...Шырокагрудая Гэя...*" або шырокагрудая Маці-Зямля — Гэзіёдос — „Тэоґонія", 116, (Θεογονία, ґэнэрацыя або ґэнэалёгія багоў).

*Гэзіёдос* — ведамы старажытны грэцкі паэта раньняе пары ў месьце Аскра на гары Гэлікон у Бэотыі. Рэпрэзэнтуе ён г.зв. Бэоцкую школу паэзыі, падобна, як Гомэр — Іёнскую.

*Акузіляос* — паводля адных — гісторык з часу сівае старажытнасьці; іншыя ўтрымліваюць, што быў ён пісьменьнікам і паэтам. Пісаў пра паходжаньне багоў у творы п. т. „Ґэнэалёґія", зь якое захаваліся толькі нязначныя выняткі.

*Пармэнідэс* — грэцкі філёзаф, паходзіў з Элеі ў Маґна Грэцыі або грэцкай калёніі ў Ніжняй ці паўдзённай Італіі. Заснаваў ён Элейскую школу філязофіі, на чале якой пасьля яго стануў ведамы Зэно. Народжаны каля 513 г. п.н.э.; у 448 г. п.н.э., калі ён быў у 60-х гадох

свайго жыцьця, адведаў Атэны, што стварыла нагоду для філёзафа Сакратаса, тады яшчэ маладога чалавека, чуць яго прамаўляючага. Пармэнідэс пашыраў свой філязафічны пагляд у форме вершаванай. Захаваліся большыя фраґмэнты зь ягонае філязафічнае паэмы п.т. „Пра натуру", у якой выяўляў ён рэальнасьць Абсалютнага або Праўдзівага Існаваньня.

Бач. 27. *...Гомэр кажа...* — „Іліяда", X, 482; „Одысэя", IX, 381.

*...Алькесьціс, дачка Пэліяса...* — Тут Файдрос пераказвае вэрсыю, пачэрпнутую ім з міталёгіі, паводля якой багі звольнілі з Гадэсу душу Алькесьціс, „захапіўшыся яе прыгожым чынам". Эўрыпідэс у трагэдыі п.т. „Алькесьціс", напісанай ім у 438 г. п.н.э., падае іншы вар'янт гэтага самага здарэньня.

Бач. 28. *Гэктор* — старшы сын Прыяма і Гэкубы, галоўны гярой траянцаў, забіты Ахільлесам.

*Орфэуш,* — сын Ойаґроса — містычная постаць, уважаны сярод грэкаў за найбольшага паэту перад Гомэрам. У грэцкай міталёгіі пяюн, які сваім пяяньнем ачароўваў людзей, дзікіх зьвераў, дрэвы і скалы.

*...Айсхілёс баіць казку...* — у не дайшоўшай да нас трагэдыі п.т. „Мірмідонцы" (Μυρμιδόνες).

*Ахільлес* — галоўны гярой паэмы Гомэра „Іліяда", адзін з галоўных правадыроў грэцкіх пад Трояй. Паводля міталёгіі, ягонае цела было абясьпечанае ад фізычных пашкоджаньняў, і толькі нанесеная рана ў пяту магла спрычыніць сьмерць. Згэтуль выслоўе — „Ахільлесавая пята" — як слабая, у сэнсе маральным, старана чалавека.

Бач. 29. *...існуюць дзьве Афродыты...* — старшая і малодшая. Старшая зроджаная з морскае пены — дачка Ураноса; малодшая радзілася ад Зэуса і Дыёны.

Бач. 33. *...багі даруюць нарушэньне зароку толькі закаханаму,...* — Характэрна, што выражаная тут думка ня

згубіла свае важнасьці аж да нашага часу.

Бач. 36. *...Зрабі гэта пару разоў і яна напэўна міне...* — рада Эрыксімахоса, як пазбыцца ікаўкі, падаецца ў духу выказваньняў тагачаснага ведамага лекара Гіппакратаса — Бацькі мэдыцыны. („Афарызмы“, Сэкцыя VI, афарызм 13).

Бач. 42. *...назоў, які цяперака ўжываецца людзьмі як зьняважлівая мянюшка — андроґіны...* — або мужчына-жанчыны (з гр. карэньняў ανδρ і γυνή).

*...Гомэр кажа пра Отоса і Эфіяльтэса...* — „Іліяда“, V, 385 і наст., і „Одыссэя“, XI, 305 і наст.

Бач. 50. *...„Падобнае да падобнага імкнецца“...* — Парафраза думкі Гомэра, выражанае ў „Одыссэі“, XVII, 218.

*...неабходнасьць...* — Неабходнасьць у грэкаў увасаблялася боскасьцю.

*...Гомэр кажа...* — „Іліяда“, XIX, 92.

Бач. 52. *...нават сам Арэс ня можа зьмерыцца...* — Арэс — бог вайны. Цытата з Сафоклесавае згубленае трагэдыі п. т. „Тыэстэс“, Фраґмэнт 235, N.

Бач. 53. *...у мастацтве „кіраваньня людзьмі і багамі“...* — Цытата з Эўрыпідэсавае не дайшоўшае да нас трагэдыі п. т. „Стэнэбэя“, Фраґмэнт 663, N.

Бач. 54.

*...Шле ён людзям супакой і заціша над морам глыбокім,*
*Віхру суворага моўкнасьць і сон бястурботны у ногы...*

Параўнай, „Одыссэя“, V, 391.

Бач. 55. *Ґорґіяс* — зь Леантыну, радзіўся каля 480 г., памер у 376 г. п.н.э. Ведамы грэцкі сафісты і красамоўца. Адзін з дыялёгаў Плятона названы ягоным імем. Ягоныя творы не дайшлі да нас, за выняткам двух дэкламацыяў і трох прамоваў.Тут Сакратас чыніць алюзыю да таго, што ў завяршэньні свае прамовы Аґатон быццам затасаваў г.зв. „фігуры Ґорґіяса“ — пэрыяды рытмікі

ў пабудове мовы, як і сугучнасьці... Далей, Сакратас тасуе гру словаў, вынікаючую з падабенства імёнаў: Ґоргіяс і Ґорґон. Імя Ґорґон узята ў Гомэра („Одыссэя", XI, 627 і наст.). На спазор галавы жахлівага страшыдлы Ґорґона людзі абярталіся ў каменьне.

Бач. 56. ...*„язык прырок, але ня розум"...* — Падобная думка спатыкаецца ў Эўрыпідэса („Гіпполітос", 612).

Бач. 60. ...*ад Дзіяцімы з Манцінэі, якая была мудрай...* — Дзіяціма, мудрая жанчына зь места Манцінэі (Пэлёпоннэз), адумысна ўведзеная Плятонам постаць як свайго роду вучыцелька Сакратаса.

Бач. 63. *Порос і Пенія.* — Пэрсоніфікацыя багацьця і беднасьці. Тут варта зьвярнуць увагу, што гр. Πόρος — у першую чаргу значыць сродак або шлях, які вядзе да мэты. Згэтуль — Порос — гэта сродак, шлях прадпрыняцьце, ініцыятыва, што вядзе да апошняе свае мэты — дастатку, багацьце, заможнасьці. З другой стараны, Πενία — гэта ўвасабленьне адсутнасьці ініцыятывы, абыякавасьць, а згэтуль у першую чаргу беднасьць духа, а пасьля ўжо, як апошні тут рэзультат — беднасьць матэрыяльная, нэндза.

Бач. 69. ...*Прыгожасьць зьяўляецца Удзельніцаю і Валадаркаю і Дапамогаю...* — Тут Прыгожасьць утоесамліваецца з Мойрай або лёсам, з прадназначэньнем (прэдэстынацыя), [гр. Μοῖρα — багіня лёсу], удзелам, валаданьнем, узьніканьнем (раджэньнем); Эйлейціія(Εἰλειθυία) — багіня дзіцячага пароду зьяўляецца з дапамогаю ў часе радовых боляў.

Бач. 72 *Кодрос* — сын Мэлянтоса і апошні легэндарны кароль Атэнаў, які ў часе інвазыі дорыйцаў ахвяраваў самога сябе з мэтаю ацаленьня ўласнага места. Сівая вестка пра здарэньне кажа, што, калі дорыйцы даканалі інвазыі на Аттыку з Пэлёпоннэзу, аракул асьведчыў, што апошнія стануцца пераможнікамі, калі кароль астанецца жывым. Чуючы гэта, кароль пастанавіў ахвя-

раваць самога сябе, каб ратаваць бацькаўшчыну. Пераапрануўшыся, ён перайшоў у вабоз ворага, і ў спрэчцы з жаўнерамі быў забіты. Калі дорыйцы даведаліся пра сьмерць караля Аттыкі, яны вярнуліся дамоў. Чын караля нагэтулькі выдаўся людзям Аттыкі высокім, што яны не знайшлі з-пасярод сябе нікога вартым займець каралеўскі пасад і гэтым самым каралеўская годнасьць была зьнесена. Мэдон, сын Кодроса, быў назначаны дажывотня архонтам, г. зн. найвышэйшым урадоўцам у Атэнах.

Бач. 73. *...Лікурґос з Лякедаймону...* — Лікурґос уважаецца агульна за спартанскага правадаўцу. (Гл. Гэродотос, Кніга першая, *Кліё,* 65-66).

Бач. 80. *...віно ахаладжваюгую гашу...* — Гэта быў адумысны зьмяшчальнік у хворме большае чашы, у якім ахаладжвалася віно пры помачы лёду.

*...кацілаў восем...* — Каціла (κοτύλη) — мера цякоміны ў старажытнай Грэцыі. Адна каціла раўнялася прыблізна палове ангельскай пінты або крыху болей як адной чацьвертай літра. Згэтуль, 8 кацілаў — болей двух літраў.

*...О, Эрыксімахос, найлепшы сын...* — Тут Алькібіядэс праяўляе паэтычны стыль.

*...Лепшы ад іншых людзей...* — „Іліяда“, XI, 514.

Бач. 81. *...даць наказ Сакратасу...* — Старшыня банкету ці тоастмайстра называўся сымпозіярхам (συμπόσιον, ἄρχω), да ролі якога, сярод іншага, належала гэтаксама падаваць тэму для прамовы суседу з правае стараны. На прамоўцу, кончыўшага сваё слова, прыпадала цяпер роля сымпозіярха, г. зн. даць наказ гаварыць свайму суседу справа, і асабліва тады, калі тэма прамоваў ня была агульнаю.

Бач. 82. *...ён падобны на сіленасаў...* — 1. Сіленас, сябра Бахуса, найболей ведамы з-пасярод сатыраў. У малярскім мастацтве выяўляўся ён звычайна як муску-

лісты і задзірысты стары чалавек, едучы на асьле і пераважна ў стане п'яным. 2. Сіленас — фігурка ў відзе сіленаса, якая расчынялася і зь якой, калі зьняць другую палавіну, „можна бачыць на ўзьняцьці выяўленьні багоў".

Бач. 82. *...ён падобны на Сатыра Марсіяса.* — Праўдападобна Алькібіядэс мае на ўвазе Марсіяса зь ведамае скульптурнае групы ведамага грэцкага скульптура V стагодзьдзя п.н.э. — Мірона. Група Мірона „Атэна і Марсіяс" знаходзілася на атэнскім Акраполісе.

Бач. 82. *Олімпос* — вучань Марсіяса. Паводля старога пераказу быў першым з пасярод мітычных вынаходнікаў музыкі на дудцы.

Бач. 86. *...віно ня было праўдзівым...* зь дзяцьмі ці без дзяцей... — Выслоўе само гучэла: „Віно і дзеці зьяўляюцца праўдзівымі".

Бач. 88. *...выменіць медзь на золата...* — Алюзыя да Гомэра, калі Дзіёмэдэс выменьвае сваё бранзовае аружжа на Гляўконавае залатое. „Іліяда", VI, 234.

Бач. 89. *...ў выправе супроць Поцідаі...* — Выправа гэтая адбылася ў 432 г. п.н.э. Поцідая — места і старажытная карынцкая калёнія, паложаная ў звужанай частцы Пальленскае поўабтокі ў Македоніі, недалёка сучаснае Пінакі. У 432 г. п.н.э. места збунтавалася супроць Атэнскага аб'яднаньня (Дэлійская Ліга), што сталася беспасярэдняю прычынаю сэрыі войнаў пад гістарычным назовам Пэлёпоннэскае вайны. Сама аблога Пацідаі пачалася восеньню гэтага-ж самага году, і трывала болей двух гадоў. У 429 г. п.н.э. места было здабыта атэнцамі. У часе гэтае выправы Сакратас знаходзіўся прыблізна ў 37 годзе свайго жыцьця, а Алькібіядэс — прыблізна ў 19 годзе.

*...„Чын прадпрыняў свой і выканаў..."* — Гомэр, „Одыссэя", IV, 242.

Бач. 90. *...з-пад Дэліёну...* — Бітва пад Дэліёнам мела

месца ў 424 г. п.н.э., у якой спартанцы перамаглі атэнцаў.

Бач. 91 *...выражаюгыся тваімі, Арыстофанэс, словамі...* — „Воблакі“, 362.

*Брасідас* — выдатны і ведамы спартанскі стратэг з часоў Пэлёпоннэскае вайны.

*Пэрыклес* — у старажытнай Грэцыі ведамы слаўны дзяржаўны муж, стратэг і аратар.

*Нэстор* — успамінаны у Гомэра як і ў грэцкіх лягэндах — валадар (часамі называны каралём) Пылёсу ў Мэссэніі (зах. Пэлёпоннэз). Разам з грэкамі браў удзел у выправе супроць Трої, у часе якой заслыў як разумны і дасьведчаны жыцьцём райца. Паводля Гомэра, адзначаўся мудрасьцю і вымоваю. Пасьля павароту ў Пылёс адведаў яго легэндарны Тэлэмахос, сын Одыссэуша і ягонае жонкі Пэнэлёпы.

*Антэнор* — праўдападобна гутарка тут пра аднаго з найболей мудрых старшынь места Трої.

Бач. 92. *Эўтыдэмос.* — Пад гэтым імем выступае ў Плятона сучасьнік Сакратасу сафісты з Хіёсу. Ягоным імем названы адзін з дыялёгаў Плятона. — Але тут, у „Сымпозыён“ успамін пра нейкага іншага Эўтыдэмоса, сына Дзіяклеса, пра якога гэтаксама прыгадвае і Ксэнофонт у сваім творы п.т. „Успаміны пра Сакратаса“. IV, I, 40.

Бач. 95. *...Прыйшоўшы ў Лікейён...* — Лікейён (Λύκειον), назоў гаю пры сьвятыні Апольлёна Лікейскага (ад Λύκειος) у паўдзённа-усходняй частцы Атэнаў за мястовым валам, дзе навучаў Арыстотэлес.

## ІЁН

Бач. 101. *...Іёну радавацца!...* — χαίρειν, як у арыгінале, або χαῖρε ці χαίρειν λέγω σοι, χαίρειν νόῳ — радуйся, радуйся ў духу (у розуме), радавацца, радавац-

ца (кажу) табе — гэтымі і выводнымі адсюль выражэньнямі грэкі віталіся пры спатканьні і разьвітаньні.

*...з Эфэзу?...* — Эфэз — галоўнае зь дзьвенаццаці іёнскіх местаў на ўзьбярэжжы Малое Азыі, паводля старадаўнага пераказу, заснованы сынам Кодроса. (Гл. Айліян, „Рознаколерныя апавяданьні", Кніга восьмая, апавяданьне 5).

*...з Эпідаўросу,...* — Эпідаўрос — места, паложанае на ўсходняй частцы Пэлёпоннэзу.

*...спаборніцтвы рапсодаў?...* — Рапсод у старажытнай Грэцыі — вандроўны і прафэсыйны песьняр, які пераважна пад акампаніямант ліры пяяў або рэцытаваўваў на публічных выступленьнях эпіцкія творы. У часе гэтакіх выступаў рапсоды часта сваім мастацтвам даводзілі слухачоў да зьдзіўленьня, сьмеху або сьлёзаў.

*...на Панатэнаях!...* — Пан-атэнаі — гэта найболей урачыстыя сьвяты ў старажытных атэнцаў на чэсьць апякункі іхнага места — багіні мудрасьці, рамяства і ваеннага мастацтва — Атэны, з удзелам ґімнастычных паказаў, музычна-рэцытацыйных спаборніцтваў і пышнаю працэсыяю на Акрополіс. Абыходжана два сьвяты: г. зв. τα μεγάλα (вялікія)) і τα μικρά (малыя). Сьвяты мелі на мэце прыпомніць людзям Аттыкі іхнае аб'еднаньне, дакананае калісьці Тэсэусам.

Бач. 102. *...Мэтродорос Лямсакійскі...* — (330-277) паходзіў зь Лямпсакос.

*...Стэсімбротос Тасійскі...* паходзіў з Тасос, рапсод і гісторык з часоў Пэрыклеса і ягонага палітычнага апанэнта, Сымона. Гомэра інтэрпрэтаваў у сэнсе алегарычным.

*...гомэрыды...* — ʽΟμηρίδαι — род паэтаў на абтоцы Хіёс (на захад ад Клязомэны), якія, паводля традыцыі, пачатак свой выводзілі ад Гомэра, да якога адносіліся зь вялікаю пашанаю. Яны пялі і рэцытавалі творы Гомэра.

*...Архілёхос...* — адзін з ранейшых старажытных грэцкіх лірычных паэтаў з Паросу.

Бач. 106. *Поліґнотос* — сын Аґляафона, грэцкі маляр-мастак, паходзіў з абтокі Тасос. Каля 463 г. п.н.э. прыбыў у Атэны, дзе атрымаў грамадзянства гэтага места.

*Тэодорос з Самосу* (абтока), скульптар V ст. п.н.э.

*Эўрыпідэс* жыў прыблізна ў гадох 480-406 п.н.э. Агульна ўважаецца трэйцім (пасьля Айсхілёса і Софоклеса) найбольшым трагічным паэтам Аттыкі. Паводля традыцыі, уроджаны ў Салямісе (востраў і места), знаходзіўся ў блізкай лучнасьці з Сакратасам. У сваей творчасьці прадстаўляў людзей „не такімі, якімі яны павінны быць, але гэткімі, якімі яны зьяўляліся“.

Бач. 107. *Магнітны камень,* або магніт; назоў выводзіцца ад назову места Маґнэзыі ў Тэссаліі, недалёка ад якога знаходзілася багатая ў магнітны жалязьняк г. зв. Гэраклея Лідзікійска.

*Корыбант* (Κορύβας, αντος) — сьвятар Кібэлі, які ўдзельнічае ў сьвяткаваньні містэрыяў з апанаванымі танцамі пад гукі тымпанаў і цымбалаў.

*...энкоміі...* — Энкомія — гымн на чэсьць пераможніка або гымн пахвалы.

*...гіпорхэмы...* — Гіпорхэма (ὑπορχήμα) — у грэцкай старажытнасьці род песьні, пяянай часткаю хору пад танец і не́мы паказ.

Бач. 108. *...ямбы...* — Ямб (ἴαμβος) — у літаратуры памер вершаваньня, якога стапа ў старажытным вершы складалася з кароткага і доўгага складу. Беларускі ямб складаецца з двох складоў —не пад націскам і пад націскам, напрыклад: *Плывуць наўзгад бяз ветразяў гаўны...* (Міхась Кавыль).

Бач. 109. *Одысэўш* — кароль (ці правадыр) Ітакі, паварот якога з Троі да Ітакі творыць зьмест старажытнае эпічнае паэмы „Одыссэі“, аўтарам якое зьяўляецца Гомэр.

*...высыпае сабе пад ногі стрэлы...* „Одыссэя“, XXII, 2.

*Андромаха* — жонка Гэктора („Іліяда“, VI, 370-502).

*Гэкуба* — дачка Дымаса ў Фрыґіі або Кіссэіса — караля Трацыі, жонка Прыяма, траянкскага караля, якому яна радзіла Гэктора, Парыса і іншых дзяцей.

*Антылёхос* — сын Нэстора і ваяр супроць Троі.

*Патроклёс* — прыяцель Ахільлеса.

Бач. 113. *прамнійскае віно* (Πράμνειος або Πράμνιος οἶνος) гэтак названае ад гары Прамнэ на востраве Ікарыя.

Бач. 114. *Мэлямпос,* сын Амітаона, прадказальнік і лекар. Аб ім кажацца, што ён увёў у Грэцыю культ Дыянізоса.

Бач. 114. *Тэоклімэнос* — вяшчун і прадказальнік, сын Поліпідэса з Гіпэрасыі, нашчадак Мэлямпоса.

Бач. 118. *...лякедаймонцаў...* — Ад Лякедаймон — сталіца Ляконіі, гэтаксама як і сама Ляконія або Спарта.

*Апольлёдорос з Кізікосу, Фаностэнэс з Андросу і Гэраклейдэс з Клязомэны* — былі атэнскімі стратэгамі (гэнэраламі). У сваіх „Рознаколерных апавяданьнях“ у кнізе чатырнаццатай, у апавяданьні, абазначаным цыфраю 5, Кл. Айліян (III ст. н.э.), які пісаў пагрэцку, пра двух з успомненых стратэгаў і характар атэнцаў, кажа: Атэнцы выбіралі на дзяржаўныя і вайсковыя становішчы ня толькі адказваючых на гэтыя месцы сваіх грамадзян, але і чужынцаў, якім даручалі ўладу, калі толькі ім было ведама, што апошнія мужнымі зьяўляюцца і здольнымі быць карыснымі. Апольлёдорос з Кізікосу і Гэраклейдэс з Клязомэны, напрыклад, неаднойчы былі выбіранымі на становішча стратэгаў. Яны годна праявілі сябе і дзелягэтага былі ўважанымі за годных станўць на чале атэнцаў. Атэнцаў трэба хваліць за тое, што яны ня імкнуліся прыпадхлебвацца ўласным грамадзянам за кошт праўды, і высокае даверра праяўлялі грамадзянам не паводля нараджаньня, калі яны заслугоўвалі на гонар сваім мужствам.

*...Ці-ж вы, эфэзцы, не зьяўляецеся атэнцамі з давендаўна...* — Алюзыя да старога пераказу, паводля якога, Эфэз і іншыя месты на Іёнскім узьбярэжжы былі заснаванымі грэкамі, прыбыўшымі сюды калісьці з Атэнаў.

# ІНДЭКС

